# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1-2 ( 25-26 ) СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 2004 г.

## *У НУМАРЫ:*



## ПА ЛІДЗЕ БОГ ХАДЗІЎ

*У 1943 годзе беларускі камуністычны паэт Валянцін Таўлай, арыштаваны немцамі, быў выкуплены з нямецкай вязніцы за грошы, сабраныя жыхарамі горада Ліды.*

**Паэтаў саджалі ў вязніцы спрадвеку,**
**І тое за дзіва ніхто не лічыў,**
**У вершах свабодным**
**ён быў чалавекам,**
**А кожны царок за свабодай сачыў.**

**Не стала цароў - пільнавалі баяры,**
**Баяраў не стала - сачыў сабакар,**
**Ды толькі заўсёды і краты, і нары**
**Ахвотна паэтам падносілі ў дар.**

* * *

**Не велькае дзіва: схапілі Таўлая**
**І гэдак, як многіх, шпурнулі ў турму.**
**Не важна: была там віна і якая?**
**Асвенцым замроіў праз краты яму.**

**Ды ждзіўнае дзіва забачыў свет гэты,**
**Такога не зналі ў тутэйшай зямлі,**
**З нямецкай вязніцы дасталі паэта**
**За грошыкі тыя, што людзі далі.**

**На хлеба кавалак самім не ставала,**
**І лёс невядомы чакаў за вуглом,**
**На выкуп Таўлая ўся Ліда збірала,**
**Завязваўшы пояс мацнейшым вузлом.**

**Ад шчырага сэрца, напэўна, давалі,**
**Бо грошыкі тыя на справу пайшлі.**
**Паэта ад смерці яны ўратавалі**
**На славу і гонар радзімай зямлі.**

* * *

**А я вось, пачуўшы гісторыю гэту,**
**Прыдумаць выснову адзіную змог:**
**Як тут выкуплялі з палону паэтаў,**
**То, значыць, хадзіў па зямлі гэтай Бог.**

*Станіслаў Суднік.*



**Валянцін Таўлай (26.01.1914-27.041947)**

**беларускі паэт, у 1939-41 гг. працаваў у лідскай газеце “Уперад”**

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1-2 ( 25-26 ) СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 2004 г.


# Лідзяне ці лідчане?



Назвы людзей паводле месца іх пражывання ці жыхарства маюць розную мадэль утварэння. З старажытнасці прадукцыйныя ўтварэн-ні асабовых назоўні-каў множнага ліку з фармантам ***-яне*** (суфікс ***-ян-*** і канчатак ***-е***): *Гомель – гамяляне, Мазыр – мазыране, Бярэсце – берасцяне, Гародня – гарадняне, Зэльва – зальвяне.*

Акрамя таго пры ўтварэнні гэтых асабовых назваў прымаюць удзел: а) суфікс ***-ец*** (у множным ліку фармант ***-цы, -енцы, -ейцы***: *берасцейцы, гарадзенцы, зэльвенцы, магілёўцы*; б) суфікс ***-чук-(і)***: *мінчукі, пінчукі, гамельчукі*; в) суфікс ***-чан-(е)***: *мінчане, баб-руйчане, гамяльчане.*

Форма на ***-чане*** – вынік уплыву ўсесаюзнага стандарту. Нярэдка гэта вядзе да парушэння структурна-сістэмавых нормаў беларускай нацыянальнай мо-вы. Так, у перыядыч-ным друку сустра-каем: *брэстаўчане.* У гэтым слове ненар-матыўнае напісанне літары ***э*** ў ненаціск-ным складзе і гру-васткі фармант ***-аў-чане***. А натуральна горад над Бугам мае беларускае найменне ***Бярэсце*** (гэта засвед-чана стара-жытнымі помнікамі), а яго жыхары – ***берасцяне*** ці ***берасцейцы***.

Структурна апраўданай і ёсць форма ***лідзяне*** – жыхары горада Ліды. Як і аднатыпныя ўтварэнні (ад двух-складовых геаграфіч-ных назваў) ***мазыра-не*** (ад Мазыр), ***за-львяне*** (Зэльва) і пад. Апошняе пацверджа-на і тапанімічна. Так адна з вёсак, што ўлілася ў горад Масты, стаяла на рэчцы Зяльвянцы і мела назву ***Зяльвяне***.

Польская мова, якая не падпадала пад уздзеенне ўсесаюзнага стандарту таксама захавала форму ***лідзяне***, хаця ўласнапольскія наз-вы людзей паводле месца жыхарства ўтвараюцца з дапа-могай іншых суфік-саў.

***Доктар філалагічных навук, прафесар Павел Сяцко.***





Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.


ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

**Наклад 350 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на ўласным абсталяванні.

Часопіс падпісаны да друку 3. 11. 2004 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1150 руб.
індывід. 6 мес.- 2300 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# КРОНІКА ЛІДЫ

**30 снежня 2003 года ў Лідзе пасля рэканструкцыі адчыніў дзверы новы будынак жаночай кансультацыі па вул. 8 сакавіка**






*Лідскімедыцынскі выцвярэзнік*

**1 студзеня 2004 года ў Лідзе аднавіў дзейнасць медыцынскі выцвярэзнік**

**У студзені 2004 года Лідская друкарня пачала друк новага тэлефоннага даведніка для г. Ліды і Лідскага раёна**







**9 лютага 2004 года прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў указ аб аб'яднанні горада Ліды і Лідскага раёна ў адну адміністрацыйную адзінку Лідскі раён**

**У лютым 2004 года Міхаілу Рышкевічу з в. Бешанкі Мажэйкаўскага сельсавета прысвоена званне “Народны майстар” у намінацыі - разьба па дрэву**



*Міхаіл Рышкевіч (сядзіць) са сваімі работамі*



*Павел Шурмей*

**22 лютага ў Бостане на чэмпіянаце свету па грэблі ў закрытых памяшканнях Павел Шурмей стаў чэмпіёнам свету**

**19 лютага прэзідэнт даў згоду, а сесія Лідскага раённага савету дэпутатаў зацвердзіла старшынём Лідскага раённага выканаўчага камітэту**
**Худыка Андрэя Паўлавіча.**
**Тая ж сесія абрала старшынём Лідскага раённага савету дэпутатаў**
**Цімчанку Уладзіміра Анатолевіча.**

***Худык Андрэй Паўлавіч нарадзіўся ў 1959 годзе, скончыў Ленінградскі сельгасінстытут, вучоны анраном. З 2003 года вучыцца ў Расейскай акадэміі дзяржаўнай службы пры прэзідэнце Расейскай Федэрацыі. Да прызначэння ў Ліду працаваў старшынём Дзятлаўскага райвыканкаму.***



*Андрэй Худык*



*Уладзімір Цімчанка*

***Цімчанка Уладзімір Анатолевіч нарадзіўся ў 1949 годзе, скончыў Магілёўскі тэхналагічны інстытут, Менскую вышэйшую партыйную школу, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Узначальвае Лідскі райсавет з 1995 года.***

**На Гарадзенскіх абласных прадметных алімпіядах прызавыя месцы занялі:**

**1-е месца**

**Ліцьвін Дзяніс**, 11 клас, гімназія, астраномія
**Мацвіеня Сяргей**, 9 клас, СШ №11, геаграфія
**Кукліс Марыя**, 10 клас, СШ №11, геаграфія
**Клыш Андрэй**, 10 клас, СШ №8, англійская мова
**Закрэўская Елізавета**, 11 клас, гімназія, нямец. мова
**Анацка Зміцер**, 9 клас, гімназія, гісторыя
**Бітэль Юры**, 10 клас, гімназія, гісторыя
**Герасімовіч Вольга**, 11 клас, гімназія, руская мова
**Гудзень Анастасія**, 11 клас, гімназія, руская мова
**Госцік Вікторыя**, 11 клас, гімназія, беларуская мова
**Шапавалаў Станіслаў**, 8 клас, гімназія, матэматыка
**Кандраценя Андрэй**, 8 клас, гімназія, матэматыка
**Вайніловіч Лілея**, 9 клас, гімназія, матэматыка
**Касяк Аляксандр**, 11 клас, гімназія, матэматыка
**Ланкевіч Аляксандр**, 7 клас, гімназія, матэматыка
**Анацкі Анатоль**, 8 клас, СШ № 16, матэматыка
**Памаха Зміцер**, 11 клас, СШ № 16, матэматыка

**2-е месца**

**Ясючэня Дзіяна**, 11 клас, гімназія, біялогія
**Масла Юры**, 10 клас, ліцэй, геаграфія
**Багатаў Вадзім**, 11 клас, гімназія, геаграфія
**Якубец-Якубчык Наталія**, 11 клас, СШ № 8, англійская мова
**Аўрамчык Людміла**, 11 клас, гімназія, нямец. мова
**Малец Тацццяна**, 10 клас, гімназія, нямецкая мова
**Туранцава Тацццяна**, 11 клас, гімназія, іспанск. мова
**Марук Святлана**, 11 клас, СШ № 14, франц. мова
**Міхалковіч Крыстына**, 10 клас, гімназія, рус. мова
**Папкова Аляксандра**, 10 клас, гімназія, белар. мова
**Алекса Альберт**, 10 клас, гімназія, матэматыка
**Курыла Зміцер**, 10 клас, гімназія, матэматыка

**3-е месца**

**Ётка Сяргей**, 10 клас, СШ №6, біялогія
**Абазоўскі Ілля**, 9 клас, СШ №1, біялогія
**Грэсь Ганна**, 10 клас, гімназія, хімія
**Лаўрэш Тацццяна**, 11 клас, гімназія, хімія
**Заяц Аляксандр**, 10 клас, СШ №1, інфарматыка
**Шумовіч Яўген**, 11 клас, гімназія, інфарматыка
**Пашкевіч Дзяніс**, 11 клас, СШ №1, геаграфія
**Нескіна Анастасія**, 10 клас, гімназія, іспанская мова
**Дудзіч Марына**, 10 клас, гімназія, іспанская мова
**Паўлюкевіч Сяргей**, 11 клас, СШ №5, гісторыя
**Данцова Маргарыта**, 9 клас, СШ № 15, рус. мова
**Лебедзь Анастасія**, 10 клас, СШ № 16, руская мова
**Ярэміч Алена**, 11 клас, СШ № 9, беларуская мова
**Арцюхоў Максім**, 11 клас, гімназія, матэматыка
**Раманцэвіч Ілля**, 7 клас, гімназія, матэматыка
**Буча Мікалай**, 9 клас, СШ №16, матэматыка



*Пераможцы і прызёры рэспубліканскіх алімпіядаў на прыёме ў старшыні Лідскага райвыканкаму*

**На рэспубліканскіх прадметных алімпіядах прызавыя месцы занялі:**

**1-е месца**

**Шапавалаў Станіслаў**, 8 клас, гімназія, матэматыка
**Закрэўская Елізавета**, 11 клас, гімназія, нямец. мова

**2-е месца**

**Аўрамчык Людміла**, 11 клас, гімназія, нямец. мова
**Цярэлава Алена**, Мінойтаўская СШ
**Бітэль Юры**, 10 клас, гімназія, гісторыя
**Вайніловіч Лілея**, 9 клас, гімназія, матэматыка

**3- месца**

**Герасімовіч Вольга**, 11 клас, гімназія, руская мова
**Ясючэня Дзіяна**, 11 клас, гімназія, біялогія
**Грэсь Ганна**, 10 клас, гімназія, хімія
**Туранцава Тацццяна**, 11 клас, гімназія, іспанск. мова
**Анацкі Анатоль**, 8 клас, СШ №16, матэматыка
**Кандраценя Андрэй**, 8 клас, гімназія, матэматыка
**Мацвіеня Сяргей**, 9 клас, СШ №11, геаграфія
**Кукліс Марыя**, 10 клас, СШ №11, геаграфія

**20 сакавіка Міхаіл Бярнадскі з Ліды стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату Еўропы па боксу**



***Міхаіл Бярнадскі***

**13 траўня ордэнам Пашаны ўзнагароджаны лідзянін Грыневіч Адольф Бранівлававіч, брыгадзір мантажнікаў ААТ "Прамтэхмантаж"**



***Старшыня Лідскага райвыканкаму Андрэй Худык уручае ордэн Адольфу Грыневічу***

**У траўні ў Лідзе ў выдавецтве ААТ ВКЦ "Онікс" выйшла кніга Леаніда Вінніка і Міхася Мельніка "Время и судьбы".**
**У кнізе сабраныя біяграфіі найбольш знаных людзей г. Ліды і Лідскага раёна.**



**У пачатку лета ў Менску ў выдавецтве УП "Тэхнапрынт" выйшла кніга Васіля Ліцьвінкі "Спевы пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года" Яна Чачота 1842-1844 гадоў. Гістарычны эпас беларусаў." У кнігу ўвайшлі 55 баладаў Яна Чачота ў перакладзе на беларускую мову з нотамі музыкі, напісанай беларускімі кампазітарамі. 24 балады пераклаў Кастусь Цвірка, 31 баладу пераклаў Станіслаў Суднік. Ім жа напісаны адзін з уступаў і заўвагі да ўсіх баладаў.**





***Асвячэнне помніка на магіле Ю. Саковіча і Л. Маракова***



***Вольга Саковіч ля магілы бацькі***

**18 чэрвеня ў Лідзе ўстаноўлены помнік на магіле заснавальнікаў падпольнай "Беларускай незалежніцкай партыі" Юліяна Саковіча і Леаніда Маракова.**
**На помніку надпіс:**
***"Юліян Саковіч***
***24. VIII.1906 - 13. VI.1943***
***Леанід Маракоў***
***1914 - 13. VI.1943***
***Загінулі за Бацькаўшчыну".***

**24 чэрвеня лідская юнацкая каманда па веславанні здабыла Кубак спартакіяды Беларусі.**
**У складзе каманды:**
**Валянціна Янушэўская**
**Вераніка Віцуковіч**
**Іна Якімчук**
**Насця Лявон**
**Віталь Дукі**
**Зміцер і Андрэй Качынскія**
**Андрэй Якубовіч**

**Трэнеры:**
**С. Г. Яновіч**
**А. А. Скоблікава**
**А. Ю. Юрчанка**
**І. П. Таратута**



***Лідскія юныя весляры***

# Кроніка

Лідскі гістарычны каляндар

# айкумены

## студзень – чэрвень

**1204 год.** “Победиша Олговичи Литву избиша их.”

**1394 год, студзень - сакавік.** Паход крыжакоў на Навагародак і Ліду. Безпаспяховы штурм замка. Адступленне цераз Дзітвянскія балоты.

**1414 год.** Аднаўленне Лідскага касцёла Ўсіх Святых і Святога Крыжа.

**1424 год.** Эпідэмія “мор железою и отхарк кровью” ў Літве, на Русі і ў Немцах.

**1434 год.** Вялікі князь Жыгімонт Стары выдаў прывілей, які ўраўноўваў правы каталіцкай і праваслаўнай шляхты.

**1504 год**. Вялікі князь Літоўскі і кароль польскі Аляксандр выдаў Мікалаю Пятровічу Кішку прывілей на в. Палубнікі (першае ўпамінанне).

**1524 год.** Згадваецца другая царква ў Лідзе.

**1534-1537 годы.** Пятая ліцьвіна-руская “Старадубская” вайна.



**Жыгімонт Стары**

**1554 год, 14 сакавіка.** У Беліцы падпісаны межавы акт паміж землямі в. Леснікі, якая належала да Лябёдскага двара пана Ераніма Хадкевіча, кашталяна троцкага з землямі вялікакняскімі беліцкімі (да дуба “Лысага”)

**15 сакавіка.** У Лебядзе падпісаны межавы акт паміж лябёдскімі землямі Ераніма Хадкевіча і маёнткам Радзівонішкі Яна Камаеўскага.

**1564 год.** Прывілеем Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта- Аўгуста Лайкаўшчызна (на сёння мікрараён Ліды) адышла ва ўласнасць Мацарскага.

**1584 год, 14 траўня, чацвер.** Стараста лідскі Ян Станіслававіч Абрамовіч паслаў свайго службоўца Яна Шурскага з падданнымі і памочнікамі ў Станескі сасновы бор, што знаходзіцца ў Троцкім павеце над ракой Віліяй, якія высеклі 20 коп (капа - 60 штук) сосен і вывезлі іх.

**1594 год, 30 красавіка.** Якуб Макрэцкі з жонкай Феліцыянай (у дзявоцтве Фурсінай) прадалі належную ім частку Ліпічна з зямлёй Відугораўскай князю Юрыю Радзівілу-ваяводзе наваградскаму.

**1604 год.** Першае выданне карты ВКЛ Макоўскага.

**1644 год, 26 красавіка.** Князь Януш Радзівіл падкаморы ВКЛ аддзяліў ад гаспадаркі сваёй Ліпічна дзве валокі і трэць зямлі Відугораўскай, на якой сядзелі баяры Гоман і Сутока, падарыў яе слузе свайму Мартыну Крупялю.

**1654 год, 20 (30) траўня.** Пачатак 13-гадовай вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай.

**1664 год, 1 красавіка.** Голдаўскай царкве епіскапам К.Трызнай ахвяраваны звон. У Голдаве была царква Святого пакутніка Хрыстафора.

**1674 год.** Езуіты адбудавалі Тракельскі касцёл.

Абноўлены і асвечаны суфраганам Слупскім драўляны Лідскі касцёл пасля прыезду кс. Роберта.

**1754 год.** У Радзівонішках пабудавана драўляная ўніяцкая Свята-Ганнінская царква.

**1754 год.** У Лідзе пабудаваны драўляны бязвежавы касцёл, пакрыты гонтай. Асвечаны ў імя Святога Іосіфа Каласанты.

**1774 год.** У Ганчарах памешчыкам Салагубам пабудавана драўляная прыходская царква.

У Дакудаве пабудавана драўляная царква.

**1784 год.** Бенядыкт Гаровіч па тастаманту перадаў Валерыяну Шашкевічу прыёру лідскага кармеліцкага клештара 3000 злотых.



*Дом Касцюшкі, адноўлены ў Мерачоўшчыне (Берасцейская вобласць) ў 2004 годзе*

**1794 год, 24 красавіка.** Абвяшчэнне Віленскага Акта паўстання, стварэнне Найвышэйшай Рады Княства Літоўскага, вызваленне Вільні ад расейскіх войскаў. Далучэнне тэрыторый ВКЛ да паў-стання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Акт паўстання на Віленскім рынку абвясціў **лідскі стражнік і лідскі лоўчы Юры Белапятровіч.**

**1804 год, 22-24 траўня.** Школьны дом піярскага калегіюму забраны пад палкавую капліцу.

**1814 год.** Справа ў земскім судзе па спрэчцы лідскага бурмістра Маскалевіча з ксендзам Нарбутам за ўчастак зямлі ў Лідзе.

**1824 год.** Справа ў лідскім земскім судзе па спрэчцы Мар'яны Выцягоравіч з былым апекуном Андрэйкавічам за правы на валоданне фальваркам Андрэйкавічы.

**1864 год, 10(22) сакавіка.** Страта К.Каліноўскага ў Вільні на Лукішскай плошчы.

**1874 год, 1 студзеня.** Тэлеграфістам 4 класа стаў Юзаф Харновіч (Гарновіч).

**1894 год, 1 сакавіка.** Начальнікам Лідскай паштова-тэлеграфнай канторы прызначаны Якаў Булгакаў.

**1904 год, сакавік.** Створана Лідская група РСДРП.

**1914 год, 1 студзеня**. У Беліцы адкрыта паштова-тэлеграфнае аддзяленне, тэлеграфная лінія працягнута ад ст. Нёман.

**8 студзеня.** Міністр Скарбу (Казначэйства) са згоды Міністра ўнутраных спраў, а таксама галоўнакіраўнік сельскагаспадарчых рэформ зацвердзіў для сялянскага Банка новы рэестр зон і ставак. Лідскі павет раздзелены на 2 раёны. Ворыўная зямля за дзесяціну - 70 рублёў, іншая- 60 рублёў.

**1914 год, 16 красавіка.** Падпаручнік Я.П.Вятчынкін з механікам Кавальчуком загінулі ў Лідзе пры палёце на самалёце "Ньюпар".

**1924 год, 31 студзеня.** Лідская залога купіла ў пані Шалевіч фальварак Бароўку (48,5 гектараў) і падарыла яго "Патрону Залогавых Казарм" 77 пяхотнага палка генералу Э. Рыдз-Смігламу.

**25 траўня.** У прысутнасці Прэзідэнта Польшчы Станіслава Вайцахоўскага на Лідскіх вайсковых могілках у фундамент пад манумент закладзены спісы загінуўшых воінаў 77 палка.

**1944 год, 4 студзеня.** У будынку гэбітскамісарыяту(педкаледж) прайшлі перамовы паміж штурмфюрарам Койцанам і ротмістрам "Тэафілам Лепестыновічам" (Юзаф Свіда, Лех). Немцы гарантавалі свабоду дыслакацыі, абавязаліся даць амуніцыю, зброю, медыкаменты, транспарт для дастаўкі цяжка параненых у Лідскі вайсковы шпіталь, згоду на вярбоўку ў свае шэрагі навабранцаў, згоду на скарыстанне маста каля в. Агароднікі для пераходу цераз Нёман. Акаўцы абяцалі: не весці баявых дзеянняў супраць немцаў, ачысціць ад чырвоных партызан раён Ліда-Поўдзень: Беліца-Дакудава - Жалудок - Шчучын- Васілішкі, перадаваць нямецкаму камандаванню інфармацыю аб дыслакацыі чырвоных партызан.

**1944 год, ноччу з 18 на 19 студзеня.** Аддзел з 11 чалавек пад камандаваннем Альфрэда Фрыеса "Бэз" ("Рончы", "Гуцул", "Куля", "Шчарбаты", "Сашка", "Стрэмка", "Ружа", "Здзіслаў", "Енчык", "Гром") вызваліла з Лідскай турмы 69 вязняў - членаў АК і іх памочнікаў па загадзя падрыхтаванаму спісу. Ім дапамагаў вартаўнічы Круцька. Быў забіты шэф турэмнай аховы "ўласавец" Сарокін, усе 69 чалавек цераз могілкі і р. Лідзейку былі выведзены за межы горада. Удзельнікі акцыі ўзнагароджаны "Крыжамі валечных", а "Бэз" і "Рончы" - крыжамі "Віртуці Мілітары".

**1944 год, 28 студзеня.** Знішчаны карны аддзел Бярозаўскай залогі (26 паліцыянтаў і 8 немцаў), у гэтай аперацыі прымалі ўдзел партызаны 4 аддзелаў: "Іскры", "Кастрычніцкага", "Балтыйца" і імя Арджанікідзэ.

**1944 год, 1 лютага.** Група з дапаможнай чыгуначнай паліцыі ст. Ліда Дварэцкі, Якубаў, Ставіцкі падлажыла магнітную міну ў пост цэнтральнага кіравання чыгункі. Раніцай міна падарвалася.

**1944 год, люты.** На базе 312 аддзела "Рагнера" створаны 4-ты батальён 77 пяхотнага палка.

**1944 год, 23 лютага.** Па загаду, падпісаным гауляйтарам Беларусі групэн-фюрарам СС і генерал-лейтэнантам паліцыі фон Готбергам, акруга Ліда выключана з спісу акругаў для стварэння Беларускай Краёвай Абароны.

**24 лютага.** У 2.30 ночы падарваны браніраваны вагон, што знайходзіўся на рамонце ў дэпо станцыі Ліда. Знішчаны браніраваны вагон і вагон-салон міністра Усходніх дарог.

**25 лютага.** Згарэў дом, дзе размяшчалася нямецкая ахова чыгункі. Малеўская падпаліла нямецкую казарму па вул. 17 верасня. Казарма цалкам згарэла.

**1944 год, сакавік.** Арганізавана Беларуская Краёвая Абарона (БКА).

Першую Ўсходнюю эскадрыллю (6 самалётаў) перакінулі на лідскі аэрадром. Камандзір - афіцэр царскай арміі Тарноўскі, шэф - обер-лейтэнант Дус. Лётчыкі Шыян, Чарапанаў, Скобчанка (Скопчанка), Маскалец, Карапецян, Чкуаселі. Ляталі на самалётах "Гота" і "Арада", "аэродром быў каля млына, улева ад чыгункі на Баранавічы", жылі ў 4-павярховай казарме на 4 паверсе. На будаўніцтве аэродрома выкарыстоўваліся савецкія военнапалонныя - да 4 тысяч.

**3 сакавіка.** Партызан аддзела "Іскра" Грынько Л.Л. падарваў чыгуначны круг на ст. Ліда. Затрымана 36 паравозаў на 48 гадзін.

**5 сакавіка.** У в. Морына на беразе Нёмана загінуў другі сакратар гаррайкаму ЛКСМБ Васіль Ілліч Шубін.



***Шубін В. І.***


*М. І. Мельнік*

**9 сакавіка.** Спроба Аляксандра Пінчука і Мікалая Мельніка падлажыць магнітныя міны пад крэсла Дрэселя.

**13 сакавіка.** Сёмае паседжанне Лідскага гаррайкама КП(б)Б. Разглядалася пытанне "Аб зрыве абвешчанай немцамі мабілізацыі беларусаў".

**1944 год, 21 сакавіка.** У 24 гадзіны былі кінуты 2 гранаты ў пакой, дзе знайходзіліся 11 немцаў, ранены нам. гебітскамісара Дрэксель, нач. галоўнага аддзела гебітс-камісарыяту Дош, асабісты сакратар Дрэкслера - Адлер.

**22 сакавіка.** У 12 гадзін аддзелам імя Арджанікідзэ на шашы Ліда - Навагрудак з засады мінаваннем шашы знішчаны 2 аўтамашыны. Забіта 12 немцаў, колькасць параненых не ўстаноўлена.

**23 сакавіка.** Шэсть партызанаў з аддзела «Іскра» пад камандаваннем А.А.Балтунова на дарозе Ліда-Навагрудак падарвалі нямецкую аўтамашыну.


**А. В. Пінчук**

**1944 год, красавік.** У Вялікодную нядзелю ў в. Сялец акаўцы расстралялі 12 беларускіх сялян, білі прыкладамі жанчын і дзяцей, зганялі ў хлеў. У той жа дзень расстрэльвалі сялян у Дзітрыках, Ганцавічах, Канюшанах, Ганчарах, Любарах.

На гарадскім стадыёне падчас масавага гуляння адбылася сустрэча Вінаградавай - сувязной брыгады "Няўлоўныя" з лётчыкам Усходняй эскадрыллі Карапецянам.

**4 красавіка.** На вуглу вуліц Перамогі (Беларускай) і Гагарына (Маладварцовай) у 6 вечара чалавекам у кажуху быў забіты камендант лідскай паліцыі Гільдебрам.

**5 красавіка.** Арыштавалі Пелагею Паўлоўскую з мужам па падазрэнні ў забойстве Гільдебрама.

**19 красавіка.** Група партызан аддзела "Іскра» -13 чал, старшы Бажко ў раёне Жыжма –Гаўя падарвала варожы цягнік. Вызначыліся Віленскі, Белабродаў, Арлюк, Кудаш, Рухляддзеў. Камандзіры аддзелаў ім. Чапаева, Фурманава в раёне в. Нёман арганізавалі засаду. Знішчаны бронетранспарцёр, аўтамашыны, сярод забітых оберштурмфюрар Лімюкер (Пімюкер).

**1944 год, 4 траўня.** Агенты "абвергрупы – 307" на кватэры М. Ігнатава арыштавалі сувязную партызанскага аддзела "Балтыец" Л. Акуленка, якая выдала вядомых ёй падпольшчыкаў.

**14 траўня.** На паседжанні падпольнага Лідскага гаррайкама КП(б)Б разглядалася пытанне аб рабоце камандзіра і камісара ПА "Іскра". Работа ацэнена станоўча.


**Паўлоўская П. Ф.**

**15 траўня.** Група ПА "Іскра", старшы Балтуноў, на перагоне Мінойты –Даржы ўзарвала паравоз і 12 вагонаў. Рух затрыманы на 24 гадзіны. Вызначыліся Данейка, Сапешка, Сакалоў, Бурава.

**18 траўня.** Каля в. Альхоўка Наваградскага раёна партызанскі аддзел "Іскра" атакованы падраздзеламі батальёна Арміі Краёвай пад камандаваннем "Рагнера", на дапамогу "іскраўцам" падаспелі партызаны аддзела імя Калініна.

**1944 год, чэрвень.** Усебеларускі кангрэсс у Менску. Пасля кангрэсу адбылася сустрэча актыву Грамады (Хмара, В.Таўлай, Анішчык, Траска). Большасць выступіла за ад’езд у эміграцыю. В. Таўлай у эміграцыю не паехаў.

**14 чэрвеня.** Група партызан ПА “Іскра” ў колькасці 8 чалавек, старшы Даўлюд на перагоне Ліда - Маладзечна арганізавала выбух – разбіта 14 вагонаў з жывой сілай і вайсковымі грузамі. Забіта 180, паранена 80 гітлераўцаў. Вызначыліся Чыркоў І., Кручкін П., Чуча І.

**16 чэрвеня.** Падчас штурму нямецкага шутцпункта ў Еўлашах загінуў паручнік артылерыі, камандзір 7-га батальёна 77 пяхотнага палка Наднёманскага злучэння АК Ян Піўнік (“Пануры”) і 8 жаўнераў. Пахаваны ў в. Ваверка.

**20 чэрвеня.** У ноч пачалася трэцяя аперацыя “Рэйкавая вайна”.

**22 чэрвеня.** Бой ПА “Іскра” ў в. Навіны з немцамі.

**23 чэрвеня**. На світанні пачалася аперацыя “Багратыён” - вырашальны этап бітвы за Беларусь.

**Чэрвень**. Арышты лідскіх камсамольцаў – падпольшчыкаў.

Расстраляны М. Ігнатаў – кіраўнік падпольнай групы.

Агульная колькасць чырвоных партызан па раёнах Лідскай зоны складала 4852 чалавекі, у тым ліку: беларусы - 2371, яўрэі-1356, рускія-831, украінцы-182, палякі-25, іншых нацыянальнасцяў- 87. Прыбылі з мясцовага насельніцтва 2404, з акружэння 236, з палону 505, прысланы з-за лініі фронту 67, з лесу і ад гаспадароў 131, з гета 1196.



***М. М. Ігнатаў***

**1954 год, 8 студзеня.** Ліквідаваныя Баранавіцкая, Бабруйская, Пінская, Палесская і Полацкая вобласці. Горад Ліда, Лідскі, Дзятлаўскі, Казлоўшчынскі, Карэліцкі, Любчанскі, Мірскі, Наваградскі і Слонімскі раёны перададзены ў склад Гарадзенскай вобласці.

**1954 год, 10 лютага.** У Лідскім раёне па зводцы 41 калгас.

**17 лютага.** Ва “Ўперадзе” апублікаваны артыкул гал. інжынера Трацякоўскай МТС Л. Хітруна “Я быў у Крамлі”.

**1954 год, да ліпеня.** Малочна-кансервавы завод выйшаў на поўную праектную магутнасць, перапрацоўваў сыравіну з 6 раёнаў Гарадзенскай вобласці: Лідскага, Воранаўскага, Шчучынскага, Жалудокскага, Іўеўскага (з 1954) і Радуньскага (з 1954).

**1964 год, 6 студзеня.** Аднаўлены Дзятлаўскі раён. З Лідскага раёна забраны сельсаветы, далучаныя 25 снежня 1962 года.

**1974 год, травень.** Народны ансамбль песні і танца “Лідчанка” выступіў на ўрачыстым сходзе ў Беластоку ў сувязі з 29-й гадавінай падпісання савецка-польскай дамовы.

**1974 год, 29-30 чэрвеня.** Святкаванне 30-годдзя вызвалення г. Ліды. Прыязджалі генерал Калюжны, былыя афіцэры 32 кав. дывізіі Маноў Ф.І., Лысенка А.А., Ягораў Ф.С. Бяззубаў А.А.; Герой Савецкага Саюза Балгарын С., партызаны Пянькоўскі І.К., Пралыгін І.А.,

**1984 год, 1 студзеня.** Грашовыя ўклады гараджан - 63 млн. 378 тыс. рублёў.

**1994 год, вясна.** Узнікла парафія ў Маладзёжным, будуецца капліца, ксёндз Станіслаў Пацына.

# Лідскія юбіляры 2004 года

**Варшаўскі Сцяпан** (8.04.1904 - ?) Нарадзіўся ў Лідзе. Амерыканскі матэматык, прафесар універсітэта ў Мінесоце (ЗША).

**Халяўскі Шалом**. Доктар гістарычных навук. Нарадзіўся ў Лідзе ў 1914 г. Падчас Вялікай Айчыннай вайны быў адным з арганізатараў падполля і адным з кіраўнікоў паўстання ў Нясвіжскім гета ў ліпені 1942 года. Пасля ўцёкаў стаў камандзірам партызанскага аддзелу ім. Жукава. У 1948 г. рэпатрыяваўся ў Ізраіль. Абараніў працу "Яўрэйскае падполле ў гета Заходняй Беларусі падчас Другой Сусветнай вайны" на атрыманне доктарскай ступені ў Яўрэйскім універсітэце ў Ерусаліме. Стаў вучоным-гісторыкам з сусветным імем, буйнейшым даследчыкам гісторыі Халакосту на беларускай зямлі. Спецыялісты высока ацэньваюць кнігі Халяўскага "Салдаты з гета" (англ., 1980), "На рэках Нёман і Днепр: яўрэі Беларусі ў Другой Сусветнай вайне" (іўрыт, 1982), "У буры вынішчэння. Яўрэйства ў Заходняй Беларусі ў Другой Сусветнай вайне" (іўрыт, 1988) і інш. Усеагульнае прызнанне атрымалі даклады Халяўскага на кангрэсах па яўрэйскім мовазнаўстве, а таксама падрыхтоўка і рэдагаванне ім кніг пра партызанаў яўрэяў.



***Заспіцкі А. М.***

**Заспіцкі Андрэй Міхайлавіч.** Нарадзіўся ў г. Мазавец (Польшча) 16.02.1924 г., скульптар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Вучыўся ў інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе. Стварыў партрэты Цёткі, А. Міцкевіча, Ф. Шапэна і інш. Аўтар помніка Я. Купалу ў Менску (з С. А. Анікейчыкам і А. Гумілеўскім) - Дзяржаўная прэмія 1974 г. і манумента ў гонар маці-патрыёткі (з І. Місько і М. Рыжанковым) - Дзяржаўная прэмія 1977 г. Аўтар помніка У. І. Леніну ў Лідзе. Помнік быў адкрыты 31.12.1958 г.

**Мазітава Дзінара Рымаўна.** Нарадзілася ў Лідзе 24 сакавіка 1984 г. Бацькі: тэхнік-выпрабавальнік самалётаў Рым Ахметыабіевіч Мазітаў і выкладчык педнавучальні Святлана Афанассеўна (дзяв. Куцярніцкая). Вучылася ў СШ № 11 і 17, лідскай музычнай школе. Закончыла рэспубліканскі навучальны комплекс гімназія-каледж пры Беларускай Акадэміі музыкі (фартэпіяннае аддзяленне, 2002). З 2002 г. студэнтка Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі кампазітарскага і фартэпіяннага аддзяленняў.

Да 4-х гадоў пачала размаўляць вершаванымі фразамі. У 4 гады пайшла ў школу мастацтваў. Вывучала англійскую мову, танцы, маляванне, музыку. Дома быў інструмент. Магла граць, імправізаваць. Пачала сачыняць музыку ў 7 гадоў. Напісала больш 70 п'есаў для фартэпіяна. Лаўрэат 18 конкурсаў: "Надзея-92, 93, 94, 96, 98" у Гародні, музычнага фестывалю "Гімн вялікаму гораду" ў Санкт- Пецярбургу (1995, 3-я прэмія), міжнароднага конкурсу піяністаў імя К. Агінскага, адкрытага фестывалю "Сонечны птах" у Менску (2000), міжнароднага конкурсу піяністаў Pianello Val Tidone у Вал-Тыдоне на радзіме Дж. Вэрдзі (2-я прэмія). Пераможца тэлефестывалю "Усе мы родам з дзяцінства", абласнога фестывалю "Новыя імёны". Напісала дзве оперы "Кветкі пад ліўнем", "Чароўная флейта", сюіты "Нязнайка і яго сябры", "Лясная сюіта"), цыклы "Рознахарактарныя п'есы", "Дзесяць скерца", "Усходнія танцы", "Сельскія сцэны", дзясяткі сачыненняў для фартэпіяна, скрыпкі, віяланчэлі, флейты, мноства песень і рамансаў, гімн беларускіх татараў. Выдадзены яе "Балет па казцы Андэрсана "Дзюймовачка". Піша вершы, у тым ліку на беларускай мове.

Першая настаўніца Марыя Іллінічна Рачкоўская. Настаўнікі: Лілея Жыгангізаўна Кудрашова, Бэла Аронаўна Зусман-Дзвілянская, Віталь Канстанцінавіч Радзівонаў (кампазіцыя), Н. Выграненка (арган), А. Сікорскі (фартэпіяна).

Дзед Куцярніцкі Апанас Кузьміч добра спяваў. Бабуля вучылася ў польскай школе, вяла канцэрты, спявала ў хоры. Яе сёстры таксама добра спявалі.



***Дзінара Мазітава***

***Курылёнак Вольга,***
***навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы***

# З мінуўшчыны ў сучаснасць...

*Да 90-годдзя з дня нараджэння Валянціна Таўлая*

Валянцін Паўлавіч Таўлай... Яшчэ паўгода назад, да майго прыходу на працу ў музей Янкі Купалы, гэтае імя мне было невядома. Але прайшоў час, і лёсам мне было наканавана паглыбіцца ў гісторыю нашай Бацькаўшчыны, адкрыць для сябе ўпершыню гэтага чалавека: паэта, палымянага змагара за ўз'яднанне Беларусі, аднаго з першых навуковых супрацоўнікаў музея Янкі Купалы.

Гляжу на партрэт Валянціна Таўлая з удумлівымі, крыху засмучонымі вачыма: разумны, сціплы, просты... А колькі за яго плячыма!..

Творчая біяграфія Таўлая – з'ява ў многіх адносінах незвычайная. Валянцін Таўлай прайшоў кароткі, але яркі і змястоўны жыццёвы шлях, ён для паэта быў не лёгкі. Дзяцінства яго бегла праз Ліду, Зэльву, вёскі Рудаўка, Вялікая Кракотка (Слонімскі р-н).

Да Валянціна Таўлая рана прыйшло разуменне "забранасці" роднага краю. Неўзабаве пасля акупацыі Заходняй Беларусі польскімі панамі, у 1924 годзе як непаляк быў звольнены з працы бацька. У гэты ж час памерла маці. Сям'я пасялілася ў вёсцы Рудаўка, дзе занялася сельскай гаспадаркай на трох з паловай гектарах зямлі.

Праз два гады з-за нязгоды адмовіцца ад сваёй нацыянальнасці вымушаны быў пакінуць Слонімскую польскую настаўніцкую семінарыю Валянцін. Чым жыве ў той перыяд заходнебеларуская вёска? У Таўлая ёсць лаканічны запіс: "Набліжаюцца гады штурму і націску ў заходнебеларускай вёсцы і ў маёй душы." Гады фармавання маладога, не па гадах паважнага чалавека.

Хата Таўлаяў становіцца ў гэты час як бы штабам грамадоўскага гуртка вёскі. Ідзе барацьба за сваю беларускую школу, складаюцца дэкларацыі, пішуцца заявы. Будучы паэт на свае вочы бачыў тую родную кіпучую Грамаду, пра якую потым сказаў, што гэта была "бунтуючая паэма беларуска-мужыцкай стыхіі". У хаце Таўлаяў была адчынена, нарэшце, хоць прыватная, але свая, беларуская школа, і сюды вечарамі прыходзілі самыя аўтарытэтныя для Валянціна настаўнікі – тыя ўзбуджаныя дзядзькі, якія ўжо "скоса пазіралі на панскую зямлю, на польскую паліцыю. З ап'яняльным, салодкім здзіўленнем адчувалі, што яны – вялікая сіла. "

Значным асяродкам вызвольнага руху была тады Вялікакракоцкая бібліятэка, заснаваная ў 1927 годзе самімі сялянамі, якія далі ёй імя Я. Купалы. На яе паліцах было звыш тысячы тамоў кніг беларускай, рускай, украінскай і польскай літаратуры, у тым ліку камплекты многіх часопісаў, нават старыя гадавікі "Нашай нівы". Зазначым, што тады і пазней, да апошніх сваіх дзён, В. Таўлай падтрымліваў з гэтай бібліятэкай жывую напарыўную сувязь.



***Незакончаны партрэт Валянціна Таўлая работы лідскага мастака Уладзіміра Мельнікава***

Будучы студэнтам Віленскай гімназіі, В. Таўлай актыўна ўдзельнічаў у камсамольскіх гуртках і вёў агітацыйную работу сярод моладзі. І вось у 1929 годзе за ўдзел у кіраўніцтве студэнцкім штрайкам супраць фашызацыі гімназіі, яго выключаюць з гэтай навучальнай установы і аддаюць у рукі паліцыі, якая прымусова дастаўляе Валянціна ў родныя мясціны. Але ў вёсцы В. Таўлай не сядзеў склаўшы рукі. Ён разгарнуў камсамольскую работу, быў сакратаром раённага камітэту камсамола Заходняй Беларусі. Вельмі хутка ўлады прымянілі да свядомага беларуса больш дзейсныя, чым адмовы ў стыпендыі і выключэнне, "сродкі выхавання". У канцы 1929 года В. Таўлай быў два разы арыштаваны і зняволены ў Слонімскую турму, потым

ў Гарадзенскі астрог.

Творы паэта нараджаліся за кратамі. Жыццё Валянціна Таўлая варта яркай, змястоўнай кнігі. Гэта кніга — яго творчасць. Сваім зместам яна цесна звязана з барацьбой, якая падказвала аўтару тэмы вершаў, паэм. Спалучэнне глыбока сімвалічнае: пачатак літаратурнай дзейнасці В.Таўлая па часе амаль супадае з пачаткам яго свядомай рэвалюцыйнай барацьбы.

Мастак ад Бога, ён пачынаў вельмі рана і ярка. Трынаццацігадовым падлеткам здзівіў знаёмага чалавека з суседняй вёскі не дзіцячым зместам сваіх вершаў. У адным з іх адгукнуўся на палеміку паміж грамадоўцамі і хадэкамі, што разгарнулася на старонках заходнебеларускага перыядычнага друку ў сярэдзіне 20- х гг., заклікаў беларусаў да згоды:

***“О ты, Згода, адгукніся,***
***Дзе ты прападаеш?***
***Цябе рэдка дзе пабачыш,***
***Рэдка дзе бываеш!***
***Ці ўтамілася ты, Згода,***
***Ды ў глыбокім моры,***
***Што ўжо так запанавалі***
***У нашым краі спори?..”***

Потым была паэма “Непераможныя”, напісаная ў час суда над кіраўнікамі Беларускай сялянска-работніцкай грамады і надрукаваная ў вучнёўскім часопісе Віленскай беларускай гімназіі “Золак” № 1 за 1928 год. Праўда, подпіс стаяў пакуль не “Бунтарны”, а “Янка Дванаццаты”, ды бунтарскі дух ужо вырываецца на прастору жыцця-барацьбы, жыцця-змагання. Твор, як згадваюць сябры В.Таўлая, стаў значнай падзеяй ў жыцці навучальнай ўстановы. Ён пераходзіў з рук у рукі, яго чыталі, дэкламавалі на сходах.

Знаёмячыся з самымі раннімі творамі В. Таўлая, пазначанымі 1928 і 1929 гг.(“Жаданне”, “Напрадвесні”, “Ідзе за годам год”, “Ніва” і інш.), цяжка паверыць, што аўтар іх не толькі навічок у паэзіі, але і зусім яшчэ юная асоба. Жыццё патрабавала дзеяння, абставіны вымагалі рашучасці, талент нараджаў па-сапраўднаму грамадзянскую, сацыяльна жарсную і востра публіцыстычную споведзь.

Чытаеш гэтыя вершы і бачыш перад сабою самога аўтара... Не можаш не бачыць: такога даверлівага, адкрытага. Ён ведае: час, абставіны патрабуюць ад яго выразнай грамадзянскай пазіцыі. Гучыць споведзь пакалення змагароў.

***“Гром, загрымі! Віхор, - завый!***
***Пад бляск маланак агнявы***
***Хай задрыжаць прасторы неба:***
***Скрануць Зямлю з падвалін трэба!”***

*(“Жаданне”, 1928г.)*

Глухая навала астрогаў (іх засведчылі горкія подпісы пад вершамі і паэмамі - Слонім, астрог; Гародня, астрог; Вільня, Лукішкі; Ліда, турма...), якія забралі сем гадоў жыцця, не дужа спрыяла праяўленню творчага дару. Турмы ўмелі спраўджваць свае загаддзя разлічаныя планы ўдушэння таленту. Але, нягледзячы на ўсё гэта, цуд паэзіі ўсё ж ствараўся! Раскрываўся менавіта Таўлаеўскі дух бунтоўнасці, пратэсту, глыбока ўсвядомленага выкліку ўсім бесчалавечнанялюдскім сістэмам уціску.

З канца 1932 года – ён сябар цэнтральнай рэдакцыі КПЗБ у Варшаве. Адзін з фактычных рэдактараў “Беларускай газеты” і яе дадаткучасопіса “Літаратурная старонка”, легальных неафіцыйных органаў КПЗБ у Вільні, адным з арганізатараў Літаратурнага фронту сялянскарабочых пісьменнікаў (падрыхтаваў і правёў 1 з’езд заходнебеларускіх пісьменнікаў, дзе і сам выступіў з дакладам у снежні 1933г.).

Памятны верасень 1939 года В.Таўлай сустрэў на вуліцах Гародні ў вопратцы вязня. Радасць вызвалення, сустрэч з роднымі, любімая праца ў рэдакцыі Лідскай раённай газеты, сям’я, віды на выданне зборніка твораў. У гэты час В.Таўлай сустрэўся і моцна пасябраваў з вядомай беларускай паэтэсай Нінай Тарас. Пачаліся іх узаемныя “літаратурныя чытанні”, як сваіх твораў, так і таго, што найбольш падабалася ў паэзіі Маякоўскага, Багрыцкага, Міцкевіча ці Славацкага.

Вялікая Айчынная вайна стала суровай школай для ўсіх сумленных людзей. В. Таўлай становіцца сувязным парты-занскага аддзела імя Р. І. Катоўскага, разведчыкам спецгрупы “Буравеснік”. Давялося нямала перажыць. Вясной 1942 года выпадкова застаўся жыць, восенню 1943 – га трапіў у фашысцкія засценкі...

Паэзія В.Таўлая гадоў вайны – паэзія жыццёвага і грамадскага аптымізму. Ні на хвіліну паэт не сумняваўся, што вораг будзе разгромлены. Як ў вераснёўскай творчасці В. Таўлая адметнае месца займаюць “Лукішскія вершы”, так у ваеннай – верш “Лісты з турмы”. Там і тут – праўда змагання. Там і тут здзіўляючая шчырасць. “Лісты з турмы ” адрасаваны сябрам, жонцы Лідзіі Сяргееўне.

Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкафашысцкіх захопнікаў з ліпеня 1944 па люты 1945 года Таўлай працаваў адказным сакратаром наваградскай раённай газеты “Звязда”, а са снежня гэтага ж года ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Лёс прывёў В.Таўлая ў музей невыпадкова. Гэта стане зразумела, калі адгарнуць некалькі старонак з творчых сувязяў Валянціна Паўлавіча з Янкам Купалам.

Як адзначае паэт і даследчык жыцця і творчасці В. Таўлая Мікола Арочка, на пачатку хапала ўсяго: павярхоўнага пераймання, калі, “забыўшыся”, рука паўтарала купалаўскую рытміку і сімволіку, выпрабоўваючы яго вершаваныя памеры. Аднак, гэтае захапленне было і яго ратункам, бо выхоўвала густ. Адчуванне мастацкай меры вяло глыбей да таямніц мастацкага слова.

Валянцін Таўлай прызнаваўся, што Купала быў яго “вялікім маральным падтрыманнем у найбольш цяжкія хвіліны”.

У лісце, які М. Арочка атрымаў ад С. А. Жабінскага, былога загадчыка замежнага аддзела "Звязды", ёсць цікавыя звесткі пра першае знаёмства Таўлая з Купалам. Гэтае знаёмства адбылося напрадвесні 1931 года на кватэры Купалы, да якога Жабінскі з Таўлаем па даручэнні рэдакцыі звярнуліся з прапановай даць на старонках газеты водпаведзь буржуазным заходнебеларускім пісакам з "Беларускага звону" і "Беларускай крыніцы". Праз некалькі дзён Купала прынёс у "Звязду" сваю гнеўную водпаведзь у выглядзе "Ліста ў рэдакцыю", а неўзабаве – і свой вядомы верш "А ў Вісле плавае тапелец...".

Нельга абмінуць такую падзею ў жыцці Таўлая, як сустрэча неўзабаве пасля памятнага верасня з Янкам Купалам у Лідзе. У архіве Таўлая захаваўся чарнавы накід успамінаў пра тыя дні: *"Першая сустрэча, - піша ён, - у чыгуначным клубе. Немалая зала аказалася малой да недарэчнасці. Людзі запоўнілі яе да адказу. Хвіліна ўсхваляванага чакання – і залу ўзрушаюць працяглыя авацыі: на сцэну ўзыходзіць Янка Купала. Яго акружаюць кіраўнікі грамадскага вузла горада, чыгуначнага вузла і маладыя паэты Заходняй Беларусі, якія на абвестку аб сустрэчы з'ехаліся з розных куткоў вобласці.*

*Ва ўсёй постаці Янкі Купалы, у кожным яго жэсце – ніякай позы, адна запалоньваючая прастата вялікага чалавека. Купала гаворыць аб вялікай радасці, што ён ізноў на гэтай адвечнай беларускай зямлі, па якой хадзілі яго ногі..."*

Тут добра перададзена ўсхваляванасць самога Таўлая, а таксама тых людзей, што ішлі тады за дзесяткі кіламетраў, каб толькі пабачыць Купалу. Многія ж "памяталі і любілі Купалу з далёкіх дарэвалюцыйных гадоў". І хоць па гэтай зямлі "дваццаць год не хадзілі яго ногі", затое хадзіла яго песня – ад вёскі да вёскі, ад сэрца к сэрцу.

Купала на адвітанне падараваў кожнаму з маладых паэтаў па сваёй кніжцы. "Мне асабіста, - піша Таўлай, - Янка Капала ахвяраваў паэму "Над ракой Арэсай" з надпісам: "Таварышу Валянціну Таўлаю на ўспамін аб сустрэчы ў Лідзе – Янка Купала". Гэтая кніга разам з іншымі дарагімі дакументамі майго жыцця беспаваротна загінула ў вайну. Успамінаючы загінуўшую кніжачку ў зялёнай вокладцы, я кожны раз адчуваю востры боль: ужо ніколі Янка Купала не ахвяруе ні мне, ніводнаму з нас сваёй кнігі."

Пасля вайны Валянціна Таўлая, думаецца, невыпадкова прывяла дарога да грунтоўнага вывучэння спадчыны Купалы. Ад яго адыходзіў ён на раннім этапе, і да яго выпала прыйсці ўзмужнелым у баях. Ад першых дзён працы літаратурнага музея Я.Купалы Таўлай стаў найбліжэйшым памочнікам Ул.Францаўны Луцэвіч, яе намеснікам.

Таўлаю даводзілася аднаму з першых пачынаць вялікую працу па збору і вывучэнню Купалаўскай спадчыны. Ён нечакана адшукаў урыўкі невядомай паэмы Купалы – "Гарыслава". І як яго ўсцешыла гэтая знаходка!.. На шчасце, было дзве рэдакцыі ўрыўкаў паэмы – іх можна было супаставіць і прааналізаваць выспяванне мастацкага слова Купалы. Пранікнуць ў тайнікі Купалаўскай "лабараторыі выгатаўлення мастацкага слова" – вось адна з важнейшых задач, якую ставіў сабе Таўлай.

Можа здзівіць шырыня даследчыцкіх задум Валянціна Таўлая: ён ставіць, напрыклад, сваё прозвішча супроць такіх тэм: "Творчы працэс Янкі Купалы", "Развіццё верша Янкі Купалы", "Янка Купала – ідыёлаг нацыянальна- вызваленчай барацьбы беларускага народа", "Метафары Янкі Купалы", "Янка Купала і польская літаратура", "Уплыў Купалы на фармаванне паэтаў Заходняй Беларусі" – і ўсё гэта было разлічана на бліжэйшыя пяць год – тых, якія яму не суджана было пражыць.

Засталіся ў рукапісах сотні накідаў, выпісак, тонкіх назіранняў.

Спасцігаючы ўсё глыбей душу Купалаўскай паэзіі, Таўлай аберагаў яе чысціню і сапраўднае, першароднае гучанне. Ён натхнёна гаварыў аб "замацаванні вялікіх творчых традыцый Купалы", якія павінны стаць надзейным падмуркам усёй беларускай літаратуры. "Я пішу,- паведамляў ён у друку, - папулярную біяграфію народнага паэта і рыхтую на першыя чэрвенскія Купалаўскія чытанні даклад на тэму : "Янка Купала і Заходняя Беларусь". Нашаму славутаму песняру В.Таўлай прысвяціў вершы "Падарожны", "Памяці Янкі Купалы".

Даволі актыўна працаваў паэт і ў галіне нарыса, быў вядомы таксама як крытык і літаратуразнаўца.

Працаваў, гледзячы далёка на перад, як апантана працуе чалавек, што яшчэ не задумваецца над пройдзенымі жыццёвымі вёрстамі. А сэрца, спакутаванае ў засценках, збалелае ад надзвычайнага фізічнага і маральнага напружання, білася ўсё слабей і слабей. В.Таўлай трапляе ў бальніцу. Памірае доўга – цэлых паўгода, не здагадваючыся аб гэтым. 27 красавіка 1947 года паэта не стала. У лісце да сябра Я.Купалы. украінскага паэта Тэрэня Масэнкі (28.04.47г.) Уладзіслава Францаўна Луцэвіч пісала: "заўтра хаваем цудоўнага чалавека, слаўнага паэта і найлепшага сябра Янкі Валянціна Таўлая. Вельмі цяжка хаваць такіх выдатных, чэсных людзей."

Ён так і не паспеў пабачыць сваю першую кнігу "Шляхі і краты", якая выйшла пасля смерці паэта пад назвай "Выбранае". Сваімі думкамі пра яе В. Таўлай дзяліўся ў артыкуле "Пераступіўшы парог" у 1946 годзе.

Яго словы аказаліся прарочымі... Сёння я трымаю ў руках кнігу Валянціна Таўлая, праз якую са мной размаўляе выдатны паэт і сапраўдны чалавек, што здолеў, як быццам бы, "пераступіць парог з мінуўшчыны ў сучаснасць..."

# НІНА ТАЎЛАЙ ПРА БРАТА І ПРА ЎСІХ

**(Інтэрвію Ніны Таўлай рэдактару часопіса "Лідскі летапісец" Станіславу Судніку 20 лютага 2004 г. у Лідзе)**

***- ... Дык Вы нарадзіліся ўжо ў Лідзе?***

- Я нарадзілася ў 1933 годзе ў Лідзе.

***- А Валянцін нарадзіўся..?***

- Ён у 1914 г.

***- Дзе?***

- У Баранавічах.

***- У саміх Баранавічах?***

- Мяне не было, дык я добра не ведаю. І яшчэ быў адзін брат, Аляксандр з 1916 года.

***- А з ім што сталася?***

- Ён загінуў у 1943 годзе. Ён быў радыстам ці стралком на самалёце. Ён перад вайною вучыўся на лётчыка. Паступіў у лётнае вучылішча. Але пачалася вайна, і яго ўзялі ці стралком, ці радыстам на самалёт. Ён быў у 1943 годзе каля Саратава, Бузулук - такі горад за Волгай. Вось там ён і загінуў. Таму што прыязджаў пасля вайны яго таварыш, які разам з ім ваяваў, ён прывёз фатаграфію і расказваў. Я ўжо ў цёці жыла, у мамінай сястры, яна мяне гадавала. І ён расказваў. Так што ён загінуў у 1943 годзе.

***- Ваш бацька ў якім годзе сюды пераехаў?***

- Я толкам не ведаю. Я радзілася тут, а потым паехалі, жылі ў Рудаўцы. А потым, калі прадалі у Рудаўцы гаспадарку, хату...

***- У якой Рудаўцы?***

- У вёсцы, у Рудаўцы.

***- А дзе яна?***

- А яна на Слонімшчыне, там яны і жылі. Там былі дваюрадныя бацькавыя браты. І адзін, і другі. Яны нядаўна толькі памерлі. А дваюрадная сястра татава ў Слоніме яшчэ жыве. І яны ўсе з Рудаўкі. І там у таты была гаспадарка. Як яны жылі ў Рудаўцы, там у мамы была беларуская школа, там беларускія хлопчыкі і дзяўчаты прыходзілі, вучыліся на беларускай мове. Мама мая настаўніцай была.

***- Ён сюды ўдаўцом прыехаў?***

- Першая жонка яго памерла ад тыфу. Ён застаўся з двума малымі сынамі: гэта Валянцін і Аляксандр. І іх першы час гадавала яго маці, бабка Аўдоцця. Яна ў Рудаўцы жыла, і яны там былі ў Рудаўцы. А тата жыў на чыгунцы, працаваў у Лунінцы, у Баранавічах, потым яго перавялі ў Ліду. У якім толькі годзе не магу дакладна сказаць. Бо спецыяльна гэтым не займалася. Ёсць гэта ўсё ў кніжках напісана. Відаць тут пазнаёміліся з мамай. І недзе ў 1922 ці 1923 годзе яны пажаніліся. Потым у іх тут быў сын Валодзя, але ён 8 ці 9 гадоў пражыў і памёр. А



*Ніна Таўлай у Лідзе*

толькі праз год пасля яго смерці нарадзілася я. І я тут нарадзілася, а потым яны паехалі, як бацьку пры панскай Польшчы, а ён жа быў беларус, звольнілі, у Рудаўку. Жылі ў Рудаўцы. А ў якім годзе дакладна не магу сказаць, ён усё прадаў, і пераехалі ў Ліду, гэта ўжо было недзе ў 1938 ці 1937 годзе. У мамы тут была дзедава хата на два канцы. На адным канцы маміна доля была, а на другім маміна сястра жыла. У яе муж памёр, потым маленькая дачка памерла, і яна жыла адна. Ну і, як прыехалі мы ў Ліду, і як была вызвалена Заходняя Беларусь, і Валянціна вызвалілі з турмы, ён ў Гародні ў турме быў, ён прыехаў, ці як ён дабраўся да Ліды, прыйшоў дахаты да бацькі. Я помню якраз той час, як ён прыйшоў, і з бацькам доўга сядзелі, гаварылі, я маленькая была і ўжо клалася спаць, гэта было позна вечарам, і ўсё глядзела, як яны сядзелі размаўлялі, мне было цікава, што ў мяне такі вялікі брат.

Гэта такія першыя ўспаміны пра яго.

***- Калі вы ў гэты домік перасяліліся, каля замка?***

- А не, гэта ён толькі тут жыў, Валянцін толькі жыў. Ён жыў з першай жонкай, з Кірай у гэтым доміку. А мы там жылі. І вайна пачалася, мы там жылі. Спачатку тата працаваў на складах кладаўшчыком, а як толькі Заходнюю Беларусь вызвалілі, яго перавялі ў Скрыбава (Скрыбаўцы) начальнікам вакзала. І мы туды ўсе пераехалі, але там мала жылі, у 1940 –41 гг., а як толькі пачалася вайна, то зноў пераехалі ў Ліду і жылі ў матчынай хаце.

***- А на якой вуліцы стаяла тая хата?***

- Труханава, завулак Труханава быў.

***- Гэта цяпер Труханава, а пры Польшчы была Каляёвая, мабыць і завулак Каляёвы.***

- Але тыя дамы згарэлі. Яны былі насупраць аўтавакзала. Тут Чапаева *(пры Польшчы **Пілсудскага**, рэд.)*, а тут чыгунка. Тут дзе магазін, тут дзе аптэка быў завулак Труханава, вузенькая вулачка. І тут насупраць аўтавакзала быў мамінага брата дом, побач з гэтым домам бацька, як прадаў у Рудаўцы хату, то купіў участак зямлі ў мамінага брата і тут побач будаваў свой дом, харошы новы дом. Па гэтым завулку Труханава праз 5-6 драўляных дамоў быў стары дом майго дзеда, дзе жыла мая мама і яе сястра. Якраз увесь гэты квартал, немцы, як адходзілі, спалілі.

***- А мамы вашай дзявочае прозвішча якое было?***

- Дарашкевіч. Брат Пётр Паўлавіч быў Дарашкевіч. А мама, значыць, Сцепаніда, яе маці Надзея. Потым Анастасія і Вера. Вось гэтыя сёстры былі.

Потым, калі пачалася вайна, мы жылі тут. А да вайны Валянцін жыў у гэтым доміку каля замкавай гары. Ён працаваў у рэдакцыі лідскай газеты "Уперад" і жыў ў гэтым вось доміку з першай жонкай. Я любіла да іх прыходзіць таму, што мне было вельмі цікава глядзець. Вось пад гэтым акном, тут яго пакой быў, *(паказвае на здымку левае акно)* стаяў столік і ён заўсёды сядзеў за гэтым столікам і працаваў, а яшчэ было такое крэсла-гушканка ў яго там, я сядзела ў гэтай гушканцы і гушкалася. А перад акном быў плот, паміж домам і плотам была клумба. Ён бывала, піша – піша, я праз дзверы выбягала і бегала вакол гэтай клумбы, а ён за мной, каб злавіць. Зловіць і прынясе пасадзіць у гушканку. І зноў садзіцца піша. Ён такі быў добры, пяшчотны, далікатны, мяккі па характары.

***- Купалу памятаеце?***

- Купалу памятаю, як я выступала. Як ён прыязджаў, мне даручылі вершык расказаць. Гэта ў клубе чыгуначнікаў было. І там Валянцін якраз прымаў удзел у арганізацыі гэтага вечара, сустрэчы з Янкам Купалам. Я вывучыла вершык, выйшла на сцэну, пачала гаварыць і забылася, а мама стаяла за кулісамі. Я пабегла і крычу: "Мама, як далей!" Мама мне падказала, я вярнулася і расказала да канца. Потым мяне пахвалілі, што не спужалася, а вярнулася на сцэну.



***Домік ля замка, у якім жыў Валянцін Таўлай у 1939-40 гг.***

***- Трохі памятаеце, як Купала выглядаў?***

- Проста нейкія дзядзькі сядзелі за сталом...

***- Вось вайна пачалася.***

- Вось пачалася вайна. Як Валянцін апынуўся ў Наваградку гэтага не магу сказаць. А дзе была першая жонка яго Кіра, як яны разышліся, не магу сказаць. Але потым яна і юрыстам была.

А ён апынуўся ў Наваградку і, нават, не ў самім Наваградку, а ў Ваўкавічах, там пяць кіламетраў за Наваградкам па Карэліцкай дарозе. І там ён сустрэўся з Лідзіяй Сяргееўнай-другой жонкай. Як яна тут апынулася? Яна сама з Ленінграда. Перад вайной яна вучылася ў інстытуце кінематаграфіі і ўжо канчала гэты інстытут, і яе прыслалі ў Беласток на практыку. І ўжо пачалася вайна, і яна старалася адыйсці падалей ад фронту. Але немцы наступалі хутка. Фронт яна не дагнала і засталася ў тым раёне: Карэлічы – Ваўкавічы- Наваградак. Там яны і сустрэліся. Потым Валянцін быў сувязным у партызанскім аддзеле, а афіцыйна лічыўся пісарам у гміне ў Ваўкавічах.

Ён меў сувязі з усімі, з кім трэба было, і, мусіць, дапамагаў. Ён часта ездзіў па справах у Вільню, назад, ездзіў цераз Ліду і часта спыняўся ў нас.

У 1943 г. падчас адной з паездак ён спыніўся ў нас. Гэта было ў лютым месяцы. А толькі помню, што ён тады падышоў да мяне, а я мела такі сшытак, ну і цяпер у дзяўчат мода альбомы заводзіць, і тады сяброўкі пісалі ў гэтых альбомах, што ім хацелася, пажаданні розныя, віншаванні. Я сяджу размалёўваю гэты сшытак. Ён падышоў і пытае: “Што гэта ты робіш?” Я кажу: “Во напішы мне што-небудзь у альбом ад сябе” Ён: “Давай!” Узяў гэты сшытак мой, пайшоў у іншы пакой, зачыніўся і там пісаў, а я села пад дзвярыма і чакала, што ён мне там напіша. Ну вось, калі ён выйшаў, аказалася што ён напісаў два вершы: адзін “Малой сястрычцы”, а другі “Я Ніночку-малышу гэткі вершык напішу” Гэты сшытак у мяне недзе ёсць, захаваўся.

*(Чытае верш маларазборліва. Чутны словы “Не хачу я ў школу, у мяне ў баку трохі вельмі коле”.)*

Гэткія словы я на самай справе гаварыла. Мама мяне ў школу выпраўляе, а я: “Не хачу я ў школу, у мяне ў баку трохі вельмі коле. Куды я пайду?”

*Ну, Нінок, гэта дзяўчынка,*
*Адкажы, як хочаш, як знаеш,*
*Бо па-моему гэта свінка,*
*Можа, нават, і не малая.*
*Не, каб змалку ўставаць раніцою,*
*Адзявацца самой абудацца,*
*Мыцца ў пояс халоднай вадою*
*І ў школу спяшацца.*

А ён любіў з мяне пасмяяцца, але так харошаму, па-добраму, падкалоць мяне, але без крыўды ўсякай.

Потым ён ехаў ці ў Вільню ці з Вільні і зноў спыніўся ў нас на некалькі дзён. І якраз 23 верасня пад раніцу ў Менску быў забіты Куба. І тут жа пачаліся арышты. У першую чаргу арыштоўвалі тых, на каго мелі зуб, на каго даносы былі. А тата мой, ён працаваў таксама ў гміне Дакудава. Спачатку гэтая гміна была ў самім Дакудаве. Яшчэ помню, тата мяне туды раз вазіў у Дакудава. А потым пасля таго, як партызаны разграмілі гэтую гміну ў Дакудаве, яе перавялі ў Ліду. Ну і вось 23 верасня на раніцы я ўстала, і мне вельмі не хацелася ісці ў школу. Тады мама сказала мне: “Ідзі паеш, і тата завядзе цябе ў школу”. Тата павёў мяне ў школу, а сам ішоў назад і яго арыштавалі і пасадзілі ў машыну. Пасля яшчэ многіх іншых арыштавалі і прыехалі па маму. А Валянцін быў у нас праездам. Ён быў у апошнім пакойчыку. Як пачуў, што прыйшлі па маму, хацеў адчыніць акно і праз акно ціхенька ўцячы. Прыадкрыў акно, але ўвесь дом быў ачэплены. Тады ён назад. Мама зайшла да яго і нешта загаварыла. Немец следам зайшоў і ўбачыў яго, і арыштавалі і маму, і яго. А потым прыехалі па мяне ў школу. Мяне ўзялі з урока. У нас быў урок рысавання. А школа, вось дзе цяпер магазін вялікі, самаабслугоўвання на Перамогі, то там быў невялікі раўчук, рачулка. То па правы бок гэтага раўчука быў такі драўляны будынак, і ў ім была беларуская школа. Колькі там класаў было? Можа чатыры былі пакоі і чатыры класы. Першы, другі, трэці і чацвёрты. Я з другога класа пайшла вучыцца, бо мама была настаўніца, і яна прывяла мяне ў другі клас. А гэта я была ў чацвёртым класе. Быў урок рысавання, і раптам адчыняюцца дзверы ў клас, і ўваходзіць немец.

Ён спытаў у настаўніцы, хто тут Ніна Таўлай. Яна сказала ўстаць, я ўстала. Ён падышоў да мяне, сказаў збіраць партфель. Я сабрала. Ён узяў партфель, мяне за руку і павёў. На вуліцы стаяў грузавік. Ён пасадзіў мяне ў кабінку паміж шафёрам і сабой, і мы паехалі. Аб’ехалі кругом. І як цяпер Савецкая, міма замкавай гары ўніз паехалі туды да турмы. Як ехалі, нехта дакрануўся мне да пляча. Машына была крытая. Але паміж кузавам і кабінай было такое акенца. Яно было завешанае. Але я так паглядзела. Мама там сядзела. Яна трошкі адвесіла, толькі мне да пляча дакранулася і кажа: “Не бойся”

Ну, прывезлі нас у турму. Тату з Валянцінам адразу павялі ў камеры. Тата яшчэ хацеў са мной развітацца, яму не далі. А жанчын, там было многа людзей, не толькі мы, цэлыя машыны былі людзей, жанчын неяк трошкі пакінулі, а потым і нас павялі па камерах.

Я была там 12 дзён, потым захварэла, потым цудам мяне адтуль выкупілі. Выкупілі мяне за прадукты маміна сястра і мамінага брата жонка. Яны даведаліся, што жонка начальніка

турмы полька, і хадзіла дзядзіна, дзядзі жонка, да гэтай полькі. Яна сама была з вёскі (дзядзіна), адтуль з вёскі прывезла яек, масла, сала, пайшла да жонкі начальніка турмы. Занесла прадукты. Адзін раз занеслі, другі раз занеслі. Ну тая паднаціснула на свайго мужа. Ён сказаў прыходзьце тады і тады пад турму. Я захварэўшы была ў турме. Там быў доктар з вязняў. Хадзіў па камерах, правяраў людзей. Ён, як я захварэла, прыйшоў і нейкія таблеткі мне даў. А як мяне выпусцілі, то гэтыя таблеткі засталіся ў мамы. Мяне забрала маміна сястра, якая жыла ў другім канцы дзедавага дома. І я ў яе ляжала з высокай тэмпературай. Трохі паляжала, але ж лякарства не было дзе дастаць, і зноў пайшлі туды. Цётка і дзядзева жонка зноў пайшлі туды. Там сказалі, прывядзіце значыць гэтую хворую.

Узялі мяне, і мы ўсе трое зноў пайшлі пад турму. Нас упусцілі ў турэмны дворык. Ім сказалі пачакаць, а мяне немец павёў у камеру. Прывёў у камеру да мамы. І гаворыць: “Што табе трэба, бяры” Я папрасіла ў мамы таблетачкі. Яна ў што там было загорнутае дала, і мяне зноў выпусцілі. Гэтымі таблеткамі лячылі мяне, і дамашнімі спосабамі. І так я засталася жыць.

А потым месяцаў праз два ці праз два з паловай месяцы выкупілі Валянціна. Калі Валянцін аказаўся на свабодзе ён пачаў старацца, як можна бацькоў вызваліць. Але яму нічога не ўдалося зрабіць, таму што недзе ўжо бліжэй да Новага году ўсіх вывезлі ў Менск. А ўжо з Менска ўсіх павезлі, Валя даведваўся, у Асвенцым. Пасля вайны сюды, у Ліду, вярнуўся чалавек, які добра ведаў мамінага брата, дзядзю Пецю Дарашкевіча, ён потым, гэты чалавек, які вярнуўся з Асвенцыму, гаварыў, што з маім бацькам сустракаўся ў Асвенцыме на кухні, кацёл чысціў. У той час, у зіму 1943-44 г. ён быў у Асвенцыме. І быццам бы тата гаварыў, што маці не даехала. А потым у канцы зімы гэты чалавек больш бацьку не сустракаў.

***-Тады як забіралі ў вайну, немцы гаварылі за што забіралі.***

- Немцы не гаварылі. Аднак пасля вайны была мне такая аказія, што на бацьку былі даносы, што ён на партызан працуе.

А там, ці такія даносы, ці іншыя, ці хто быў злы на бацьку, канкрэтна не вядома, але былі такія даносы. Таму, як ён быў у Дакудаве, ён многіх людзей ратаваў ад нямецкага палону, як вывозілі на работы. Ён жа меў доступ да папераў. Ён ці падказваў, каго вывезуць ці што. Казалі, што многім і многім дапамог. А некаторыя можа мелі злосць на яго.

Ну а потым, як Чырвоная Армія вызваліла Ліду, а Валянцін, як вызвалялі, у Навагрудку быў, то ён праслаў цёцю Ліду, яна прыехала і забрала мяне. Жылі мы ў Навагрудку, спачатку на Карэліцкай вуліцы, потым на Гарадзенскай вуліцы. Ён там працаваў у Навагрудскай газеце. А Лідзія Сяргееўна перад вайной была ўжо замужам і мела дзве дачкі: Ірыну і Алену. Яна была ўжо развёўшыся, і, калі яна ехала на практыку ў Беласток, адвезла дачок да сваіх родных на Волгу, на ўсё лета. А маці яе заставалася ў Ленінградзе. Яна ў блакаду памерла. І калі Лідзія Сяргееўна, пасля таго, як нас вызвалілі, забрала мяне ў Навагрудак, яна паехала па сваіх дачок. І ў той час, як мы заставаліся з Валянцінам удваіх, ён мяне часта вадзіў у Навагрудскую сталоўку. Мы там капусту елі на абед, больш нічога не было пасля вайны. Драўляныя сталы, заміж ножак накрыж збітыя дошкі. Малая я была шкодная, гэтае есці не хачу, тое не хачу, а тут ці еш, ці галодная будзь, як хочаш. Аднойчы, я сказала, што мне капуста надакучала і што я абед звару. Было трохі бульбы. Наліла вады, паставіла на агонь. А гэта было лета, цёпла яшчэ было. А сама пабегла, садзік быў за домам, пабегла, гуляла сабе. Потым прыходзіць Валя: “Ну ці накорміш ты мяне абедам”. “А ёсць, ёсць, бульбу я паставіла варыць”. Прыходзім, а там перагарэлі дровы, выкіпела ўся бульба, палавіна згарэўшая. А тую што засталася паспрабавалі, яна без солі была. “Ну і накарміла мяне сястрычка”. Гэта быў той першы досвед, як я абед варыла брату.

Потым Лідзія Сяргееўна прывезла сваіх дзяўчатак у Наваградак, і Валянцін, ці яго выклікалі, ці ён сам паехаў, пайшоў працаваць у музей Янкі Купалы, да цёткі Уладзі, як мы яе ўсе называлі. Яна была дырэктарам музея, ну і ён там. Адтуль ён напісаў некалькі лістоў. У мяне ў хаце ёсць гэтыя лісты, захаваліся. Ён пісаў мне, пытаўся, як я жыву, як я вучуся, што мне трэба: “Што табе трэба, усё прышлю, якія кніжачкі трэба, якія падручнікі трэба для школы. Не саромейся, пішы, я ўсё табе прышлю”. Нават ці панчошкі маеш, ці што, адзенне якое і што, усё цікавіўся, каб у мяне ўсё было.

Потым мы пераехалі ў Менск. Ён да гэтага часу атрымаў у бараку пакой, а барак гэты быў каля Парка Чалюскінцаў, якраз завод стаяў, тут такая дарожка была ў парку, а па левы бок ад гэтай дарожкі за вялікім плотам Якуб Колас жыў. А мы, як дзяўчаты, глядзелі часта: “Во як, і Якуб Колас тут жыве”. Ён часта любіў гуляць, такая сцяжыначка была акацыямі абсаджана. Ён раніцай, раненька любіў там гуляць.

Мы глядзелі: “Во, такі беларускі паэт”. Потым, з Валям сябраваў Янка Брыль. Мы яго называлі “дзядзя Ваня”. Ён часта прыходзіў да нас. Любіў з намі пажартаваць і пагаварыць. А потым, ужо як я паступіла ў Менскі універсітэт і жыла паўгода ў Лідзіі Сяргееўны, то мы якраз жылі ў адной кватэры з Янкам Брылём. Там была адна кухня ў нас, у іх было тры пакоі, а ў Лідзіі Сяргееўны - два. Паўгода жыла, потым перайшла ў інтарнат. Да Кандрата Крапівы хадзілі, да

Масіма Танка, я хадзіла з Валям, потым Шырма, я прысутнічала пры гэтай сустрэчы, была і ў музеі Янкі Купалы, там дзе Валя працаваў. І толькі памятаю, ён усё працаваў і працаваў, цэлы дзень на рабоце, у музеі круціўся, там то выставы, то тое, то тое, а потым бывала прыдзе. А ў нас, як было, вялікі барак, уваход і такія вузкія калідорчыкі, а наш пакой быў самы апошні. І якраз выходзіў на канец барака. У нас, як увойдзеш у гэты пакой, то тут шафка стаяла, тут этажэрка з кнігамі, тут мы з Ірай спалі. А Валяў стол быў па гэты бок. Як толькі ні прачнешся ноччу, ён усё сядзіць і піша, сядзіць і піша. Калі ён спаў, калі адпачываў. Таму што, як ні паглядзіш, усё працаваў.

У снежні 1945 г., у канцы 1945 г. у школах былі навагоднія ёлкі. Мы хадзілі на навагоднія ёлкі. Я ў беларускай школе вучылася, а Лена з Ірай, дочкі Лідзіі Сяргееўны, яны ў рускую школу хадзілі. І вось, калі аднойчы ў канцы снежня 1945 года, яны ішлі з ёлкі навагодняй, то Лена трапіла пад машыну. Яна перабягала вуліцу, трапіла пад машыну, і на смерць. Яна пахавана на Даўгабродскіх могілках. Каля магілы Валянціна ёсць яшчэ адна магіла. Гэта магіла дачкі Лідзіі Сяргееўны. А ў іх яшчэ была першая дачка, якая нарадзілася ў гады вайны ў Ваўкавічах, Алеся, яна маленькая памерла. Яна там і пахаваная ў Ваўкавічах. Засталася толькі Іра.

1946 год сустрэлі. Восенню 1946 года ў Лідзіі Сяргееўны нарадзілася Галінка, другая іх дачка. Яна цяпер у Санкт-Пецярбурзе жыве. А потым восенню Валя захварэў, трапіў у клініку. У яго было хворае сэрца. Потым, як Лідзія Сяргееўна гаварыла, у яго была эндакардыя сэрца. Ну, і калі ён захварэў, трапіў у клініку, гэты барак, дзе мы былі, і клініка вялікая былі амаль побач.

Лідзія Сяргееўна напісала ў Ліду цёці маёй, цёця прыехала і забрала мяне. Я тут у Лідзе вучылася ў беларускай школе № 2. Гэта было памяшканне, дзе цяпер педкаледж. Педнавучальня была з аднаго боку, а беларуская школа № 2 – з другога боку.

Ну і калі ён памёр 27 красавіка, Лідзія Сяргееўна прыслала тэлеграму, мы паехалі на пахаванне. Спазніліся, бо як мы прыехалі, ужо ўсе вярнуліся з могілак.

А потым я ўжо тут канчала школу, паступіла ва універсітэт на фізіка-матэматычны факультэт. Разам з Шушкевічам адзін факультэт канчалі, у адным годзе, толькі ён аддзяленне фізікі, а я - матэматыкі. Многія з аддзялення фізікі сталі прафесарамі, а матэматыкаў амаль усіх паслалі ў школы. Я працавала ў Юрацішках, потым год- у Трабах, там вышла замуж і паехала ў Вільню. Да 1997 года з 1959-га я працавала матэматыкам у рускай школе ў Вільні.

***- Там з віленскімі беларусамі знаёмыя?***

- Не, так не вельмі. Я толькі сустракалася з Валянцінам Урбановічам.

***- Там жа ёсць такі Хведар Нюнька, Таварыства беларускай культуры.***

- Ведаеце што. Я неяк ужо чацвёрты год жыву з дочкай у Электранай і не бываю ў Вільні. А там, як матэматык, як настаўнік, мела вельмі многа работы. Гадзін было шмат. З грамадскасцю амаль не сустракалася.

***- Як у Вас прозвішча цяпер?***

- Радзюкевіч.

***- Колькі дзяцей?***

- Дачка адна, Ларыса. Двое ўнукаў. У дзесятым класе і сёмым.

***- Літоўцамі будуць?***

- Рускую школу канчаюць

***- Не хочуць літоўцамі быць?***

- Унук гаворыць па-літоўску. Унучка горш. Дачка гаворыць па-літоўску. Яна там нарадзілася, там вучылася, Віленскі ўніверсітэт закончвала.

А Галінка. Лідзія Сяргееўна жыла з Галінкай доўгі час у Менску. Потым Галінка выйшла замуж за Бахціяра Юсуп – задэ, пляменнік Мікалая Дзялендзіка. Потым яны развяліся, і гэта мусіць гадоў дзесяць назад, прадалі кватэру, якая была на вуліцы Ульянаўскай, каля вакзала, насупраць стадыёна “Дынама”, і пераехалі ў Пецярбург.

Лідзія Сяргееўна, калі яшчэ была ў Менску, мы прыязджалі да іх, яна ўжо кепска сябе адчувала, левая рука амаль не дзейнічала, левая нага цягнула. Старэйшая дачка, Ірына, яна ў Менску канчала школу, паступіла ў Беларускі ўніверсітэт, на хімічны факультэт, перавялася ў Ленінград, яна там канчала ўніверсітэт і цяпер кандыдат хімічных навук, працуе ў Пецярбурзе. Лідзія Сяргееўна з Галінкай, як прадала кватэру ў Менску, выехалі ў Санкт-Пяцярбург. Галінка вышла замуж за Ігара Маціеўскага, там такі кампазітар ёсць, пецярбургскі. Лідзія Сяргееўна звярталася да дактароў. Сказалі, каб раней, то руку можна было б уратаваць. Гадоў можа 5-6 таму назад яна памерла. І там пахавана ў Пецярбурзе.

Галінка – музыказнавец. Яна ўсю Беларусь скалясіла, збірае фальклор, запісвае беларускія народныя песні. У яе ёсць кніжка “Купалле”, усе песні, прысвечаныя Купаллю.

***-Як яе прозвішча?***

-Таўлай. Галіна Валянцінаўна Таўлай. Яна яшчэ і мне падарыла адну кніжачку. Яна кандытат мастацтвазнаўчых навук. Разам з Ігарам ездзяць па камандзіроўках, запісваюць народныя песні.

У старэйшай дачкі Лідзіі Сяргееўны ёсць яшчэ дачка.

У Галінкі нікога няма.

А на Слонімшчыне ёсць Таўлаі. І ў Ленінградзе, і ў Лідзе ёсць прозвішчы...

# Успаміны Дарашэвіча Пятра Паўлавіча,

## *які жыў у г. Лідзе, вул. Чапаева, д. 4, брата жонкі Таўлая Паўла Дзям'янавіча*

### Запісаныя 13.01.1964 г.

Бацька Валянціна Таўлая Павел Дзям'янавіч нарадзіўся ў в. Рудаўка Слонімскага павету ў 1895 (93) г. Жыў там прыкладна 20 гадоў і працаваў на чыгунцы пад Баранавічамі. У 1920 годзе пераехаў у г. Ліду і працаваў на чыгунцы прыкладна да 1925 года. У 1925 г. палякі далі яму маленькую пенсію, і ён зноў паехаў у Рудаўку, дзе жыў прыкладна да 1935 (37) г. У Рудаўцы ён быў арыштаваны ў 1935 г. і пасаджаны ў турму ў Гародню, дзе ён прабыў каля года, але потым вызваліўся.

Пасля вызвалення з турмы ў 1936 г. ён пераехаў у г. Ліду. Беларуская школа, у якой працавала яго жонка (мая сястра), у 1935 г. была закрыта. Гаспадарку сваю ў Рудаўцы ён прадаў, а тут ён пабудаваў сабе дом па вул. Пілсудскага (зараз Чапаева). Пры савецкай уладзе быў прызначаны на ст. Скрыбава і працаваў там да прыходу немцаў. Пры немцах жыў у гор. Лідзе, працаваў у Дакудаве некаторы час памочнікам войта. Пасля забойства войта ён пераехаў у Ліду і стаў войтам. Ён быў звязаны з партызанамі, перадаваў ім дакументы і нейкія звесткі.

Пасля забойства Куба ў Менску (у верасні 1943 г.) у Лідзе было арыштавана 125 чалавек, у тым ліку і Таўлай Павел Дзям'янавіч з жонкай і дачкой Нінай. За адзін дзень да арышту сюды з Вільні прыехаў Валянцін. На наступны дзень усіх арыштавалі. Валянцін там сядзеў у турме тыдні тры. У Лідзе вызвалілі цераз перакладчыцу дачку Ніну. Валянціна вызваліла жонка (яны жылі недзе каля Наваградка). Бацьку Валянціна з мачахай вывезлі ў г. Менск пасля аднаго месяца турмы ў г. Лідзе. У Менску іх трымалі ў бараку без шыбаў, хаця на дварэ стаялі марозы. Не давалі вады. З імі там жылі: Макарэвіч з жонкай (былы дырэктар школы, закончыў нешта па хіміі, але пры Польшчы не працаваў), Міроўскі з жонкай і дзецьмі, які зараз працуе на Камбінаце харчовых канцэнтратаў. Жонку Таўлая разам з усімі жанчынамі пасадзілі ў машыну (сама не магла хадзіць з-за раўматызму) і некуды павезлі. Больш пра іх (пра жанчын) нічога не было вядома.

Жонка Паўла Таўлая, Стэфаніда Паўлаўна Дарашэвіч, выйшла замуж за Таўлая ў 1920 г. Пад Беластокам да рэвалюцыі яна закончыла настаўніцкую. семінарыю. У 1915 г. яна эвакуявалася і працавала настаўніцай у гор. Басхаў Арлоўскай губерні (60 км ад Арла), там яна была да 1919 г. Вярнулася ў 1920 г., вышла замуж, пераехала ў Рудаўку і там адкрыла ў сваёй хаце беларускую школу (4-5 парт), якая працавала гады тры (гэтая школа была адкрыта пасля пенсіі мужа). У 1940 годзе працавала настаўніцай. Была арыштаваная пры немцах разам з мужам. Валянцін быў ад першай жонкі Паўла Таўлая, якая памерла да рэвалюцыі.

Валянцін нарадзіўся 8.02.1914 г. У 1939-40 гг. Валянцін жыў у доме, дзе зараз скурвендыспансер на 2-м паверсе. Жонка яго працавала адвакатам. Валянцін працаваў у газеце "Уперад". Вучыўся Валянцін у Вільні ў Беларускай гімназіі. Яго арыштоўвалі два ці тры разы. Першы раз яму было толькі чатырнаццаць гадоў. Потым ён перайшоў мяжу ў Менск. Адтуль ён прыйшоў зноў сюды працаваць падпольшчыкам. Апошні раз яго схапілі на сходзе недзе каля Рудаўкі і пасадзілі ў Гародню, дзе яго і вызваліла Чырвоная Армія. Калі пачалася вайна, ён пайшоў пяшком пад Навагрудак. Там ён устанавіў сувязь з партызанамі, якія накіравалі яго працаваць у Вільню. З Вільні ён прыехаў неяк да бацькі, у якога толькі пераначаваў, а раніцай яго арыштавалі. Яго вызвалілі, здаецца, за золата, якое сабралі партызаны. Пад Навагрудкам ён ажаніўся другі раз. Першая жонка заставалася ў Лідзе і, відаць, была расстраляна немцамі разам з яўрэямі (яна была яўрэйка).

# Успаміны Міцюкевіч Сафіі Мітрафанаўны,

## *якая жыла ў г. Ізабелін*

### Запісаныя 1.02.1964 г.

Мы разам з мужам былі арыштаваныя 12 кастрычніка 1943 г. Прычына невядомая, але здарылася гэта адразу пасля забойства Куба, і з кожнага горада было ўзята ў той час па 50 чалавек.

Маё імя і імя па бацьку Міцюкевіч Сафія Мітрафанаўна, год нараджэння 1890. Муж Павел Адамавіч, год нараджэння 1882.

Нас памясцілі ў Лідскую турму (сёння

райпрамкамбінат). Разам з намі знаходзіліся жыхары гор. Ліды:

1) Пашкоўскія: муж, жонка, сястра і сын;
2) Лазенка: муж, жонка і сын;
3) Макарэвіч;
4) Кнотава;
5) Гурская Марыя (маці і 4 дзяцей);
6) Баўэр;
7) Лугоўскі Станіслаў з жонкай;
8) Таўлай з жонкай;
9) Краснадэмбская;
10) Лясковіч з жонкай і дачкой (з-пад Ліды);
11) Мухлядава з нявесткай і ўнукам (Белагруда);
12) Будзевічы: муж, жонка і 3 дзяцей ва ўзросце 14-16 г. (Белагруда);
13) Гілевічы: муж, жонка і 2 дзяцей ад 3 да 5 гадоў);

астатніх не памятаю, усяго 48 чалавек.

У Лідскай турме мы знаходзіліся да 1 лістапада 1943 г.

1 лістапада 1943 г. нас адправілі этапам у Менск і памясцілі ў лагер на вуліцы Шырокай. Лагер - гэта халодная канюшня, а значыць холад, голад, а надалей эпідэмія тыфу. Многія захворвалі тыфам і хваробу сваю павінны былі хаваць. Хворых тыфам вывозілі, і ні адзін з іх не вярнуўся.

9 снежня 1943 г. была разгрузка лагера і тады вывезлі з лагера:

1) Пашкоўскіх (4);
2) Лазенка (3);
3) Макарэвіча;
4) Кнотаву;
5) Баўэр;
6) Лугоўскіх (2, муж і жонка);
7) Таўлая з жонкай;
8) Краснадэмбскую;
9) Лясковіча з жонкай і дачкой;

і ўсіх астатніх.

Мяне з мужам, Мухлядаву і Будзевіч Уладзіславу пакінулі ў Менску.

1 студзеня 1944 г. усіх, у каго былі дзеці, пагрузілі на машыны і вывезлі з лагера, але куды ніхто не знае. Потым стала вядома, што іх быццам бы вывезлі ў лагер Трасцянец за 14 км ад Менска, там расстралялі і спалілі.

У іх лік трапілі:

1) Будзевічы: муж, жонка і 2 сыны;
2) Гурская Марыя і 4 дзяцей;
3) Гілевічы: муж, жонка і 2 дзяцей;
11) Мухлядава з дзіцем (маладая).

і шмат іншых, якіх не памятаю.

15 лютага 1944 г. мяне, мужа, Мухлядаву (старэйшую) і Будзевіч Уладзіславу вывезлі з Менска.

Як потым стала вядома, нас разам з іншымі вязнямі накіроўвалі ў лагер смерці ў Гамбург, але паколькі гэты лагер быў перапоўнены, нас адправілі ў Францыю. У Гамбургу да нашага цягніка прычапілі яшчэ два вагоны з вязнямі-жанчынамі. Апранутыя ў лахманы, стрыжаныя і галодныя, падобныя на вар'ятак, яны ўяўлялі жудаснае відовішча. З Гамбурга мы прыбылі на размеркавальны пункт у Шэрбург. Мужа ў той жа дзень адправілі, як потым стала вядома, у горад Ліль, а нас дні цераз тры адправілі ў Сампольна будоўлю. Калі будоўлю разбамбілі, нас перавезлі на працу ў шахту ў гор. Тыль з месцам жыхарства ў лагеры Эрувіль. Там мы знаходзіліся да самага вызвалення.

У чэрвені 1945 г. вызвалілі нас амерыканцы, а на радзіму я вярнулася ў жніўні 1945 г. Муж мой знаходзіўся ў Бельгіі, працаваў у гаспадара, на радзіму вярнуўся ў красавіку 1945 г. Вызвалілі яго англічане.

Вяртаючыся на Радзіму я бачыла ўжо апусцелыя лагеры ў Котбургу, Трагібрыцане і Дахаў, дзе мы затрымліваліся па некалькі тыдняў.

Больш падрабязныя звесткі можна атрымаць у былога вязня Асвенцыма Лугоўскага Станіслава, які жыве ў гэты час у Лідзе. Адраса яго я не ведаю. Працаваў ён на Заводзе харчовых канцэнтратаў. Сваякі яго (Іваноў Віктар Паўлавіч) жывуць па вуліцы Мопраўскай, 1.

## *Ад рэдакцыі.*

*Прыведзеныя чатыры матэрыялы, якія тычацца лёсу Валянціна Таўлая і яго сваякоў, так і не далі адказу на пытанне, на каго і ў якой ступені працаваў Валянцін Таўлай падчас вайны, хто і як выкупіў камуністычнага заходнебеларускага паэта з нямецкай вязніцы, як ён трапіў на II Усебеларускі кангрэс, чаму не выехаў у эміграцыю, як іншыя ўдзельнікі кангрэсу, як не трапіў пад сталінскія рэпрэсіі пасля вайны.*

*Шмат пытанняў. І дакладнага адказу мы, напэўна, ніколі не атрымаем.*

*Можна толькі здагадвацца, што ва ўсёй гэтай таямнічай гісторыі з Валянцінам Таўлаем можа праглядвацца ўдзел Міколы Дзямідава, які меў пры немцах у Лідзе найбольшую вагу і які бачыў у Таўлаі перш за ўсё шчырага беларуса і паэта, а пасля ўжо камуніста, тым больш заходнебеларускага.*

*Так гэта ці не так, цяжка сказаць. Адно можна канстатаваць адназначна. Школу падпольшчыкі Заходняй Беларусі пры паляках прайшлі добрую. Калі яны хацелі што-небудзь схаваць са сваёй біяграфіі, то рабілі гэта выключна прафесійна.*

***Валеры Сліўкін***

# Лідчына ў паўстанні 1794 года

***"Паўстанне 1794 г. заб'яўленнем вайны Расіі і Прусіі і з дыктатурай Касцюшкі было перадсмяротнай сутаргай Польшчы."***
***В. Ключэўскі.***

**24 сакавіка 1794 года** ў Кракаве Тадэвуш Касцюшка абвясціў Акт Паўстання. 16 красавіка да паўстання далучылася 19 афіцэраў літоўскай кавалерыі, размешчанай у Шаўлях (суч. Шаўляй). У ноч на 23 красавіка паўстанцы задушылі супраціў расейскай залогі ў Вільні.

Створаная паўстанцамі Найвышэйшая Літоўская Рада **24 красавіка** выдала Маніфест (Універсал) аб далучэнні да паўстання ў Польшчы і заклікала зброяй здабываць свабоду і грамадзянскую роўнасць. У той жа дзень на гарадскім рынку ў Вільні "літоўскі Арыстыд" Юры (Ежы) Белапятровіч (лідскі стражнік у 1764 г., лоўчы ў 1771 г.) зачытаў акт аб пачатку паўстання ў ВКЛ. *(6. С. 345).* Мэта паўстання: Рэч Паспалітая ў межах 1772 года з канстытуцыяй 1791 года. Лозунгі паўстання: свабода, цэльнасць, незалежнасць. Літоўская Найвышэйшая Рада ўключала 29 пастаянных сяброў, у тым ліку лідскага войскага Дамініка Нарбута і лідскага лоўчага Юрыя Белапятровіча. 25 красавіка Крымінальны Суд, які ўзначальваў Д. Нарбут, адправіў на шыбеніцу вялікага гетмана Шымона Касакоўскага *(4. S. 13).*

**3 траўня** Найвышэйшая Літоўская Рада прызначыла палкоўніка корпуса інжынераў Якуба Ясінскага начальнікам Узброеных сілаў ВКЛ. 7 траўня пад Палянамі за 7 км ад Ашмян адбылася шасцігадзінная жорсткая бітва паўстанцаў з рускай часткай палкоўніка Дзеева.

**11 траўня** Я. Ясінскаму прысвоена званне генерал-паручніка.



***Тадэвуш Касцюшка. Скульптурны партрэт. Шпіятр. Аўтар невядомы. Вывезены з Расеі. Захоўваецца ў Лідзе ў прыватнай калекцыі Уладзіміра Леванцэвіча.***

## Прысягі жыхароў Лідскага павету

**29 красавіка** ў Сукурчах таемна сабралася некалькі лідскіх шляхціцаў, у тым ліку лідскі земскі суддзя Аўгустын Шэмет і таемна падпісалі Акт паўстання. Яны выбралі дэлегатам у Раду ад Лідскага павету Ігната Кастравіцкага.

Эйшышскія шляхціцы: пісар Кароль Буржынскі, Ян Запаснік і яшчэ 20 чалавек прынеслі прысягу 1 траўня: ***"Мы, ніжэйпадпісаўшыяся шляхта і абывацелі Лідскага павету, рухомыя ахвотай і добрай воляй, Універсал Найвышэйшай рады ВКЛ аб акце паўстання народа Рэчы Паспалітай, створаны і абвешчаны 24 красавіка ў горадзе Вільні, у якасці здзейсненага акта іх міласцяў ураднікаў, шляхты і абывацелеў Лідскага павету пад прысягай запісваем у акты земскія Лідскага павету і ўканцы подпісамі завяраем, што аддамо маёмасць і сваё жыццё дзеля перамогі вялікага паўстання Рэчы Паспалітай"*** *(3. № 47).*

**У гэты ж дзень** па прыватнай ініцыятыве лідскага старасты Язэпа дэль Кампа Сцыпіёна ў яго двары таемна сабраліся некаторыя шляхціцы і запісаліся ў Акт без прынясення прысягі. Пазней лідскі падстолі Ян Альшэўскі і інш. адракліся ад гэтага Акта і далучыліся да публічнага саюзу.

**2 траўня** ў Лідзе на Рынкавай плошчы - "на месцы звычайных абрадаў" - былі зачытаны Акты паўстання сялянам і мяшчанам, што сабраліся на кірмаш. ***"Усе слухалі іх з вялікай цікавасцю, прысягнулі і радасным крыкам паказалі праўдзівы намер забіваць і знішчаць непрыяцеля."*** *(2. № 25).*

Дэлегатам у Раду быў абвешчаны Ігнат Кастравіцкі, які не прысутнічаў на сходзе. Шляхціцы Міхал і Юры Тукалы, а таксама Адам Коркуць заявілі пратэст супраць абрання Ігната Кастравіцкага дэлегатам, паколькі ён быў абраны *"раней з'яўлення гэтага Універсала ў актах з-за спазнення абывацеляў павету, якія думаюць патрыятычна." (3. № 46).*

**3 траўня** абывацелі Слонімскага і Лідскага паветаў слонімскі земскі суддзя Ігнат Шукевіч, слонімскі мечнік Антон Шукевіч і яшчэ 13 чалавек "... бачачы ў Акце паўстання самую шчырасць на выратаванне нашай Айчыны ўсімі спосабамі..." падпісалі Акт сваімі рукамі з прысягай "... несучы ў ахвяру на служэнне народу жыццё, маёмасць і найвярнейшае паслушэнства загадам Найвышэйшай рады, усім дэпутацыям і магістратурам, якія тым Актам устаноўлены і заснованы быць могуць" *( 3. № 48).*

**16 траўня** прысягу ад імя свайго хворага брата Ігната Свідэрскага, гродскага рэгента Лідскага павету прынёс красамоўны рэгент Парадкавай камісіі Лідскага павету Адам Свідэрскі: *"... здзяйсняю сведчанне майго брата разам з прысягай у Акты шчаслівага паўстання польскага народу, ... шчырых абывацеляў, якіх вядзе памкненне на ўтрыманне бацькоўскіх свабодаў, цэласці межаў, усеагульнага шчасця і пазбаўлення імені паляка ад ускладзенага ярма няволі, панавання дэспатызму, створанага двума замежнымі дварамі, маскоўскім і прускім. Калі пасля нанясення стольkіх ужо паразаў і ганьбаў, тыя ж двары вялікую ад вякоў прэрагацыву паляка, вольнасць і незалежнасць, якія імя паляка прывыкла з самага пачатку яго існавання беспярапынна шанаваць за ўсеагульны дар і ахвотна карыстацца, а ўсяго больш само існаванне паляка знішчаць і частку братоў бязлітасна прыгнятаць цераз падзел краю і навяртаць да няволі пад панаваннем свайго дэспатызму цераз прымусовы з Масквой акт Таргавіцкай канфедэрацыі, згаданы акт паўстання кракаўскага і віленскага народу сваёй сутнасцю вяртае Айчыну да сваёй зыходнай святасці і тым самым заахвочваючы нас усяцэла дасягнуць шчасця, паўстаць з пылу і залячыць рубцы Айчыны, прыбліжае жаданую пару, калі толькі гэтую мужнасць захоча і здалее ўважыць". ( 3. № 59).*



***Галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі ВКЛ Якуб Ясінскі***

**19 траўня** прысягнулі для запісу ў земскія пратаколы Лідскага павету перад суддзём павету М. Мурачэўскім жыхары Ражанскай парафіі Людвік Макрыцкі, Гіпаліт Жаба, Ануфры Шымкоўскі і інш.: *"Калі актам свайго паўстання... літоўскі народ з ярма няволі, краю прорвы, пашчы людаедаў выбраўся і выжыў, калі тым днём, здабытая продкамі ад прыгнёту ворагаў, ад помсты здраднікаў, адрадзілася вольнасць паляка, калі народ па большай частцы цешыўся ў трыум-*

*фах, у радасцях і захапленнях, тады мы і ўся ражанская парафія, не ведаючы пра паўстанне літоўскага народу, не маючы ніякіх дасланых універсалаў, ні войска, ні збройнага люду, абліваліся крывавымі слязьмі...*

*Пасля адходу непрыяцеля (расейскага корпуса Цыцыянава), вярнуўшыся з лясоў, балот і пушчаў у свае ўжо разбураныя дамы, раніцай 17 траўня мы даведаліся пра паўстанне літоўскага народа і ... загадзе ... абывацелям з'явіцца для ўзнаўлення прысягі і для абрання генерал-маёраў і павятовых ротмістраў.*

*Пагэтаму мы з найвялікшай ахвотаю ступаючы на падтрымку Айчыны і акта паўстання літоўскага народу, далучаемся да таго акту, яму ... прысягаем і абавязуемся як мага дакладней выконваць розныя даручэнні, прадпісаныя Найвышэйшай Віленскай Радай." (3. № 63).*

Прысягалі лідскія шляхціцы да 6 чэрвеня, падпісалася 597 чалавек. Для тых, хто сумняваўся ці быў нязгодны, на Рыначнай плошчы была пастаўлена шыбеніца.

## Лідская парадкавая камісія

**5 траўня** на падставе **"Універсала да ваяводстваў і паветаў правінцыі Вялікага Княства Літоўскага і гарадоў вольных"** Найвышэйшай Рады ВКЛ у Лідзе была створана Парадкавая камісія Лідскага павету. У яе склад увайшлі лідскі староста Язэп Сцыпіён, гарадскі суддзя, камісар вайскова-цывільны Міхал Тукала, пісар земскі, харунжы, камісар грамадзянскіх войскаў Францішак Александровіч, камісар грамадзянскіх войскаў павету Адам Коркуць, мечнік, камісар грамадзянскіх войскаў Адам Гарваскі, камісар,



**Пячатка Найвышэйшай Рады - часовага паўстанцкага ўраду Вялікага Княства Літоўскага**

дэлегат Ліды Казімір Маскевіч. *(2. № 25).* Пасля 30 траўня парадкавая камісія была расшырана да 21 сябра, складалася яна з 7 аддзелаў (скарбу, парадку, бяспекі, справядлівасці, харчавання, вайсковых патрэб і інструкцый), у кожным аддзеле было па тры камісары.

**Аддзел маёмасці:** Язэп Радзівонаўскі, Язэп Александровіч, Тадэвуш Паўлоўскі (Паўлікоўскі).

**Аддзел парадку:** Тадэвуш Фуярскі, Матэвуш Глушынскі, ксёндз Фларыян Крушэўскі.

**Аддзел бяспекі:** Міхал Тукала, Ігнат Кастравіцкі (генерал ВКЛ у 1792 г.), ксёндз Францішак Машэўскі.

**Аддзел справядлівасці:** Антон Александровіч, Язэп Александровіч, Адам Свідэрскі.

**Аддзел харчавання:** Аляксандр Шумкоўскі, ксёндз Ян Даўкша, Казімір Маскалевіч, Юры Дашкевіч.

**Аддзел вайсковых патрэбнасцяў:** Мартын Умастоўскі, Язэп Дамінік Шалевіч, Ручынскі, (Рачуцкі, да 30 жніўня), ксёндз Себасцян Дубоўскі, ксёндз Самуэль Кунцэвіч (з 30 жніўня).

**Аддзел інструкцый:** ксёндз Язэп Рыхліцкі (Рыхлоцкі), Тамаш Францішак Вільканц, Ян Габіхт.

**Сакратаром** Парадкавай камісіі быў Эдвард Захваловіч.

Эйшышскія абывацелі генерал-маёрам Эйшышскага павету абралі Язэпа Сядліцкага. Лідскія абывацелі свой выбар спачатку спынілі на падкаморыі Яўхіме Нарбуце, але паколькі ён разам з братам шамбелянам Казімірам садзейнічаў таргавічанам, то 20 чэрвеня яго замянілі на брата лідскага старасты Караля Сцыпіёна. У кастрычніку Караля Сцыпіёна змяніў Язэп Сядлікоўскі. *(1. С. 346).* У Лідскім павеце не было рэгулярнага войска. Парадкавая камісія настойліва прасіла Раду прыслаць войскі для абароны ад небяспекі. *"Нават малалікае рэгулярнае войска ажывіць дух абывацеляў, заахвоціць смялей злучацца, можа хутчэй абудзіць дагэтуль пахаваную адвагу, прыспешыць ваколіцы, вёскі і двары сабрацца на абарону... з чаго атрымаецца... больш бяспекі для касы ад паступлення падаткаў і збору рэкрутаў". (2. № 25).*

## Паход корпуса П. Д. Цыцыянава з Гародні ў Мір цераз Лідскі павет

Атрымаўшы звесткі пра паразу Віленскай залогі, расейскі генерал-маёр князь П. Д. Цыцыянаў садраў з Гародні 100 тыс. рублёў кантрыбуцыі і павёў свой корпус (7715 штыхоў) цераз Шчучын, Беліцу на Мір-Нясвіж, на злучэнне з корпусам генерала Т. Туталміна. Да яго далучылася 1715 салдат віленскай залогі. Па дарозе

салдаты разрабавалі Ражанкаўскую парафію, прылеглыя да тракту двары і фальваркі. *"... жорсткія казакі і разбэшчаныя салдаты, уварваўшыся 7 траўня ў ражанскую парафію, адных з нас мучылі і палілі, білі і насмерць забівалі, нашыя грошы, срэбра і золата, каштоўнасці, сукно, шаблі, стрэльбы, пісталеты, дзядамі і прадзедамі пакінутыя і сваёй працай сабраныя, таму што дзікі казак і азвярэлы салдат зверскімі і ганебнейшымі мукамі забіраў збожжа рознага гатунку і ўраджаю, таксама сена сваім рабаўнічай нешкадобай вораг сажраў і растаптаў, нямала прысвоіў сялянскай і фальваркавай жывёлы, падданых і дваровую чэлядзь, слуг і эканомаў біў, забіваў, мучыў і катаваў, словам, адных з нас да труны давёў, а нас, жывых, да апошняй патрэбы, жабрацтва і плачэўнага стану распушчанае казацтва давяло. Мы ж, спытаўшы пабоі і мукі, са страху пакідаўшы свае дамы, схаваліся ў лясах, стэпах і топкіх балотах, дзе, ратуючы сваё жыццё ў адной толькі кашулі і лахманах, спазналі вялікі голад. Словам, усе тыя дні, якія мы правялі з 7 да 16 траўня па лясах і балотах, падаліся нам канцом свету і жыцця, цэлым землятрусам". ( 3. № 63).*

Паведамляючы пра адход свайго корпуса, П. Д. Цыцыянаў дакладваў: *"Войска расейскае ў Беліцы не знайшло нічога польскага, акрамя яўрэяў, якія падтрымлівалі таемную карэспандэнцыю з паручнікам Корсакам, што стаіць лагерам пад Лідай".*

**12 траўня** польская кавалерыя пад камандаваннем Самуеля Корсака атакавала часткі расейскага корпуса пад Беліцай, але поспеху не мела. За дзесяць гадзін 13 траўня пад кіраўніцтвам капітана артылерыі Аляксандра Барысавіча Фока цераз Нёман быў пабудаваны мост даўжынёй у 38 сажаняў (80 м), па якім расейскі корпус перайшоў на левы бераг.

**15 траўня** корпус П. Д. Цыцыянава прыбыў у Мір, страціўшы пры будаўніцтве пераправы і ў дробных сутычках 2 чалавекі забітых і 5 параненых. *(1. С. 344).*

У той жа дзень Т. Касцюшка раздзяліў літоўскае войска на тры корпусы з трыма камандуючымі: Я. Ясінскім, А. Хлявінскім і Ф. Сапегам. 21 траўня ў Жырмунах Ясінскі атрымаў паведамленне ад Касцюшкі аб прысваенні яму годнасці Вярхоўнага галоўнакамандуючага паўстанцкіх сілаў ВКЛ. З 18 па 26 траўня Ясінскі стварыў склады паўстанцкай арміі ў Веранове, Лідзе і Гаўі, пасля чаго вырашыў ісці цераз Іўе на Валожын і высунуўся з Ліды пад Ліпнішкі. Расейскі корпус Бенігсена, перайшоўшы Нёман хуткім маршам рушыў насустрач корпусу Ясінскага.

## Бой пад Ліпнішкамі

27 траўня пад Ліпнішкамі на беразе Гаўі адбыўся бой паміж корпусам Ясінскага і рускім корпусам Лявона Бенігсена. Паводле Л. Бенігсена корпус *"хуткімі крокамі спусціўся да пераправы, шчасліва перайшоў лес па лагчынах і зшыхтаваў свае сілы ў дзве калоны. Супраціўнік сустрэў кананадай і то спыняўся, то падаваўся назад. Я, звярнуўшы ўвагу на адступленне іх конніцы.., выцяў на іх левае крыло, якое пры малым супраціве павалена са стратаю на месцы каля 200 чалавек... Потым кінулася ўся зброднinfinityя на ўцёкі..., чэрнь схавалася ў лес, а войскі адступаючы, запаліўшы мост, рассыпаліся таксама па лясах".* Ясінскі адышоў у Дворышча, склад з Гаўя быў эвакуяваны, мост цераз Жыжму спалены. А. Хлявінскі са сваім корпусам прастаяў гэты дзень пад Мыто, чакаючы падходу Ф. Сапегі.

## Чэрвенскія падзеі

Ліда стала вярбовачным пунктам, сюды збіраліся ва ўзброенае апалчэнне рэкруты з усяго павету, ствараліся конныя аддзелы і аддзелы касінераў, мабілізаваны былі таксама лідскія мяшчане.

**1 чэрвеня** Я. Ясінскі выдаў "Універсал" для павятовых генерал маёраў аб тэрміновай арганізацыі спецыяльных дыверсійных 300-асабовых конных аддзелаў для арганізацыі партызанскага руху ў тыле расейскага войска.

**6 чэрвеня** паўтысячны аддзел М. К. Агінскага выйшаў з Вільні ў Менскае ваяводства.

У гэты ж дзень шляхціц Мартын Тызенгаўз заявіў пра сваю няздольнасць своечасова паставіць рэкрутаў ва ўзброенае апалчэнне: *"Я, ніжэйпадпісаны, сведчу перад актамі земства Лідскага павету, што з-за шматтыднёвага прахода цераз ельненскую парафію непрыяцельскага войска, што пагражала майму маёнтку, ... я ... падобна эмігранту ратаваў сваё жыццё... Зараз жа, прыбыўшы ў вольнае месца Ліду, я, як згодны з думамі народу патрыёт, ... пацікавіўся пра якія небудзь універсалы і з прыватнага рэха даведаўся, што па генеральнаму ўніверсалу 6-га дня гэтага месяца без папярэдняга ўрадавага раскладу належыць даставіць рэкрута з 5 дымоў.*

*Нягледзячы на сваю ахвоту заўсёды старанна клапаціцца аб лёсе Айчыны, я не магу даць указаных рэкрутаў ў такі кароткі час з-за бунту сялян у маім застаўным фальварку Касцішчах, а тым больш не здольны з-за гэтага памясціць у належнае месца лінейнага рэкрута.*

*Па гэтых прычынах, каб не патрапіць пад суд публічнай крытыкі, а тым больш якога-небудзь абывацеля, я падаю гэтае сведчанне для запісу ў*



***Камандзір паўстанцкага аддзелу Міхал Клефанс Агінскі, аўтар славутага паланезу "Развітанне з Радзімай"***

*пратакол." ( 3. № 74).*

**10 чэрвеня** ў Лідзе сабраліся крымінальныя суддзі Лідскага павету: Антон Александровіч (прэзідэнт), Аўгуст Шмет, Міхал Зянковіч, Пётр Губарэвіч, Ян Макрэцкі, Матэвуш Глушынскі, Тадэвуш Паўлікоўскі ды Язэп Раеўскі і прынялі прысягу ў адпаведнасці з ардынацыяй Часовай Рады літоўскага народа ад 24 траўня і ў той жа дзень пачалі суды, а для вядзення сентэнцыяруша (хронікі) аднагалосна выбралі суддзём Матэвуша Глушынскага, судовым пісарам Ігната Яча, адвакатам - Мацея Шалевіча і прынялі ад іх прысягу. *(2. № 28).*

**13 чэрвеня** лідскія суддзі на дзесяць дзён адлажылі судовыя паседжанні і дэлегавалі пісара Ігната Яча ў Найвышэйшую Літоўскую Раду для атрымання рэквізітаў, пячаткі і рэзалюцый па ўзніклых пытаннях. Аднак у гэты час Найвышэйшая Рада была распушчана Т. Касцюшкам, а замiж яе ў Гародні быў створаны выканаўчы орган паўстання ў ВКЛ - Цэнтральная Дэпутацыя.

**14 чэрвеня** Т. Касцюшка адхіліў Я. Ясінскага ад кіраўніцтва паўстаннем у ВКЛ, абвініўшы яго ў сепаратызме, і прызначыў камандуючым разважлівага, але бесталаннага генерал-паручніка Міхала Вельягорскага.

**15 чэрвеня** дыверсійны аддзел М. К. Агінскага ўвайшоў у пусты Івянец, цераз тры дні пад Вішневам яго нагналі і разбілі расейскія войскі пад камандаваннем М. Зубава.

**15 чэрвеня (4 па ст. ст.)** камандзір расейскай дывізіі генерал маёр Б. Ф. Кнорынг паведаміў з Іўя князю М. В. Рапніну, што *"мае намер ісці на Дзевянішкі, каб не дапусціць злучэння Ясінскага з Хлявінскім, які знайходзіўся паміж Лідай і Мыто, тым самым загарадзіць дарогу на Вільню"*, а пасля ажыццяўлення гэтага манеўру паверне да Ліды, *"каб у гэтым горадзе адалець узбунтаваўшаеся войска"*.

**19 чэрвеня** за Нёманам два дзесяткі казакаў захапілі ў палон двух яўрэяў з Беліцы. Адзін з яўрэяў сумеў уцячы дадому. Камендант Бяляк быццам бы адправіў у выведку 11 вершнікаў. Аднак, гэтыя вершнікі казакаў не толькі не распужалі, але і ў палон трапілі. *(2. № 27).*

**21 (10 па ст. ст.) чэрвеня** П. Д. Цыцыянаў далажыў генерал-паручніку Т. І. Туталміну, што ў Лідзе паводле атрыманых ім звестак *"да 2000 польскага войска"*. У той жа дзень Б. Ф. Кнорынг выступіў у Дзевянішкі *"для разбіцця корпуса польскіх ракашан, які быў пад кіраўніцтвам Хлявінскага і знайходзіўся ў Лідзе і Мыто... Але, калі я прыйшоў на другі дзень ў мястэчка Дзевянішкі, даведаўся..., што Хлявінскі, будучы адкліканым Касцюшкам, здаў сваю каманду палкоўніку Мейену, пры якім знайходзіўся сам кіраўнік усіх узброеных сілаў, якія дзейнічаюць супроць нас, які даведаўшыся, што я на шляху ўжо да Ашмянаў, выступіў і ў той дзень, у які я прыйшоў у Ашмяны, меў начлег у Веранове, кіруючыся да Вільні, пакідаючы пасля сябе толькі генерал-маёра Лідскага павету Цыпіёна (Сцыпіёна) для набору з тамашняга павету рэкрутаў і збору шляхецтва, як і ўзбраення іх". ( 3. № 95).*

Б. Ф. Кнорынг выслаў з Дзевянішак на Ліду *"для рассеяння натоўпу генерал-маёра Цыпіёна"* (Сцыпіёна) аддзел пад камандаваннем падпалкоўніка І. М. Эсена, а менавіта, 120 егераў, эскадрон драгун, адну пушку і некалькі казакаў; для паскарэння маршу егеры былі пасаджаны на коней. Недалёка ад Ліды І. М. Эсен атрымаў вестку, што сабранае ў Лідзе апалчэнне, даведаўшыся пра яго набліжэнне, адступіла ў бок Жалудка. *"Але паблізу Ліды вышэйапісаны падпалкоўнік, як пасля даносіў мне, атрымаў вестку, што ўся гэтая шайка, атрымаўшы вестку аб яго прыбыцці, разбеглася, і схопленыя сяляне вернуты ў іхнія жытлы. Паспела адыйсці з названым генерал-маёрам Цыпіёнам (Сцыпіён) толькі шляхецтва і некаторая колькасць мужыкоў, якія паспешна рушылі да мястэчка Жалудок, і перахапіць гэтых апошніх было ніяк немагчыма, таму што яны былі на конях". (3. № 95)*

**23 чэрвеня** генерал-маёр Лідскага павету Кароль Сцыпіён і Парадкавая камісія звярнулася ў ЦД з просьбай выдзеліць якую-небудзь частку лінейнага войска для дапамогі павятовым узброеным сілам і вярнуць 6 пушак, забраных у Сцыпіёнаў у Шчучыне і адпраўленых у Гародню. *(№ 26.)*

**25 чэрвеня** Кароль Сцыпіён паслаў у выведку некалькі дзесяткаў ахвотнікаў, якія дабраліся да Геранён, убачыўшы казакаў, павярнулі назад. Пасля вяртання ахвотнікаў Сцыпіён з пікінерамі і ахвотнікамі пакінуў Ліду і пайшоў на Гарадзенскі тракт да Мыто. За ім рушыла Парадкавая камісія, а за ёй абывацелі.

У Лідзе застаўся бурмістр Язэп Раеўскі з гараджанамі. Ён загадаў выставіць ахову на вуглах вуліц, нікога не ўпускаць у горад, і выслаў двух конных мяшчан, аднаго пад Тракелі, другога пад Ліпнішкі, ад якіх неўзабаве даведаўся, што невялікі маскоўскі абоз ужо ў Дзевянішках, і што казакі з карабінерамі лікам у некалькі соцень ужо разрабавалі Геранёны, Тракелі і Дворышча. У тую ж ноч стала вядома, што мноства казакаў хаваецца па лясах поблізу Беліцы. *(2. № 27).*

**26 чэрвеня** паўстанцкае войска ў складзе трох карпусоў пад камандаваннем Я. Ясінскага, Ф. Сапегі і А. Хлявінскага, палкоў начале з Я. Беляком, Кіркорам, Бараноўскім, Ахматовічам пацярпелі паразу пад Солямі. Страціўшы тысячу жаўнераў Я. Ясінскі здаў камандаванне Міхалу Вельягорскаму і выехаў у Варшаву, Хлявінскі рушыў пад Слонім, а генерал Бяляк з конніцай пад Беліцу.

Генерал Вельягорскі з 7-тысячным войскам размясціўся ў Веранове пры галоўным лагеры. *"У Веранове было залішне весела: у кватэры галоўнакамандуючага афіцэры штабу балявалі за багатым сталом і гулялі па-буйному ў карты, а жаўнеры жорстка галадалі, коні не мелі корму". (4. S.13).*

Другі лагер па дарозе на Слонім залажыў генерал Хлявінскі ў Ражанцы, там таксама было прыемна: *"З'язджалася мноства афіцэрак у раскошных карэтах, а афіцэрам патрабавалася шмат часу, каб дасканала апрануцца."(4. S.13).*

Паводле ацэнак расейскіх генералаў на пачатак ліпеня войска ВКЛ *"шматлікімі сутычкамі разбіта і рассеена, а з таго трэба заключыць, што іх сілы змяншаюцца і далейшых прадпрыемстваў яны вытрымаць не ў стане. Таксама вярхоўны начальнік узброенага народа Касцюшка ўжо шмат страціў сілы, і ўсе пабочныя спосабы яго засталіся перапынены. А з таго несумненна выйдзе, што ён зусім упадзе і знішчыцца, пасля чаго адзін народ бедны застаўшыся ў малой частцы панясе цяжкасць зброі."*

**1 ліпеня (19 чэрвеня ст. ст.)** Б. Ф. Кнорынг даносіў князю М. В. Рапніну: *"У выніку павароту майго на Ліду атрымаў я праз некалькі дзён весткі, што ракашане пад кіраўніцтвам Вельягорскага... акапаліся шанцамі пад мястэчкам Яцунем за рэчкаю Мераччу... паколькі яны хутчэй і спрытней ад зямлі атрымоўваюць весткі пра нашыя перамяшчэнні, чым мы, таму што мы можам не інакш, як пры дапамозе моцных аддзелаў, а не праз жыхароў, якія пад такой ходзяць небяспекай, што як толькі жыд ці пасялянін без білета кіраўнікоў тых месцаў, адкуль яны ёсць, пакажацца, у той жа час па адным падазрэнні, што ад нас пасланы, павесяць, хоць бы ён па сваіх справах ішоў." (3. № 95).*

## Узяцце Ліды

**5 ліпеня** Лідская парадкавая камісія на вячэрняй пленарнай сесіі атрымала паведамленне аб набліжэнні непрыяцеля. *"У той момант амаль усе камісары выскачылі, а сакратар абывацель Захваловіч, забраўшы акты той камісіі, з універсаламі з'ехаў".*

**6 ліпеня** *"300 расійскай кавалерыі разам з казакамі і 2 гарматамі польнымі прымаршыравалі ад Дворышча пад Ліду і, убачыўшы спераду места Ліды каля 100 коней шыкоўнай кавалерыі пад камандай абывацеляў Александровіча і Дамініка Шалевіча, некалькі разоў грымнулі з гармат. Тым часам казацтва счапілася з ротмістрамі Вілбекам і Сцыпіёнам. Ледзь толькі яны рэціраваліся па мосце пры піярскім млыне, як тут абывацель Шалевіч зблізіўся з маскалямі і загадаў (прымусіў, рэд.) вярнуцца, што вельмі выратавала ад няшчасця, бо маскалі падаліся налева і, рассыпаўшыся перад местам, выпусцілі 12 гранат. Хаця тыя падалі ў месце, але ўсё ж такі нікому не шкодзілі, толькі места запалілі, а тым часам павятовая кавалерыя адступіла да Мыта". (2. № 29).*

Вось як гэтая падзея выкладзена ў рапарце генерала Б. Кнорынга М. Рапніну ад 7 ліпеня (26 чэрвеня ст. ст.): *"Учора прыбыў я ў Дворышча, дзе маю цяпер мой лагер. ... Высланы быў пікет па лідскай дарозе, якім быў сустрэты моцны пост ракашан, што сабраліся ў Лідзе пад камандаю генерала Цыцыянава (Сцыпіёна дэль Кампа, рэд.), але быў разбіты. А ўслед яму быў пасланы аддзел з драгун, казакаў і егераў у Ліду, у тую ж хвіліну пад начальствам пана палкоўніка Чэсменскага, дзе тыя ракашане і быўшыя там канфедэраты ім разбіты, прагнаныя і рассеяныя, якіх, як пасля абвясцілі палонныя, да дзвюх тысяч пяцьсот чалавек, у тым ліку да трохсот чалавек конніцы, і Ліда ачышчана з забітымі на месцы з іх трохсот дваццаці пяці, ды і ў палон схоплена сто сем, а іншыя разбегліся. Разбіццё іх тым яшчэ больш важнае, што яны набраныя былі і навучаны да стральбы на падмацаванне іншых сілаў, што ўзброіліся супраць нас, і гэтыя набраныя былі часткова з сапраўдных салдатаў, часткова з рэкрутаў і татараў, а большай часткай з навакольнага шляхецтва, сабранага па паспалітым рушэнні, якія былі супраць волі іх з вёсак вырваны страхам, які наводзяць на іх, пагражаючы шыбеніцамі ... можна данесці вашаму сіяцельству, што і дзесятая частка іх не ўцякла з названым вышэй*

*генералам Цыцыянавым (Сцыпёнам дэль Кампа), які нарэшце кінуўся на ўцёкі і быў праследаваны за мястэчка Мыто". ( 3. № 98).*

Як заўсёды, пераможцы прыўвялічылі перамогу, пераможаныя прыхавалі страты. У метрычных актах Лідскага касцёла за 1794 г. быў запіс пра тое, што *"ўсе забітыя падчас аблогі Ліды пахаваныя каля касцельнай агароджы". (5. С. 51).*

А сёмай гадзіне расейскія кавалерысты ўварваліся ў горад і запатрабавалі кантрыбуцыю. Манахі-кармеліты павінны былі выплаціць 100 зл., яўрэі 200 зл. Прыёр кармеліцкага клештара адмовіўся плаціць кантрыбуцыю, яго ўзялі пад варту, а кляштар аддалі пад рабунак. Манахі-кармеліты страцілі ўсе прыпасы, рухомасць і грошы.

Расейская залога прастаяла ў Лідзе 5 дзён, штодзённа выязджаючы на рабункі. Больш за іншых пацярпелі войскі Дамінік Нарбут, шляхціцы Тукала і Жаба, а войт Маскалевіч і бурмістр пазбаўлены ўсёй маёмасці. Жонка Маскалевіча, якая ўцякала з дзіцем, страціла руку, якую адбіў драгун. Ксёндз Навіцкі, лідскі камендант, з-за ўцёкаў страціў у фальварку абору з рухомасцю.

**11 ліпеня** расейцы пакінулі горад. Назаўтра рэктар піярскага калегіюма Фларыян Крушэўскі з абозам выехаў у Ліпнішкі і Суботнікі, дзе быў дапытаны генералам Б. Ф. Кнорынгам. *(2. № 29).*

**19 ліпеня** расейцы спрабавалі ўзяць Вільню.

**У пачатку жніўня** ў Беліцы стаяў корпус В.А. Зубава.

## Лідская парадкавая камісія ў Новым Двары

Парадкавая камісія Лідскага павету перанесла сваю дзейнасць у Новы Двор.

**2 жніўня** ў Новым Двары павінна было адбыцца паседжанне, але многія камісары не прыехалі. Было атрымана паведамленне, што расейскія войскі за тры мілі ад Шчучына і Васілішак.

**4 жніўня** ў Новы Двор прыбылі камісары Тамаш Вільканц, Язэп Рыхліцкі, Міхал Тукала, Антон Александровіч, Аляксандр Шумкоўскі, Тадэвуш Паўлоўскі, Язэп Радзівонаўскі, Тадэвуш Фуярскі і Ігнат Кастравіці. Камісія прызнала, што не ў стане выконваць свае абавязкі з-за блізкасці расейскага войска і прасіла кіраўніцтва паўстання абараніць павет: *"... даносім аб такой пагрозе для таго, каб не быць асуджанымі і завочна абжалаванымі зласліўцамі камісіі, як гэта даводзілася зведаць. Калі камісія для істотнай кансістэнцыі і аховы сваіх чыннасцяў не можа знайсці бяспечнага месца, калі тая камісія, зноўтакі, з-за разарвання шляхоў зносін не можа абвяшчаць універсалаў, выбіраць падаткі, прымаць рэкрутаў у паразуменні са сваім упаўнаважаным, гэтак жа ад масквы ўнікаючым, з самога пачатку камісіі не прадстаўляючым ні інфармацыі, ні выкананых указаў з-за той жа небяспекі, да той пары, пакуль павет не будзе абаронены ад маскоўскага войска, а таму, прадстаўляючы рапарт аб прычынах вышэйзгаданай сваёй бяздзейнасці, даём выпіску з просьбай аб абароне нашага Лідскага павету, як для выбару рэкрутаў, так і для належных чыннасцяў камісіі". (2. № 30).*



***Адзін з кіраўнікоў паўстання ў Вялікім Княстве Літоўскім Стэфан Грабоўскі***

Па просьбе генерал-маёра узброеных сілаў Лідскага павету Караля Сцыпёна камісія дазволіла ў незанятых непрыяцельскім войскам парафіях сабраць з дыму па 3 фунты сухароў або па 6 фунтаў хлеба. (№ 36.)

**У аўторак 12 жніўня** прыбылі камісары Язэп Александровіч, Язэп Радзівонаўскі, Тадэвуш Фуярскі, Матэвуш Глушынскі, Ян Габіхт і ротмістр, упаўнаважаны Найвышэйшай Літоўскай Рады Дамінік Нарбут. Сябры камісіі раздзялілі павет на дазоры, склалі расклад дастаўкі абывацелямі параконных брычак з коньмі ад 200 дымоў, склалі каштарыс на каня і заняліся паборавым тарыфам. Выказалі занепакоенасць, што *"паставіць брычкі ў камісію ў тэрмін немагчыма, бо непрыяцельскае войска спадзяецца хутчэй да яе дабрацца". (2. № 32).*

**У гэты ж дзень** капітулявала Вільня. Дывізіі ВКЛ адступілі пад Гародню, сюды ж перабралася Цэнтральная Дэпутацыя ВКЛ.

**15 жніўня** паўстанцы аддзела Стэфана Грабоўскага мелі ўдачную сутычку з аддзелам

маёра Дэметра пад Іўем. Яны спалілі масты, наведзеныя расейцамі цераз Нёман.

**18 жніўня** Парадкавая камісія выдала распараджэнне тром абывацелям даставіць 3 вазы сена для узброеных сілаў, што стаялі ў Васілішках.

**19 жніўня** прыбыў з люстрацыі касцельнага срэбра камісар Мартын Умастоўскі.

**20 жніўня** камісія адмовіла генерал-маёру Лідскага павету Каралю Сцыпіёну прадставіць аднаго коннага рэкрута з 5 мяшчанскіх дымоў.

**21 жніўня** з Гародні атрыманы ліст ад 10 жніўня аб 50-дымавых рэкрутах. Загадана жалудокскаму дазорнаму Ёдку прыбыць 26 жніўня ў камісію для атрымання інструкцый.

**22 жніўня** камісія вырашала пытанні аб фуражы для ўзброеных сілаў павету, аб 50-дымавом рэкруце і брычках для войска, прыняла рашэнне, *" што ў вёсках дымы земляробаў, фальваркавыя і сельскія, акрамя халупнікаў і агароднікаў, а ў месцах усё агулам трэба лічыць у раскладзе 50-дымавога рэкрута"*.

**23 жніўня** камісія на патрабаванне генерал-маёра Сцыпіёна аб фуражы і правіянце для ўзброеных сілаў Лідскага павету загадала даставіць у прапорцыі і абавязкова адрапартаваць у ЦД.

**24 жніўня** камісія атрымала ад ЦД распараджэнне абазначыць асобаў для збору касцельнага срэбра і ў гэтым выпадку загадала завяршыць гэтую справу лідскаму старасту Сцыпіёну і камісару Мартыну Умастоўскаму. Генерал-маёру павету Сцыпіёну было выдадзена па яго жаданні пасведчанне аб тым, каб 50-дымавы рэкрут быў дастаўлены ў Вільню з 100 зл. пры кожным. На яго паўторнае паведамленне аб гаротным становішчы народнага апалчэння камісія выдала ўніверсал аб пастаўцы з кожнага дыму па 2 фунты сухароў, па паўкварты крупаў, па 15 фунтаў сена і па гарнцу аўсу. Разасланы выклікі камісарам, у тым ліку і ў Ліду, на адкрыццё сесіі 26 жніўня.

Аддзел харчавання парадкавай камісіі Лідскага павету рапартаваў у ЦД ВКЛ:

***"24 жніўня.***

*На рэквізіцыю генерал-маёра Лідскага павету з дакладам,*

*- што збройная сіла паспалітага рушэння з-за недахопаў і ўбоства не здольная пракарміцца сваім коштам, пасля высвятлення патрэбы і з агульнай згоды выдала ў 2 парафіі ўніверсал аб забеспячэнні яе з кожнага дыму па 2 фунт. сухароў, па паўкварты круп, па 15 фун. сена і па гарнцу аўса. Што рабіць, калі той правіянт і фураж абывацелі затрымаюць з моцы ўніверсала НР ад 12 жніўня толькі ўчора, або 25-га, атрыманага ?*

*- дзе абывацелям належыць размяшчаць і якой вартай забяспечыць цэласць загаданага ўніверсалам ад 6 чэрвеня фуражу — з дыму па 24 фунт. сух., па 8 гарнцаў аўса, па 24 фунт. сена.*

*- як адбіраць фураж, разабраны канцылярыстамі таргавіцкай канфедэрацыі і часткова раздадзены абывацелям?" (2. № 36)*

**25 жніўня** лідскія камісары акрамя Дамініка Шалевіча і Казіміра Маскалевіча, якія адмовіліся прыехаць, а таксама і засведчыць неяўку, сабраліся на сесію. Камісары адзначылі, што Парадкавая камісія Лідскага павету *"з-за небяспекі існуе ў шчуплым месцы і не мае зручнасці перадрукоўваць універсалы, прысланыя толькі па адной штуцы, і не мае фундушу на перапіс дакументаў, якіх вельмі патрэбна для публікацыі і абвяшчэння па парафіях абывацелям, то гэта без тыражавання ў адпаведнасці з колькасцю парафій не спадручна з погляду на адсутнасць друкарні"*. І прасілі *"як хутчэй прысалаць да наступнага тыдня аб намечаных экзекуцыях, менавіта — кажухоў, ботаў, кашуль, сярмяг, а таксама фуражу, з паведамленнем 12-ці асобнікаў на кожную"*. Камісары таксама прасілі прызначыць у камісію на месца ксендза Ручынскага і па яго рэкамендацыі ксендза- евангеліста Самуеля Кунцэвіча, беліцкага кожнадзея. *(2. № 33.)*

На сесіі **26 жніўня** Парадкавая камісія разгледзела камплект распараджэнняў Цэнтральнай Дэпутацыі аб тэрміновай пастаўцы кажухоў, ботаў, кашуляў. Адзначыла адсутнасць інструкцый і тэксту прысягі для дазорцаў аддзелаў і яшчэ раз прасіла прыслаць тэксты ўказаў у 12 асобніках, паколькі *"публікацыю іх па парафіях немагчыма выканаць без перапісу гэткай колькасці (усіх парафій 11-ць), на што камісія не мае ні фундушу, ні часу, ні моладзі". (2. № 35).*

**27 жніўня** раніцай у Новы Двор з Ліды на сесію прыбыў камісар аддзела вайсковых патрэбнасцяў Язэп Шалевіч, слабы здароўем *"дашчэнту абрабаваны Масквой, аднак, паставіўшы агульнае дабро вышэй асабістага, заняўся сваімі чыннасцямі "(2. № 37).*

Былы пісар даходаў павету Маскалевіч запрошаны прыбыць 31 жніўня ў Новы Двор для разліку і калькуляцыі рэестраў выбранага фуражу з Лідскага павету, а таксама з квітамі, на фураж, узяты нарадавым войскам.

Камісія зрабіла расклад узаемадапамогі і на будучыню прадпісала парадак пераемнасці. Земскія акты перададзеныя актаваму пісару Нарбуту, а дэкрэтавыя акты - Язэпу Александровічу. На месца Тамаша Градзіцкага, які адмовіўся ад абавязкаў дазорнага 7-га Астрынскага цыркуля, прызначаны Язэп Піруські. Камісія *"ухваліла падрыхтаваны канцылярыяй расклад дазораў... Прыняла складзеную для гарадзенскіх дазорцаў інструкцыю з умовай дапаўнення пры патрэбных абставінах. Засведчыла сапраўднасць скаргі ксяндза Эйсманта, які адмовіўся ад месца*

*новадворскага плябана з-за слабасці здароўя, і дазволіла звярнуцца ў святлейшую ЦД ВКЛ. На споведзь абывацелькі Агаты Вільбікавай заключыла, што не можа зволіць ад здачы заступцы, фуражу і іншых цяжараў, але дазволіла адаслаць мемарыял у Дэпутацыю, які пасылае па атрыманне рэзалюцыі і ўрадавай думкі. Атрымала экспедыцыю святлейшай ЦД, якая патрабуе даставіць наяўныя грошы. Таксама і другую экспедыцыю Найвышэйшай рады з патрабаваннем пастаўкі правіянту і вопіс харчу на месцах і вёсках".(2. № 40).*

**28 жніўня** на пададзеную сялянамі вёскі Біскупцы скаргу аб уціску дзяржаўцам Тупальскім Лідская парадкавая камісія запатрабавала, каб *"той не рабіў незалежнага ўціску"* і з'явіўся ў камісію 30 жніўня. На скаргу кагалу Васілішак Камісія дала рэзалюцыю, каб генерал-маёр Сцыпіён утрымваў узброеныя сілы ад нанясення крыўдаў яўрэям.

**29 жніўня** камісія выбрала Юрыя (Ежы) Дашкевіча генеральным пісарам па зборы фуражу і правіянту з Лідскага і Эйшышскага паветаў і абавязала яго прадставіць калькуляцыі і даставіць фураж і правіянт у Астрыно да 8 верасня. *(2. № 40.)* Завершаны збор 50-дымавых рэкрутаў. *(2. № 39.)*

На падставе ўніверсала ЦД ВКЛ прызначылі 8 верасня днём дастаўкі абывацелямі правіянту і фуражу ў Ятры. Даручылі генеральнаму пісару фуражу і правіянту Юрыю Дашкевічу прыём фуражу і правіянту ад абывацеляў Лідскага і Эйшышскага паветаў.

Паводле патрабавання ЦД ВКЛ ад 29 жніўня складзены лісты таргавіцкіх канцылярыстаў , якія разабралі правіянт і фураж і раздалі абывацелям:

*"- з Дворышча абывацель Шукевіч - аўсу бочак 15, сена 10 вазоў;*

*- з Перапечыц аб. Язэп Нарбут - аўсу 14 бочак;*

*- з Кандрацішак аб. Язэп Вілбек - аўсу 7 бочак і 6 асьмін;*

*- аб. Адам Нарбут, пісар - 5 бочак аўсу;*

*- Абрамовіч, канцылярыст - аўсу 4 бочкі і 6 асьмін;*

*- Кароль Альшэўскі - аўсу 2 бочкі;*

*- Клеманс Пратасевіч, канцылярыст - аўсу 12 бочак;*

*- аб. Ян Глушынскі, таргавіцкі пісар - аўсу 11 бочак, 50 камянёў;*

*- аб. Ян Лазоўскі - аўсу 2 осьміны, 8 вазоў сена;*

*- аб. Яўхім Глушынскі - 6 вазоў сена;*

*- аб. Міхал Альшэўскі - 8 вазоў сена.*

*Некаторыя обывацелі не паказалі квітанцый на пазычаны і аддадзены імі фураж, што няхай застанецца на іх сумленні. Пры тым далучаецца перасцярога, што пасланыя лісты яшчэ не пэўныя, бо камісары таргавіцкай канфедэрацыі дагэтуль не далі класіфікацыі фуражу і правіянту і асоб, якім пазычылі, не паказалі." ( 2. № 38).*

**30 жніўня** камісія атрымала дазвол Найвышэйшай Рады і ЦД на прызначэнне камісарам ксендза Самуеля Кунцэвіча і запрасіла яго прыбыць 8 верасня для прысягі.

## Вераснёўскія падзеі

**1 верасня** некалькі казакаў напалі на ваколіцу Няцечы і абрабавалі Калясніцкага і Вілямовіча, а потым Касоўшчыну Мігдала. Гэтыя фальваркі размешчаны не далей мілі ад Ліды ў бок Ліпнішак. За 2 мілі ад Ліды, у Дакудаве *"збожжа малоцяць і далейшых месцах таго боку каля Нёмана вынішчаюць палеткі"*. Няма рэгулярнай сувязі з абывацелямі Беліцы.

**У гэты дзень, 1 верасня,** Парадкавая камісія адправіла ў Лідскі магістрат указанне, каб вагі і меры для атрымання фуражу былі дастаўлены ў Астрыно. На пасланне Язэпа Нарбута, палкоўніка міліцыі, які нагадаў пра 50-дымавых кантаністаў, камісія адказала, што выпусціць універсал аб абмундзіраванні і яго дастаўцы на працягу 15 дзён. Кошт абмундзіравання 50-дымавога жаўнера камісія ацаніла ў 500 зл. і абазначыла плаціць па 10 зл. на дым. Скарга сялян в. Біскупцы супраць трымальніка Тупальскага адпраўлена на разгляд і развязванне дазорцу Лідскага цыркуля Базылю Гімбуту. Ксяндзам загадана даставіць касцельнае срэбра люстратарам старасту Язэпу Сцыпіёну і камісару Мартыну Умастоўскаму. *(2. № 40.)*

У той жа дзень камісар аддзелу вайсковых патрэбнасцяў Язэп Дамінік Шалевіч паведаміў у ЦД пра тое, што ў ваколіцах Лідскага павету няма рамесных цэхмайстроў, таму нельга заключыць кантракты на выраб ботаў. У некаторых мястэчках па аднаму-два рамесніку, астатнія па вёсках, аднак агульная іх колькасць невядомая. На складах аддзелу вайсковых патрэбнасцяў не маецца амуніцыі, зброі, пораху, шабляў, волава. Абывацелі маюць цяжкасці з-за немагчымасці знайсці шаблі і пісталеты для ўзбраення рэкрутаў.

Вайсковы аддзел камісіі паведаміў у ЦД, што абывацелі Лідскага павету даставілі 50-дымавых рэкрутаў у каманду генерал-маёра Сцыпіёна разам з належнай для іх платай, але 6 ліпеня пасля рэцірады з Ліды рэкруты былі распушчаны па дамах. Тарыф аб 60-дымавых рэкрутах зроблены, на Лідскі павет выпадае 175 чалавек (10500 дымоў у павеце - гэта каля 80 тысяч насельніцтва). Указам Т. Касцюшкі ад 27 жніўня яны аддадзены пад камандаванне палкоўніка міліцыі Лідскага павету Язэпа Нарбута, які ўласным загадам арганізаваў іх абмундзіраванне. Прапісаны і разасланы для публікацыі сярод абывацеляў 2 універсалы, адзін аб кажухах,

другі аб ботах, кашулях і світках. *(2. № 39.)*

**2 верасня** камісія перабралася ў Васілішкі.

На сесіі 4 верасня камісія прасіла прызначыць заміж ксендза Кунцэвіча, які выехаў па прадпісанні ЦД на люстрацыю касцельнага срэбра, іншага абывацеля. *(2. № 41.)*

## Наезд маёра

**11 і 12 верасня** каля 60 конных карабінераў-маскалёў былі ў Лідзе. Уехалі ў Ліду ў поўдзень 11 верасня з боку Дубровы (Дуброўні). Першымі заляцелі 12 пінскіх казакаў. Іх забралі ў казацтва нядаўна. Яны абыходзіліся з людзьмі спакойна. Цераз некалькі хвілін у Ліду прыбыў маёр (або ротмістр) на чале некалькіх дзесяткаў конных карабінераў. Яны спыталі кагальнага яўрэя, дзе камісія і суддзі? Той адказаў - у Васілішках ці Астрыно... У той жа дзень маёр паслаў 6 казакаў у Мыто і адтуль яны прывезлі каля 9 вазоў з сухарамі, кажухамі і ботамі. У той жа дзень маёр загадаў схапіць войта Маскалевіча, бурмістра Раеўскага і лоўчыца, паслаў затрыманых да каменданта Іўя і загадаў размясціць салдатаў тут у Лідзе. Усю ноч ён правёў з яўрэямі і некаторых паслаў у Васілішкі і Астрыно.

**12-га рана**, з узыходам сонца маёр з 10 казакамі памчаўся ў маёнтак Курасоўшчына, каб арыштаваць Тукалу, суддзю і парадкавага камісара аддзела бяспекі. Не знайшоўшы яго там, схапіў жонку Тукалы і загадаў адвезці яе ў Ліду пад аховай казакаў на простай фурманцы і на адным кулі саломы. Па дарозе ў Ліду маёр прыхапіў у лазоўскай карчме хворую пані Нарбут, а затым з двума казакамі павярнуў да дома лідскага харунжага Язэпа Нарбута, дзе прабавіўшы цэлы дзень з дваровай прыслугай, вярнуўся ў Ліду. Следам за ім прывезлі літоўскую харунжыну пані Нарбут, якая прасіла адпусціць жонку Тукалы. Маёр ... даў Тукалісе сваю каляску з 3 коньмі, фурманам і чалавекам для суправаджэння. Разам з ёй паехаў лідскі віцапробашч ксёндз Навіцкі, а харунжына вярнулася дадому.

У той жа дзень быў арыштаваны лідскі эканом Макоўскі, які служыў у камісара Коркуця... Яго звязанага адправілі пяшком пры конях. На лідскім двары забралі ўсю жыўнасць, забаранілі малаціць збожжа. Той жа раніцай маскоўскі маёр забраў знойдзеныя ў бурмістра і пробашча паперы, пратаколы, рэестры, універсалы і т. д. Маёр забараніў абывацелям даваць у краёвае войска неабходныя і прадпісаныя фураж і розныя рэквізіты ды запатрабаваў паведаміць, калі раптам прыдуць польскія жаўнеры. Потым запрасіў іх у Іўе на пагулянку. Забраўшы ўсе 10 параконных фурманак, акрамя тых, што ўжо фураж павезлі, папярэдзіўшы, што хутка зноў вернецца ў Ліду, папрасіўшы прабачэння, калі каму і ў чым зрабіў прыкрасці, ён шчырым і лагодным тонам з усімі развітаўся і з усім сваім конным корпусам а 12-й гадзіне 12-га верасня выехаў назад у Іўе цераз Дуброву (Дуброўню).

Вярнуўшыся адтуль вечарам без коней людзі паведамілі, што ўся армія да 4000 пяхоты і кавалерыі пад камандай Цыцыянава стаіць у Іўі і далей, пікеты не далей Ліпнішак, а сам корпус у Іўі.

Яшчэ загадалі аддаць той фураж, які ўніверсалы Рады загадвалі сабраць з абывацеляў. Яго, як належную сабе спадчыну, пад суровай карай і спагнаннем загадалі везці ў Іўе. Ратаваць абывацелей спрабавалі Маскалевіч і бурмістр Раеўскі. 13-га яны вярнуліся.

*“Сядзім па хатах змярцвелыя ад страху, што наша войска пакінула Лідскі павет і ад нясцерпнага рэха, якое разносіць, што маскалі тут зазімуюць. О, божа, адвярні тое жудаснае рэха ад вольнага і вернага сваёй Айчыне паляка, а мы не здраднікі, а сумленна будзем дабраслаўляць чыны нашых каманд і абаронцаў.” (2. № 44).*

## Парадкавая камісія ў Астрыне

**11 верасня** камісар Ян Габіхт з Васілішак паведаміў, што прыехаў да яго добра знаёмы з дзяцінства прастарэлы жыхар Ліды Язэп Кучынскі родам з Васілішак і расказаў, што ўчора пасля паўдня прышло ў Ліду некалькі дзесяткаў казакаў і карабінераў, арыштавалі Маскевіча і Пілецкага і адаслалі да князя, а яго Кучынскага пад пагрозай канфіскацыі маёмасці лідскіх радцаў загадалі паехаць у Васілішкі і Астрыно ды даведацца колькі паўстанцкага войска ў тым баку знаходзіцца. Габіхт адправіў Кучынскага ў Парадкавую камісію і выказаў пажаданне, каб частка узброеных сілаў заняла перавозы і масты на Дзітве і Лебядзе, што не дазволіць непрыяцелю прасунуцца ўглыб. *“Інача́й мы ўсе ў бядзе будзем”*. Ён таксама інфармаваў, што атрымаў ліст ад Клімантовіча, камісара добраў Тышкевіча. Той прасіў, каб камісія не прымала 50-дымовых рэкрутаў і брычак з маёнткаў, што належаць да Эйшышскага павету, *“бо з надзеі на гатоўнасць непрыяцель дабярэцца да Гарадніцы і, баронь Бог, прыйдзе і тое забярэ”*. Паведаміў таксама пра дараванне эйшышскіх камісараў і крымінальных суддзяў. Генерал расейскі Кнорынг *“усё запісанае з актаў павыдзіраў і папаліў, а саміх тых, аблаяўшы, выпусціў на волю, і на тым усё завяршылася” (2. № 42).*

**12 верасня** парадкавая камісія паведаміла ў ЦД, што непрыяцель увайшоў у Лідскі павет і прасоўваецца ў бок Астрына, абывацелям забаронена выконваць розныя падрыхтоўкі па загадах Рады і Дэпутацыі. Камісія прасіла

прыслаць вайсковую каманду для аховы абывацеляў і стварэння якой-небудзь заслоны ад непрыяцеля, *“тым больш, што абывацелі не падрыхтавалі, нават, вайсковых рэквізітаў і не адважваюцца пастаўляць правіянт з фуражом з-за пастаяннай пагрозы разрабавання складоў”. (2. № 43).*

**17 верасня** адбылася самая буйная бітва 1794 г. пад Крупчыцамі, з абодвух бакоў удзельнічала да 20 тысяч чалавек.

**30 верасня** на адзін дзень Касцюшка прыязджаў у Гародню, куды перабралася з Вільні ЦД.

**1 кастрычніка** паўстанцы пакінулі Гародню і пачалі адступаць на Варшаву.

**3 кастрычніка** Дэрфельдан узяў Гародню.

**10 кастрычніка (29 верасня ст. ст.)** адбылася бітва пад Мацыевічамі - пераломная ў паўстанні. Калоне, якую Касцюшка вёў на Варшаву, перакрыў дарогу расейскі корпус генерал-лейтэнанта І. Ферзена. Бой працягваўся ўвесь дзень. Паўстанцы пацярпелі паразу, Т. Касцюшка трапіў у палон.

У той жа дзень лідскі жыхар, яўрэй Юдка папярэдзіў бурмістра Язэпа Раеўскага, што лідскія войт і бурмістр па паведамленні з Іўя будуць арыштаваныя маскалямі.

*“ Так і атрымалася… па палудні прыбылі 15 казакоў і 15 карабінераў з камендантам іх, ротмістрам. Ледзь толькі прыбылі, так адразу распарадзіліся даць з места 3 вазы сена і 5 коп аўсу. Потым той камендант выклікаў кагальнага на сваю кватэру і паслаў па войта і бурмістра, каб даведацца, дзе нашыя суддзі. А калі яму адказалі, што іх няма, то ён гэтаму не паверыў, бо яго запэўнівалі, што тут непадалёку фальварак аднаго суддзі. Мы адказалі, што паблізу няма ніводнага. Зноў спытаў - ці даўно тут у вас быў ротмістр Вілбек? Мы адказалі, што тыдні з два назад. Ці браў ён у вас які правіянт? У нас не браў правіянту, хіба толькі недзе. А калі кватараваў з салдатамі, то колькі іх было? Магчыма да 50 коней, акрамя стральцоў. Ці ўзяў ён у жыдоў 1000 злотых? Адказалі, што жыды асобна далі 800 зл., потьм па абвестцы іншых конных салдат аддалі 200 зл, а знову 800 зл. было выбрана з хрысціянаў. Ці аддавалі па загаду начальства па 24 фунты сена, 24 фунты сухароў і па 8 гарцаў аўса? Мы адказалі, што не аддавалі. А па якой прычыне? Па той, што паўторным указам загадалі ўстрымацца разам з мясцовым бурмістрам. А дзе той універсал? Мы адказалі, што ў парафіі, а там разасланы па плебаніях. А больш няма тых універсалаў? Адказалі, што не.*

*Тады ён паслаў па ксяндза апытаць яго, а калі больш нічога не змог дабіцца, то загадаў адразу мець у гатоўнасці 12 коней. Мы стараліся, а тут над’ехаў рэвізор з крыўдай на тое, што ўжо мае фураж, нагатаваны ў адпаведнасці з універсалам ЦД ВКЛ. Ён загадаў таму разам з 6 казакамі ўзяць і прывезці той фураж, а нам, войту з бурмістрам загадаў зноў стаць перад ротмістрам. І так увесь вечар пытаўся ў ксяндза Навіцкага — дзе мясцовыя тарыфы? Яму адказвалі, што там дзе і каманды. Ён жа настаяў прысягнуць у тым, што не маем, А каб дабавіць крэдыту гэтай аказіі, загадаў войту і бурмістру ехаць у Іўе за сведчаннем брыгадзіра Ланскога і разам з намі адвесці арыштанта з адным пры ім лістом. У адшуканага тлумача цікавіўся — што гэта за лісты?*

*Перацярпеўшы так усю ноч, прыехалі ў Іўе да кватэры таго брыгадзіра, але мусілі чакаць з 2-х гадзін ночы аж да 8-й раніцы. Тады ён дапусціў да сябе і найперш пацікавіўся аб універсалах - дзе, якія і ў каго? Мы адказалі, што не ведаем больш ніякіх, як толькі аб адным, які патрабуе фураж. Дзе той фураж? Адказалі, што не рыхтавалі і не маем. А другі раз не рыхтавалі, бо не мелі з чаго, і што паўторна нам паведамілі, што быццам бы не трэба, а таму не адсылалі і не рыхтавалі яго. Не жадаючы больш мець з намі дыскусію, ён загадаў узяць пад варту, але потым, праз гадзіну, выклікаў зноў і паўторна дапытваўся — дзе тыя ўніверсалы? Мы адказвалі, што ведаем той, які ўжо прадстаўлены. А чаму аказваецца, акрамя атрыманага, два ўніверсалы пра кашулі і сярмягі? Тады мы прызналіся, што сярмяг і кашуль не давалі, не маем і не рыхтавалі.*

*Потым спытаў у бурмістра — ты дом трымаеш?, а калі той адказаў што так, то дадаў — мушу паглядзець у цябе газеты і розныя лісты. Аднаму афіцэру з салдатам ён тут жа даручыў ехаць з намі ў Ліду, каб забраць усе паперы ў бургамістра. Калі пад’ехалі ўжо пад Жыжму, то спаткалі вяртаючага ротмістра з яго камандай, які спытаў нас, адкуль мы едзем з афіцэрам. А калі той адказаў, што едзем забраць паперы, то пачулі — калі па паперы, то яны ўжо ўсе забраныя, дзе толькі ў яго хаце маглі знайсці. І так назад нас павярнуў. Мы мусілі начаваць у Ліпнішках, а паперы прывезлі ягомосць пан з судзінай Тукалавай трактам на Гаўе ў Іўе.*

*На заўтрашні дзень загадаў нам вярнуцца ў Ліду і той фураж, які быў загаданы, устрымацца адсылаць да Астрына, пад суровай экзекуцыяй загадаў яго прывезці з места ў Іўе, а калі не будзе ў прызначаны дзень, тады абяцаў прыслаць 20 казакоў. Адсюль просім аддзел бяспекі святлейшай камісіі якую-небудзь ахову для абароны ад непрыяцельскіх на нас напасцяў.*

*У той жа дзень, адразу за вывазам нас, войта і бурмістра, у Іўе, паслаў той жа маскоўскі ротмістр па свайму інстынкту (як кажуць жыды) тутэйшага мешчаніна ў Астрыну даведацца аб нашым войску, і дзе яно абарачаецца, а недачакаўшы звароту, паехаў сам з Ліды ў 5 апоўдня. Мы вярнуліся з Іўя ў суботу а гадзіне папалудні гэтага дня і паслалі радцу, мешчаніна Гуйновіча з двума кагальнымі вызваліць места ад таго фуражу. Не*

*ведаем толькі адказу. У той жа час івейскі кагал прыслаў ліст з загадам аб правіянце пад суровай экзекуцыяй (пастаўкі якога яшчэ няма з Ліды) і быццам бы маскоўскім брыгадзірам у чвэрці ночы загадана кагальнаму і мешчаніну стаць заўтра ў Іўе. Тое чытаў кагальны жыд Берка." (Юзаф Раеўскі, бурмістр месца Ліды.) (2. № 46).*

**17 кастрычніка** сябры Лідскай парадкавай камісіі далажылі, што абывацелі закончылі пастаўкі згодна з універсалам ад 6 чэрвеня і пачалі дастаўляць 50-дымовых кантаністаў, кажухі, сярмягі і кашулі для войска. *(2. № 47).*

**23 кастрычніка** Лідская міліцыя пераехала з Астрына ў Скідзель. Парадкавая камісія перавезла ў Скідзель правіянт з фуражом і загадала перавезці сабраныя вайсковыя рэквізіты, але не змагла знайсці падводаў, і як толькі войскі адышлі, а непрыяцель прыблізіўся, перабралася на заходні бок р. Котры ў Гарадзенскі павет, спынілася пры абозе ў Скідзелі.

**26 кастрычніка** расейскія войскі цалкам захапілі Лідскі павет. У Астрыне засталіся кінутымі правіянт і фураж. Раней сабраныя вазы стаялі ў Скідзелі распакованымі. Парадкавая камісія з-за адсутнасці камплекту і выцяснення за межы павету страціла сваю легітымнасць. Ноччу тым не менш яна атрымала з аддзела маёмасці ЦД экспедыцыю з наказам тэрміновага ўнясення падаткаў. Сябры камісіі, якія заставаліся ў Скідзелі: ксяндзы Ян Даўкша, Себасцян Дамбоўскі, а таксама Язэп Радзівонаўскі і сакратар Эдвард Захваловіч прызналі, што *"Камісія, выціснутая з павету, не можа прыдумаць сродкаў, якімі магла б іх (падаткі) выканаць". (2. № 48).*

**4 лістапада** пры абароне Варшавы загінуў Якуб Ясінскі, войскі пад камандаваннем Суворава ўзялі прадмесце Варшавы - Прагу.

**6 лістапада 1794 г.** Варшава склала зброю.

Праз год **24 кастрычніка (13 ст. ст.) 1795 г.** была падпісана Пецярбургская канвенцыя Расіі, Аўстрыі і Прусіі. Завяршыўся Трэці падзел Рэчы Паспалітай. Уся тэрыторыя ВКЛ, у тым ліку Лідчына, была ўключана ў склад Расейскай імперыі.

**12 лістапада** князь Рапнін М. В. быў прызначаны Эстляндскім і Літоўскім генерал-губернатарам.

**25 лістапада** кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў Гарадзенскім новым замку падпісаў адрачэнне ад пасаду на карысць Кацярыны II.

**3 снежня** жыхары ВКЛ прынеслі прысягу на вернападданства Кацярыне II.

**У 1795 годзе** Лідскім паветам кіраваў "секунд-маёр расейскіх войскаў Карл Мейр (Меір), начальнік Лідскага павету". Канвенцыя трох дзяржаў, у кастрычніку 1795 г. падзяліўшых паміж сабою рэшту Рэчы Паспалітай, замацавала міжнародным актам ліквідацыю польскай дзяржавы. 20 снежня ст. ст. 1795 г. князь Мікалай Рапнін выдаў у Гародні ад імя Кацярыны II універсал, у якім апавясціў, што Княства Літоўскае дзеліцца на тры часткі, у якіх галоўнымі гарадамі будуць Вільня, Гародня і Коўня. Віленскі, Завілейскі, Ашмянскі, Браслаўскі, Лідскі і Троцкі паветы будуць складаць Віленскую губерню. У паветах дазволена пакінуць земскую і гарадскую юрысдыкцыю, у гарадах - ратушы і магістраты, у якіх загадана чыніць суд і расправу "імем і ўладай Яе Імператарскай Міласці".

**8 жніўня 1796** года Ліда прызначана павятовым горадам Слонімскай губерні.

## Імянны паказальнік

**Абывацелі Лідскага павету:**

**Абрамовіч** - канцылярыст таргавіцкі;

**Александровіч Антон** - прэзідэнт крымінальнага суда Лідскага павету, камісар аддзелу справядлівасці Лідскай парадкавай камісіі;

**Александровіч Францішак** - пісар земскі, харунжы, камісар грамадзянскіх войскаў;

**Александровіч Язэп** - камісар аддзелу справядлівасці Лідскай парадкавай камісіі;

**Александровіч Язэп** - камісар аддзелу маёмасці Лідскай парадкавай камісіі;

**Альшэўскі Кароль** - лідскі шляхціц;

**Альшэўскі Міхал** - лідскі шляхціц;

**Альшэўскі Ян** - лідскі падстолі, стражнік;

**Бачкоўскі Тамаш** -лідскі шляхціц;

**Буржынскі Кароль** - пісар, лідскі шляхціц з Эйшышак ;

**Берка** - лідскі кагальны яўрэй (старшыня лідскай яўрэйскай грамады - кагалу);

**Бянкевіч Мацвей** -таварыш 3 палка;

**Вачкоўскі Ігнат** - дазорны Лідскага цыркуля;

**Вілбек Агата -** лідская абывацелька;

**Вілбек Язэп** з Кандрацішак - ротмістр;

**Вільканц Тамаш Францішак** - камісар аддзелу інструкцый Лідскай парадкавай камісіі;

**Вілямовіч** - лідскі шляхціц з Няцечы;

**Віслоцкі** - ксёндз;

**Габіхт Ян** - камісар аддзела інструкцый Лідскай парадкавай камісіі, поручнік, родам з Васілішак;

**Гарваскі Адам** - мечнік, камісар грамадзянскіх войскаў;

**Гаўсман** - дакудаўскі радца добраў ксяндза Любецкага;

**Гімбут Базыль** - дазорны Лідскага цыркуля, змяніў Вачкоўскага;

**Глушынскі Матэвуш** - крымінальны суддзя Лідскага павету, вялікі сентыяруш,камісар аддзелу парадку Лідскай парадкавай камісіі;

**Глушынскі Ян** - лідскі земскі рэгент, тарга-

віцкі пісар;

**Глушынскі Яўхім** - канцылярыст таргавіцкі;

**Градніцкі Тамаш** - дазорны Астрынскага цыркуля, адмовіўся ад сваёй пасады;

**Губарэвіч Пётр** - крымінальны суддзя Лідскага павету;

**Гуйновіч** - лідскі мешчанін;

**Дамейка Ігнат** - рэгент асэсарскага суда, сакратар І. Храбтовіча;

**Даўкша Ян** - ксёндз, камісар аддзелу харчавання Лідскай парадкавай камісіі;

**Дашкевіч Юры (Ежы)** - камісар аддзелу харчавання Лідскай парадкавай камісіі, генеральны пісар па зборы фуражу і харчавання з Лідскага павету;

**Дубоўскі Себасцян** - ксёндз, камісар аддзелу вайсковых патрэбнасцяў Лідскай парадкавай камісіі;

**Ёдка** - дазорны Жалудокскага цыркуля;

**Жаба Гіпаліт** - лідскі шляхціц Ражанскай парафіі;

**Жановіч** - лідскі абывацель;

**Запаснік Ян** - лідскі шляхціц з Эйшышак;

**Захваловіч Эдвард** - камісар (рэгент), сакратар Лідскай парадкавай камісіі;

**Зяньковіч Міхал** - крымінальны суддзя Лідскага павету;

**Казлоўскі** - лідскі шляхціц;

**Калясніцкі** - лідскі шляхціц з Няцечы;

**Кастравіцкі Ігнат** - лідскі дэлегат у Літоўскай Найвышэйшай Радзе, камісар аддзелу бяспекі Лідскай парадкавай камісіі;

**Клімантовіч** - камісар добраў Тышкевіча;

**Коркуць Адам** - камісар грамадзянскіх войскаў павету, мечнік і войт месца Ліды;

**Круповіч Франц** - арандатар у Бянкевіча Мацвея;

**Крушэўскі Фларыян** - ксёндз, рэктар піярскага калегіюму (1793-95) камісар аддзелу парадку Лідскай парадкавай камісіі;

**Кунцэвіч Самуель** - ксёндз евангеліст, беліцкі кожнадзей, камісар аддзелу вайсковых патрэбнасцяў Лідскай парадкавай камісіі;

**Кучынскі Язэп** - лідскі абывацель;

**Лазоўскі Ян** - канцылярыст таргавіцкі;

**Макоўскі** - эканом камісара Коркуця;

**Макрыцкі Людвік** - лідскі шляхціц з Ражанскай парафіі;

**Макрэцкі Ян** - крымінальны суддзя Лідскага павету;

**Маскалевіч Казімір** - камісар аддзелу харчавання Лідскай парадкавай камісіі, лідскі войт;

**Маскевіч Казімір** - камісар Лідскай парадкавай камісіі, дэлегат Ліды;

**Машэўскі Францішак** - ксёндз, камісар аддзелу бяспекі Лідскай парадкавай камісіі;

**Мігдал** - лідскі шляхціц, уладальнік Касоўшчыны;

**Мурачэўскі Мяцеч** - лідскі межавы суддзя;

**Навіцкі** - ксёндз, экзактар, лідскі віцапробашч, сябар Лідскай парадкавай камісіі, родам з-пад Васілішак;

**Нарбут Адам** - лідскі земскі пісар;

**Нарбут Дамінік** - лідскі войскі, пасол на 4-гадовы сойм ад Лідскага павету, таемны кур'ер Станіслава Солтана, ротмістр, упаўнаважаны, быў крымінальным суддзём і адправіў на шыбеніцу гетмана Касакоўскага;

**Нарбут Казімір** - шамбелян, лідскі шляхціц, таргавічанін;

**Нарбут Язэп** - лідскі харунжы, сакратар Віленскай Рады паўстання, палкоўнік міліцыі генерал-ад'ютант ВКЛ;

**Нарбут Язэп** з Перапечыцы;

**Нарбут Яўхім** - генерал-маёр Лідскага павету з 13 траўня, падкаморы, брат Казіміра;

**Паплаўскі** - лідскі дэлегат у Радзе паўстання;

**Паўлікоўскі (Паўлоўскі) Тадэвуш** - крымінальны суддзя Лідскага павету, камісар аддзелу маёмасці Лідскай парадкавай камісіі;

**Пілецкі** - лідскі мешчанін;

**Піруcкі Язэп**- дазорны Астрынскага цыркуля;

**Пратасевіч Клеманс** - канцылярыст таргавіцкі;

**Радзівонаўскі Язэп** - камісар аддзелу маёмасці Лідскай парадкавай камісіі;

**Раеўскі Язэп** - бурмістр Ліды, крымінальны суддзя Лідскага павету;

**Ручынскі (Рачуцкі)**, - ксёндз-евангеліст, камісар Лідскай парадкавай камісіі, плябан у Сейнах;

**Рыбіцкі Язэп** - ксёндз, камісар Лідскай парадкавай камісіі;

**Рыхлоцкі (Рыхліцкі) Язэп** - ксёндз, камісар аддзелу інструкцый Лідскай парадкавай камісіі;

**Сарока Казімір** - лідскі ротмістр;

**Свідэрскі Адам** - камісар аддзелу справядлівасці Лідскай парадкавай камісіі;

**Свідэрскі Ігнат** - лідскі шляхціц, рэгент Лідскай канфедэрацыі 1993 г., камісар Лідскай парадкавай камісіі;

**Сцыпіён дэль Кампа Язэп** -лідскі стараста;

**Сцыпіён дэль Кампа Кароль** - генерал-маёр Лідскага павету;

**Сядлікоўскі Мікалай** - эйшышскі камісар;

**Сядлікоўскі Язэп** - генерал-маёр Лідскага павету з кастрычніка 1794 г.;

**Сядліцкі Язэп** - генерал маёр Эйшышскага павету;

**Тукала Міхал** - лідскі шляхціц з Курасоўшчыны, гарадскі суддзя, камісар вайскова-цывільны, камісар аддзелу бяспекі Лідскай парадкавай камісіі;

**Тукала Юры (Ежы)** -лідскі шляхціц;

**Тупальскі** - трымальнік Біскупцаў;

**Тызенгаўз Мартын** - лідскі шляхціц з Ельненскай парафіі;

**Умастоўскі Мартын** - камісар аддзелу вайсковых патрэбнасцяў Лідскай парадкавай камісіі;

**Фуярскі Тадэвуш** - камісар аддзелу парад-

ку Лідскай парадкавай камісіі;

**Хмялеўскі Адам** - лідскі шляхціц;

**Шалевіч Язэп Дамінік** - камісар аддзелу вайсковых патрэбнасцяў Лідскай парадкавай камісіі;

**Шалкевіч Мацей** - адвакат;

**Шпакоўскі Ануфры** - лідскі шляхціц;

**Шукевіч Антон** - лідскі шляхціц, слонімскі мечнік;

**Шукевіч Ігнат** - лідскі шляхціц, слонімскі земскі суддзя;

**Шукевіч** з Дворышча - канцылярыст таргавіцкі;

**Шумкоўскі Аляксандр** - камісар аддзелу харчавання Лідскай парадкавай камісіі;

**Шымкоўскі Ануфры** - лідскі шляхціц з Ражанкаўскай парафіі;

**Шымкоўскі Міхал** - лідскі шляхціц;

**Шэмет Аўгуст (Аўгустын)** - лідскі чашнік і земскі суддзя, крымінальны суддзя Лідскага павету;

**Эйсмант** - ксёндз;

**Юдка -** яўрэй, лідскі абывацель;

**Яч Ігнат** - судовы пісар, сакратар суда.

**Правадыры паўстання:**

**Агінскі М. К.**– камандзір аддзела стральцоў –дабраахвотнікаў, кампазітар;

**Ахматовіч** - татарын, камандзір палка войска ВКЛ;

**Бараноўскі** - камандзір палка войска ВКЛ;

**Белапятровіч Юры (Ежы)** (1740-16.03.1812) - лідскі стражнік у 1764 г. удзельнічаў у абранні караля Рэчы Паспалітай Станіслава-Аўгуста Панятоўскага, у 1771 г. лідскі лоўчы, сакратар малой пячаткі ВКЛ да 1784 г. У 1780-84 гг. сябар Пастаяннай Рады, удзельнічаў у працы дэпартамента справядлівасці. У 1783-87 гг. пісар войскі літоўскі. Удзельнік паўстання 1794 г. 24 красавіка 1794 г. на гарадскім рынку ў Вільні зачытаў акт аб пачатку паўстання ў ВКЛ. Сябар Найвышэйшай Літоўскай Рады, літоўскі крымінальны суддзя. Кіраўнік аддзелу вайсковых патрэбнасцяў у Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ. У 1808 г. сябар судовай камісіі па пытаннях фінансавання адукацыі. З сакавіка1810 г. заснавальнік і старшыня Таварыства дабрачыннасці ў Навагрудку. Яго называлі “літоўскім Арыстыдам”. *(ЭГБ т. 1 с. 345)*

**Бяляк Я**. - генерал-маёр ВКЛ, камандзір кавалерыйскага палка;

**Вельягорскі Міхал** - галоўнакомандуючы ўзброенымі сіламі паўстання ў ВКЛ пасля 14 чэрвеня, генерал-паручнік;

**Грабоўскі Стэфан** - камандзір корпуса войскаў ВКЛ;

**Касцюшка Андрэй Тадэвуш** - генерал-паручнік, правадыр паўстання;

**Кіркор** - камандзір палка войска ВКЛ;

**Корсак Самуель** - паручнік, маёр, палкоўнік, камандзір кавалерыстаў, удзельнік рэйду Агінскага ў Менскую губерню;

**Сапега Францішак** - князь, генерал-паручнік, камандуючы аднаго з трох карпусоў войска ВКЛ;

**Хлявінскі Антон** - генерал-маёр, шэф 3 палка кавалерыйскай брыгады;

**Ясінскі Якуб** - палкоўнік інжынерных войскаў ВКЛ, генерал-паручнік з 11 траўня, галоўнакамандуючы Узброенымі сіламі ВКЛ да 14 чэрвеня 1794 г.;

**Расейцы:**

**Бенігсен (Левін Аўгуст Тэафіл)Лявонці Лявонцевіч (**10.11.1745 - 2.05.1826) у 28 гадоў перайшоў на расейкую службу. Сувораў надаў яму чын генерал-маёра. Вызначыўся ў польскай кампаніі 1794 г. 15 верасня ўзнагароджаны ордэнам Святога Георгія 3 ступені, 24 верасня - залатой, упрыгожанай брыльянтамі шпагай з надпісам: “За храбрасць”, 2 кастрычніка - ордэнам Святога Ўладзіміра 2 ступені вялікага крыжа. Атрымаў 1080 душ у Менскай губерні.

**Дзееў** - палкоўнік;

**Дэметр** - маёр;

**Дэрфельдэн** - расейскі ваеначальнік;

**Зубаў Валерыян Александравіч** (1771-1804) - граф, генерал-маёр;

**Ігельстром Осіп Андрэевіч** - барон, галоўнакамандуючы расейскімі войскамі ў Рэчы Паспалітай:.

**Кнорынг Багдан Фёдаравіч** - расейскі генерал-маёр;

**Ланскі** - брыгадзір;

**Няплюеў** – менскі губернатар;

**Рапнін Мікалай Васільевіч** - князь, генерал;

**Туталмін Цімафей Іванавіч** - генерал-аншэф, сенатар, менскі, ізяслаўскі і брацлаўскі генерал-губернатар, генерал - губернатар нанава здабытых абласцей;

**Фок Аляксандр** - артылерыйскі капітан;

**Ферзен І.** - генерал-лейтэнант;

**Цыцыянаў Павел Дзмітрыевіч** - князь, генерал-маёр;

**Чэсменскі Аляксандр Аляксеевіч** - палкоўнік Санкт-Пецярбургскага драгунскага палка;

**Эсен Іван Мікалаевіч** - палкоўнік Пскоўскага драгунскага палка;

**Літаратура:**


1. Анішчанка Я. Інкарпарацыя. Мінск. 2004.
2. Анішчанка Я. Камісары Касцюшкі. Том 1. Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі. Мінск. 2004.
3. Восстание и война 1794 года в литовской провинции. Минск. 2001.
4. Kuwalek R. Powstanie 1794 r. w powiece lidzkim. // Ziemia lidzka. № 15. 1994. S. 12-14.
5. Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок. // Виленский календарь. Вильно. 1906, С. 51.
6. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1, с. 345.

# АПОШНІ ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

## Гістарычная рэканструкцыя Станіслава Судніка

Ад таго моманту, калі 24 красавіка 1794 года ў Вільні на Рынкавым пляцы **Лідскі лоўчы Юры Белапятровіч** на гонар і славу лідзян усіх пакаленняў, былых і новых, абвясціў пачатак паўстання ў Вялікім Княстве Літоўскім супраць маскоўскай агрэсіі, за свабоду і непадзельнасць Бацькаўшчыны, прайшло два з паловай месяцы. Паўстанне цярпела паразу. Маскоўскія войскі закончылі акупацыю Ашмянскага павету. Наперадзе быў яшчэ адзін павет Вялікага Княства – Лідскі.

Генерал Б. Ф. Кнорынг выступіў з Іўя ў бок Дворышча. 5 ліпеня гэта стала вядома ў Лідзе. Паведамленне прыйшло вечарам падчас пленарнага паседжання. Лідскай парадкавай камісіі (павятовага органа кіравання паўстаннем начале з лідскім старастам Язэпам Сцыпіёнам дэль Кампа). Бараніць Ліду не было каму. Паўстанцкі ўрад не адказаў на просьбу лідзян вярнуць ім шэсць гармат, забраных у Сцыпіёнаў і адвезеных у Гародню. Не выпадала чакаць дапамогі і ад рэгулярнага войска ВКЛ, якое стаяла лагерам пад мястэчкам Яцунем за ракой Мераччу пакінуўшы колькі дзён таму Веранова, і якое, нягледзячы на колькасць у 7 тысяч чалавек, пасля адстаўкі з паста галоўнакамандуючага войскаў ВКЛ Якуба Ясінскага не ўяўляла больш значнай небяспекі для маскоўцаў. Яно яшчэ магло баляваць, але не ваяваць. Таму Парадкавая камісія тэрмінова пакінула Ліду і выехала ў бок Мыто, каб потым аднавіць працу ў Новым двары.

У горадзе засталіся войскі павету: дзве сотні павятовай кавалерыі пад камандаваннем генерал-маёра Караля Сцыпіёна дэль Кампа, брата лідскага старасты і ротмістра Язэпа Вілбека з Кандрацішак, а таксама сотня апалчэнцаў з прыгараднай шляхты і татараў пад камандай лідскіх абывацеляў Язэпа Дамініка Шалевіча, камісара аддзелу вайсковых патрэбнасцяў Лідскай парадкавай камісіі і Францішка Александровіча, пісара земскага, харунжага, камісара грамадсзянскіх войскаў Лідскай парадкавай камісіі.

У Лідзе было яшчэ каля тысячы рэкрутаў набраных Парадкавай камісіяй паводле ўніверсалаў ураду. Але ўсе яны былі без зброі і неабучаныя. Пазней усё гэтае лідскія ваенізаваныя фармаванні ў рапартах расейскіх генералаў ператворыцца ў 2,5 тысячы добра ўзброенага войска.

Дыспазіцыя абароны Ліды будавалася наступным чынам. Сотні Караля Сцыпіёна і Язэпа Вілбека атакуюць непрыяцеля ў зручным месцы пры выхадзе з Дворышча, а ў выніку няўдачы адходзяць у Ліду. Тут жа, перад мостам пры піярскім млыне трымае абарону сотня Шалевіча і Александровіча.

Можна было, канешне, ваяваць па іншаму, можна было кінуць рэкрутаў на земляныя работы, капаць шанцы. Можна было адбівацца ад маскалёў з акопаў. Але супраць гэтага былі наступныя абставіны. Абцягнуць шанцамі ўсю Ліду не было часу. Тыя тры сотні, узброеныя акрамя неадменных шабляў кавалерыйскімі карабінамі і пісталетамі, маглі трымаць абарону толькі на невялікім участку, ды і то эфектыўнасць той абароны была б не надта высокай. Адзінай перавагай абаронцаў Ліды была іх высокая манёўранасць, паколькі ўсе тры сотні былі на конях. І паколькі кавалерыйскія сотні не надта прыдатныя для баёў у шанцах, то і было вырашана весці абарону Ліды кароткімі атакамі на подступах да горада.

Генерал Кнорынг, прыбыўшы ў Дворышча пад раніцу 6 ліпеня, разбіў тут свой лагер і выслаў дазор па лідскай дарозе. Гэты дазор неўзабаве наткнуўся на сотні Сцыпіёна і Вілбека. Сотні выцялі ў шаблі. Маскалі, не прыняўшы бою, кінуліся наўцёк, далажыўшы Кнорынгу пра моцны пост ракашан на лідскай дарозе. Кнорынг загадаў палкоўніку Чэсменскаму з трымя сотнямі кавалерыі (драгуны і егеры, пасаджаныя на коней), дзвюмя сотнямі казакаў і дзвюмя гарматамі атакаваць пост ракашан, разбіць яго і ісці на Ліду.

Сцыпіён і Вілбек, ацаніўшы сітуацыю і перавагу непрыяцеля ў колькасці і ўзбраенні, вырашалі другі бой пад Дворышчам не даваць, а адысці пад Ліду на злучэнне з трэцяй сотняй. Лідзяне лёгка адарваліся ад абцяжаранага гарматамі аддзелу Чэсменскага і з’явіліся перад Лідай. Стратаў пад Дворышчам яны не панеслі, і маральны дух шляхты быў высокі.

Сцыпіён загадаў Шалевічу і Александровічу заняць абарону за мостам, а сотні яго і Вілбека схаваліся за пералескам.

Неўзабаве паказаўся непрыяцель. Убачыўшы сотню Шалевіча і Александровіча маскалі пачалі разгортвацца ў баявы шыхт. У гэты час і выцялі Сцыпіён і Вілбек. Аднак маскалёў, ветэранаў турэцкіх войнаў, сувораўскіх “цудасілкаў” не проста было застаць знянацку. Ад калоны аддзяліліся казакі і кінуліся напярэймы ліцьвінам. Пачалася сеча. У гэты час драгуны і егеры спешыліся і зшыхтаваліся ў карэ.

Шляхта адвяла душу. Несучы сур’ёзныя страты, яна змяла казакоў. Тыя кінуліся наўцёк, выводзячы ліцьвінаў на маскоўскі шыхт. Грымнулі гарматы. Выцяў першы залп, другі, трэці.

Шляхта пасылалася з коней.

Сотні адкаціліся, гатовыя паўтарыць атаку, але Сцыпіён заўважыў, што казакі перашыхтаваўшыся выходзяць з-за карэ і спрабуюць перакрыць дарогу да моста. Сотні, дакладней, ужо паўсотні паімчалі да моста. Ізноў схапіліся з казакамі, ізноў лідская шляхта ўспомніла славу дзядоў, змяла казакаў і прарвалася да моста. Маскалі, казакі і драгуны, што паспелі сесці на коней, кінуліся следам, пачалі пераходзіць мост. У гэты час выцяла сотня Шалевіча і Александровіча Маскалі на мосце былі добрымі мішэнямі і адзін за адным пачалі куляцца ў Лідзейку.

Атака была адбітая, але ў лідзян засталося не болей 200 баяздольных ваяроў.

Маскалі пачалі разгортвацца ў лінію для новай атакі ўжо цераз рэчку ніжэй ад млына. Загрымелі гарматы. Гранаты пачалі рвацца ў горадзе. Жыхары налічылі 12 выбухаў. Хоць шкоды тыя гранаты прынеслі не шмат, але страху на абываценяў нагналі вялікага.

Сцыпіён бачыў, што горад не ўтрымаць. Нават, калі ўдасца адбіць яшчэ адну атаку, з Дворышча падыдзе падмога. Ён загадаў рэкрутам тэрмінова разыходзіцца па дамах і чакаць новай каманды на збор. А сам з рэштаю павятовай кавалерыі і часткай апалчэнцаў, якія вырашылі не складваць зброі, пакінуў Ліду, скіраваўшыся ў бок Мыто.

Маскалі паўторна атакавалі горад, але супраціву больш не было і ў 7 гадзін вечара маскоўскія аддзелы ўвайшлі ў Ліду. Ад гэтага моманту Ліда назаўсёды перастала быць горадам Вялікага Княства Літоўскага і, як беспрытульная кабета, пачала бадзяцца па імперыях, рэйхах, рэспубліках, пакуль праз 200 гадоў не стала горадам зноў незалежнай краіны, хоць не Вялікага Княства Літоўскага, а Рэспублікі Беларусь, аднак сваёй краіны. Але гэта потым, а пакуль што трэба было хаваць забітых.

Генерал Б. Ф. Кнорынг у рапарце ў Пецярбург напіша, што забітых ракашан было 325 і ў палон схоплена 107. Пры гэтым пра свае страты не напіша нічога.

У традыцыі ўсіх вайскоўцаў – свае поспехі прыўвялічыць, а страты прыхаваць. Таму не дзіўна, што ў рапарце можа быць 325 забітых з 300, якія ўдзельнічалі ў баях, а рэшта ж яшчэ паводле таго ж рапарта ўцякла ў Мыто. У традыцыі маскоўскага войска было таксама ніколі не лічыць стратаў сярод казакаў, а страты ў рэгулярных частках не паказваць да часу, замяшчаючы іх навабранцамі з палонных.

Рэальна Сцыпіён і Вілбек страцілі каля сотні чалавек забітымі. У палон маскалі нагараблі рэкрутаў, якія не паспелі ўцячы з горада, або схавацца.

Сваіх забітых маскалі на вазах вывезлі ў Дворышча. Забітых ліцвінаў дазволілі хаваць у Лідзе на парафіяльных могілках каля агароджы Фарнага касцёла.

З цывільнай мясцовай улады ў горадзе заставаліся бурмістр Язэп Раеўскі, войт Казімір Маскалевіч і камендант горада віца-пробашч Фарнага касцёла ксёндз Навіцкі. На іх і легла адказнасць за пахаванне паўстанцаў.

Яшчэ 6-га вечарам людзі з падводамі выехалі за Лідзейку і пачалі збіраць забітых. Прывезеных заносілі ў Фарны касцёл і складвалі радамі ўздоўж сцен. Многіх пазнавалі, стараліся наказаць у бліжэйшы фальваркі і засценкі бацькам, жонкам, сваякам забітых шляхціцаў.

Маскалі ў пахаванне не ўмешваліся. Трэба згадаць, што гэта былі яшчэ тыя часы, калі афіцэры ўсіх войскаў Еўропы размаўлялі на адной мове - французскай. Гэта яшчэ былі часы больш-менш цывілізаванай вайны, пры ўмове што паняцці "вайна" і "цывілізацыя" наогул сумяшчальныя. Акрамя таго ў іх быў іншы больш важны клопат. Ім трэба было садраць кантрыбуцыю з манахаў і з яўрэяў ды парабаваць бліжнія фальваркі. Прыёр кармеліцкага клештара плаціць адмовіўся, тады яго ўзялі пад варту, а кляштар аддалі пад разрабаванне. Манахі – кармеліты страцілі ўсе прыпасы, рухомасць і грошы. Яўрэі заплацілі.

За ноч частку забітых разабралі сваякі, каб пахаваць на сваіх парафіяльных могілках. Назаўтра каля касцёла выкапалі вялікую яму. Паводле тутэйшай пахавальнай традыцыі яма не можа капацца загадзя, не можа начаваць, таму яму капаюць толькі ў дзень пахавання..

Пахавальную імшу адслужыў ксёндз Навіцкі. Народу на імшы было мала. Баяліся.

Хавалі без трунаў. Дно ямы заслалі саломай. Спачатку клалі адзін каля аднаго, потым у другі рад. Прынеслі сувой палатка і закрылі твары палатном. Засыпалі.

Засыпалі тых хто аддаў сваё жыццё за незалежнасць сваёй краіны. Засыпалі саму гэтую незалежнасць.

Пройдуць стагоддзі, і да грузу зямлі, якая прыціснула палеглых змагароў, дадасца груз бяспамяцтва. Будуць знесены парафіяльныя могілкі. На іх месцы пастануць забудовы, Пазнасяць тыя забудовы, пабудуюць новыя. Цягнучы траншэі камунікацый павыкопваюць шмат касцей, магчыма і касцей паўстанцаў.

Але якія "траншэі" трэба прарэзаць у нашай засмечанай свядомасці, каб дакапацца да разумення таго, што згаданае паўстанне ў Лідзе не скончана і не будзе скончана, пакуль на месцы пахавання паўстанцаў не будзе пастаўлены годны іхняму вычыну помнік.

Тады мы, нарэшце, зможам цвёрда сказаць, што Ліда зноў стала горадам сапраўднай незалежнай краіны.

***Старажытныя пасяленні Лідчыны***

# Малое Мажэйкава

## (цяпер Мажэйкава)

Назва выводзіцца ад патроніма балцкага паходжання "Мажэйка", "Мажэйкіс". У пісьмовых крыніцах вядомае з 1506 года. Менш, чым праз два гады Мажэйкаву споўніцца 500 гадоў.

На пачатак 1502 года другая руска-ліцьвінская вайна была прайграна: вялікі гетман ВКЛ Канстанцін Астрожскі трапіў ў палон, князі Масальскія, Трубяцкія, Бельскі, Шамяціч і Мажайскі перайшлі на службу да "Гасудара ўсяя Русі" Івана III, да Маскоўскага княства адышлі Бранск, Гомель, Дарагабуж, Карачаў, Любеч, Сярпейск, Трубчэўск, Чарнігаў і Пуціўль. Узмацніўся ціск перакопскіх татараў на паўднёвыя землі ВКЛ. У цэнтральную частку княства з поўдня і ўсходу ўцякалі баяры, якія страцілі свае землі. Кароль Аляксандр, які вярнуўся ў траўні 1502 г. з Кракава з каранацыі, вымушаны быў надзяліць землямі бранскіх, гомельскіх, чарнігаўскіх і іншых памежных баяраў, якія захавалі яму вернасць. Пуціўльскі і кіеўскі баярын **Міхаіл Гагін** атрымаў у кармленне ***"двор Жалудскага павету на імя Мажэйкаўскі"***. Цэраз чатыры гады кароль Аляксандр памёр. Вялікім князям Літоўскім быў абраны брат Аляксандра Жыгімонт (1467-1548) – малодшы з Казіміравічаў: спакойны, вельмі дужы чалавек высокага росту; гнуў падковы і пальцамі разрываў калоду картаў. Яшчэ да свайго афіцыйнага абрання Вялікім князем ў верасні 1506 г. Жыгімонт у Мельніку даў Міхаілу Гагіну ліст, які пацвярджаў яго часовыя правы на двор Мажэйкаўскі з дварцом Біікушскім.

*"Жыкгімонт, Божай міласцю Вялікі князь.*

*Лоўчаму і канюшаму Нашаму дворнаму, намесніку жалудокскаму, пану Мартыну Храбтовічу.*

*Што брат Наш Аляксандр, кароль і Вялікі князь Яго міласць даў шляхціцу свайму Міхаілу Гагіну двор Жалудокскага павету на імя Мажэйкаўскі з людзьмі, і з землямі, і з чэляддзю нявольнаю, і з усім тым, што да тога двара здаўна прыналежала, і ты паведаў перад Намі, што Міхайла Гагін дварэц Біікушскі і людзей таго ж дварца Біікушскага, якія былі прылучаны да яго, адняўшы ад таго ж двара Мажэйкава ўзяў сабе без надання і лістоў брата Нашага, караля Яго міласці. І Мы той дварэц Біікушскі і людзей казалі былі табе назад прывярнуць да Жалудка. І Міхайла тым разам біў нам чалом аб тым, што маёнткі яго, якія па жонцы яго дасталіся ў Пуціўлі, непрыяцель Наш Вялікі князь Маскоўскі забраў і прысвоіў, а якія маёнтачкі меў у Кіеве, тыя таксама спустошаны і на корань вынішчаны ад паганства татараў, а на тым двары Мажэйкаўскім не мае чым пажывіцца. І біў Нам чалом, каб Мы яму і той дварэц Біікушскі да таго двара Мажэйкаўскага прыдалі.*

*Таму Мы, дзеля яго вернай службы і тож дзеля таго вялікага ўпаду яго, які яму стаўся ў маёнтках яго ад масквы і ад татараў, пажалавалі яго, далі той двор Мажэйкаўскі і з тым дварцом Біікушскім, і з людзьмі іх, і з усімі іх землямі, і з пусташамі, і з данінаю грашоваю, і з дзяклам, і з усімі іншымі пажыткамі і службамі тых людзей, і таксама з чэляддзю нявольнаю тых дварцоў да тых часоў, пакуль, дасць Бог, маёнткі яго пуціўльскія і кіеўскія спаўна не ачысцім. А калі Божая воля над ім станецца, прыпадзе яму смерць, то Нам жонкі і дзяцей яго з таго не рушыць датуль, пакуль, дасць Бог, маёнткі яго, вышэй апісаныя, спаўна не ачысцім. А ўвесці яго ў тое паслалі былі шляхціца нашага...*

*Пісана ў Мельніку, верасня 2 дня, індыкт 10."*

*(Літоўская метрыка. Кніга 8. С. 175.)*

Міхаіл Гагін вернай службай не вызначыўся, у 1508 г. прыняў удзел у рокашы братоў Глінскіх і разам з імі перайшоў на бок вялікага князя маскоўскага Васіля III. У рокашы ўдзельнічала каля 2000 шляхты, ў асноўным васалы князёў Глінскіх. Князь Міхаіл Глінскі дамовіўся пра сумесныя дзеянні з маскоўцамі, у траўні аб'яднаныя сылы Глінскага і маскоўцаў два тыдні абкладвалі Менск, апусташалі ваколіцы, загоны даходзілі да Вільні, Наваградка, рабавалі вёскі пад Слонімам, Слуцкам і Клецкам. У верасні паміж маскоўскім і літоўскім княствамі была падпісана мірная дамова: пацверджаны межы устаноўленыя Іванам III і Аляксандрам і дазволены свабодны выезд прыхільнікаў братоў Глінскіх з ВКЛ. Маёнткі ўдзельнікаў рокашу – здрадцаў былі канфіскаваны. 7 чэрвеня 1508 г. Мажэйкаўскі і Біікушскі дварцы былі перададзены паводле прывілею другому кіеўскаму шляхціцу **Льву**

**Тышкевічу**.

*“Жыкгімонт, Божай міласцю кароль і Вялікі князь.*

*Біў Нам чалом шляхціц Наш Леў Тышкевіч аб тым, што маёнткі яго вотчынныя ў Кіеўскім павеце выбраны і спустошаны і на корань знішчаны ад паганства татараў і ад таго здрадцы Нашага Міхаіла Глінскага, а іншыя адышлі ў рукі непрыяцельскія, і прасіў Нас, каб Мы яго чым дагледзелі і пажалавалі, дзе б меў на чым пажывіцца і Нам з чаго паслужыць.*

*Таму Мы, з ласкі Нашай і таксама дзеля яго вернай службы, пажалавалі яго: далі яму заміж яго маёнткаў вотчынных на пажывенне дварцы ў Жалудокскім павеце, што трымаў здрадца Наш Міхайла Гагін, на імя Мажэйкава і Біікушкі з усім, што да тых дварцоў здаўна прыналежала, і што той здрадца Наш Міхайла Гагін трымаў. Мае ён тыя дварцы Мажэйкава і Біікушкі трымаці да тых часоў, пакуль маёнткі яго вотчынныя ўсе з рук непрыяцельскіх вымем і ачысцім, а калі тыя маёнткі яго ачысцім і яму падамо, тады тыя дварцы Мажэйкава і Біікушкі назад маем у яго ўзяці да Нашай рукі. А пакуль маёнткаў яго вотчынных не ачысцім, датуль не маем у яго і ў жонкі і дзяцей яго тых дварцоў адбіраці. І на тое яму далі гэты Наш ліст з Нашай пячаткаю.*



***Герб Тышкевічаў “Ляліва”***

*Пісана ў Навагародку, лета Божага тысяча пяцьсот восьмага, месяца чэрвеня, 7 дзень, індыкт 11.”*

*(Літоўская метрыка. Кніга 8. С. 257.)*

Пакрыўджанымі аказаліся тутэйшыя баяры, у прыватнасці князі Палубенскія, прозвішча якіх утворана ад назвы вёскі Палубнікі. 14 снежня 1508 г. кароль і Вялікі князь Жыгімонт, нягледзячы на абяцанне “дварцоў не адбіраць” і пярэчанні Троцкага ваяводы Мікалая Мікалаевіча Радзівіла, з прабачэннямі забірае ў Льва Тышкевіча (Тышковіча) Мажэйкаўскі дварэц і перадае яго князю **Васілю Андрэевічу Палубенскаму**.

*“Жыкгімонт, Божай міласцю.*

*Шляхціцу Нашаму Льву Тышковічу.*

*За тыя, што раней далі табе дварцы Жалудокскага павету, якія трымаў здрадца Наш Міхайла Гагін, на пажывенне да тых часоў, пакуль бы Мы вотчыну тваю з рук здрадцы нашага Глінскага вынялі, цяпер князь Васіль Андрэевіч Палубенскі біў Нам чалом у Смалнянах у той час, калі ехалі са Смаленска, і нагадваў Нам пра тое, што яму спачатку тыя дварцы далі, Мажэйкава і Бікушкі, і каб Мы яго пры той Нашай першай даніне пакінулі.*

*Акрамя таго Мы, згадаўшы яго Нам верную службу, прыгаварылі яго назад пры той нашай першай даніне пакінуці.*

*Акрамя таго мы ўжо тым разам вотчыну тваю з рук таго здрадцы Нашага вынялі, і князь Васіль біў Нам чалом, каб мы яму і цяпер у тым ласку Нашую ўчынілі і ў тыя дварцы казалі яму ўступленне даць паводле першых Нашых лістоў*

*Акрамя таго ваявода Троцкі пан Мікалай Мікалаевіч (Радзівіл, рэд.) жадаў, каб Мы цябе, дзеля твайёй службы таксама пры нечым пакінулі.*

*Таму Мы на жаданне пана ваяводы, дзеля тваёй службы, упаду і шкоды, якія табе сталі на Нашай службе, далі табе адзін дварэц Бікушкі з людзьмі таго дварца, а князю Васілю Палубенскаму далі дварэц Мажэйкава з усімі тымі людзьмі, якія да таго дварца прыналежаць, а да таго дварца прыдалі яму пяць служб таго дварца Бікушскага на імя Ліхініч, і Апенькавіч, і Служчыч, і Тупічыч, і Федзя Дамашэвіч, і з іх землямі, і ўвесці яго ў той дварэц і ў людзі паслалі падканюшага Нашага Шымка.*

*І ты б ужо ў той дварэц і ў людзі не ўступаўся, а што быў у тым дварцы пабраў жыта, і чэлядзі, і жывёліны, і іншых рэчаў, то б яму ўсё перад Шымкам пааддаваў.*

*Пісаны ў Вільні, снежня 14, індыкт 12.”*

*(Літоўская метрыка. Кніга 8.)*

Такім чынам Мажэйкаўскі і Біікушскі маёнткі (дварцы) да 1502 г. былі вялікакняскімі, каля 1502 г. Мажэйкаў ў часовае карыстанне атрымаў Міхал Гагін, пад 1506 г. ён прыхапіў таксама суседнія Біікушкі (сёняшнія Дзікушкі).

З 2.09.1506 па 7.06.1508 Міхал Гагін валодае Мажэйкавым і Біікушкамі на законных падставах. З 7.06.1508 па 14.12.1508 абоімі дварцамі валодае Леў Тышкевіч. У снежні 1508 г. Мажэйкаў забіраецца ў Льва Тышкевіча і перадаецца Васілю Палубенскаму. Льву Тышкевічу застаюцца Біікушкі.

Унучка Льва Тышкевіча – Аляксандра Тышкевіч (? – 1593) спадчынная уладальніца Біікушскага маёнтка выйшла замуж за гарадзенскага старасту Аляксандра Хадкевіча (? – 1578). Уладальнік Мажэйкаўскага дварца князь Васіль Андрэевіч Палубенскі за зносіны з “здрадцамі” Глінскімі ў 1509 г. быў арыштаваны і на два гады пазбаўлены свабоды. Пакуль Васіль Андрэевіч знаходзіўся ў каралеўскай няміласці падканюшы Шымка нейкім чынам з Мажэйкаўскага дварца

выдзяліў Малое Мажэйкава – упершаню яно згадваецца ў 1511 г. у прывілеі караля Жыгімонта на маёнтак падараны віленскаму падканюшаму **Шымку Мацковічу** *(ЭГБ. Мінск. 1999. Т. 5. С.60)*.

30 гадоў (1511-1542) валодаў Малым Мажэйкавым Шымка Мацковіч (Мацкевіч) (к.1486-к.1542) – у 1508 г. падканюшы, у 1528 г. цівун і падканюшы Віленскі, у 1530 г. цівун Віленскі і дзяржаўца Радуньскі. У Жалудскім павецце ён валодаў Трацеўшчынай, Нечуйкоўшчынай, Аналешчынай, Якубоўшчынай, Андронікаўшчынай, Піліпаўшчынай, Бабішкамі, Пліскаўшчынай – мясцовасцямі зараз невядомымі. *(Літоўская метрыка. Кніга 8. № 355, 428)*. Менавіта Ш. Мацковіч пабудаваў Маламажэйкаўскую царкву (Муравanку) на месцы драўлянай капліцы Вітаўта. Паводле архітэктурных асаблівасцяў час яе будаўніцтва ўпэўнена датуюць першай паловай 16 ст. *(Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т.1. Менск, 1928. с.254)*. Згодна з фундашовым запісам Маламажэйкаўская царква ў 1542 г. ужо існавала, а за 14 гадоў да гэтага – 5 снежня 1528 г. Шымка Мацковіч скардзіўся на Васілішскага і Маркаўскага дзяржаўцу Яна Мікалаевіча Радзівіловіча (Радзівіла), што той пачаў сабе забіраць, ***“што давалі людзі на капліцу Вітаўтаву”*** *(Літоўская метрыка. Кніга 8. № 389)*. З гэтых разрозненых звестак, галоўным чынам таму што Шымка Мацковіч уладаў гэтымі землямі з 1511 па 1542 г. выцякае, што Маламажэйкаўская царква была пабудавана менавіта ім – цівуном Віленскім і дзяржаўцам Радуньскім паміж 1528 і 1542 гг.



***Маламажэйкаўская (цяпер Мураванская) царква***

Наступныя 75 гадоў Вялікае і Малое Мажэйкава належалі дзецям і ўнукам Шымкі Мацковіча і Васіля Палубенскага. Пасля смерці Шымкі Мацковіча Малое Мажэйкава перайшло сыну **Яну Шымковічу**. Удава Мацковіча Сафія Паўлаўна выйшла замуж за князя Васіля Андрэевіча Палубенскага (? – 1551) і стала княгіняй. Пасля ее смерці ў 1563 г. унучка Васіля Андрэевіча княжна Марына Львоўна – жонка Станіслава Паўлавіча Нарушэвіча адмовілася ад Вялікага Мажэйкава на карысць Яна Шымковіча (?-1568). Колькі дзіўных падзеяў і дарагіх падарункаў – відаць сям’я Палубенскіх была ў вялікім даўгу перад Ш. Мацковічам. Пасля смерці Я. Шымковіча Мажэйкава было падзелена паміж яго дочкамі (або пляменіцамі): **Альжбетай** – жонкай падскарбія ВКЛ **Крыштафа Мікалаевіча Нарушэвіча** і **Багданай** – жонкай мсціслаўскага ваяводы **Андрэя Сапегі**. Нарушэвічам дасталося Малое Мажэйкава, Сапегам – Вялікае *(ЭГБ. Т. 2, с.423.)*

Сто дзесяць гадоў Малое Мажэйкава належала Нарушэвічам. Каля 1660 г. уладальнік Малога Мажэйкава, падканцлер ВКЛ, стараста лідскі Аляксандр Нарушэвіч (?-1668) купіў Вялікі Мажэйкаў і аб’яднаў абодва паселішчы ў Вялікамажэйкаўскі двор. У 1666 г. ён “запісаў” Вялікамажэйкаўскі двор разам з фальваркамі Дзікушкі і Лябёдка сваёй жонцы Тадоры-Аляксандры - дачцэ Паўла-Яна Сапегі - гетмана ВКЛ. Тадора-Аляксандра памерла ў 1678 годзе, паспеўшы ў другі раз выйсці замуж за Уладзіслава Тышкевіча. Вялікамажэйкаўскі “ключ”, у тым ліку і Малое Мажэйкава, дастаўся ў пасаг Марыянне-Тэклі - дачцэ Аляксандра Нарушэвіча. Марыянна-Тэкля выйшла замуж за **Юрыя Караля Хадкевіча** - абозная ВКЛ, старасту блудаўскага, вялонскага, даўгелішскага і бейшагольскага і прынесла двор сям’і Хадкевічаў.

У наступныя гады Мажэйкаўскім маёнткам валодалі Хадкевічы: **Ян Кароль (**1686-1712), **Адам Тадэвуш** (1711-1745) - берасцейскі ваявода, Мі-

**** 1 аршын - 0,7112 м, 1 вяршок - 4,5 см, 1 дзесяціна - 1,066 га.***

калай (1738-1781) - жмудскі кашталян. Хадкевічы стварылі Мажэйкаўскае графства, у якое ўваходзілі Турэц, Петрыкаў і фальваркі Малое і Вялікае Мажэйкава, Дамброва, Дзікушкі, Лябёдка, Марцінішкі, Раманаўка. Сяляне гэтых фальваркаў акрамя звычайных сялянскіх павіннасцяў займаліся высечкай і сплавам лесу, вытворчасцю драўлянага вугалю, дзёгцю, паташу.



***Герб роду Хадкевічаў "Грыф"***

У другой палове 18 ст. Хадкевічы распрадалі фальваркі свайго графства дробнай і сярэдняй шляхце. Фальварак Малое Мажэйкава быў куплены **Кастравіцкімі** *(гербу "Байбуза")*. Да іх перайшлі таксама Скрыбаўцы, Лебяда, Паперня, Гасцілаўцы, Бешанкі, Шпількі, Алежкаўцы, Зяноўцы (Зенаўцы), Царкоўцы, Гордаўцы, Мураванка. Першая дакладная дакументальная згадка пра валоданне Кастравіцкімі Малым Мажэйкавым адносіцца да 1784 г. і знаходзіцца ў апісанні Ішчолнскай парафіі Лідскага дэканату.

У 1797 годзе цераз Малое Мажэйкава быў пракладзены паштовы тракт Варшава Пецярбург. Тракт ішоў з Ліды цераз Раклёўцы-Малы Ольжаў-Белагруду-Арлянку-Тарнова-Масявічы-Лебяду-Малое Мажэйкава-Вялікае Мажэйкава-Ішчолну-Шчучын на Гародню. Па тракту быў вялікі рух, цераз кожныя 10 км размяшчаліся корчмы з заездамі для прывалу і замены падарожных коней. Кастравіцкім тракт прыносіў немалыя грошы: Казімір Кастравіцкі - сын Самуеля аднавіў Маламажэйкаўскую царкву (Мураванку), пра гэта сведчыць мармуровая дошка, умураваная ў паўднёвую сцяну храма: "Casimirus Kostrowicki C. O. ET HERES cis collator aede sacra restaurata hoc monumentum. 1808 г." Мажэйкаўскія Кастравіцкія знаходзіліся ў сваяцтве з Апалінарам Кастравіцкім - дзедам Гіёма Апалінэра.

Каля 1826 г. Малое Мажэйкава перайшло ў спадчыну да Рамуальда Казіміравіча Кастравіцкага. У 1835 г. маёнтак Рамуальда Казіміравіча Кастравіцкага пад назвай Мажэйкаў Малы - гэта *"Дзве сажалкі пры якіх пабудаваны два млыны і адзін валюш. Карчма на паштовай дарозе ад горада Ліды ў горад Гародню прыносіць гадавога даходу 1000 рублёў асігнацыямі... Дом жылы драўляны, стары, даўжынёй 30 аршынаў, шырынёй 22 аршыны, страха гонтавая, у ім пакояў-20, вокнаў-36, печак галандскіх (стаякоў)-8, камінoў-5. Флігель драўляны даўжынёю 50 аршынаў, шырынёю 15 аршынаў, пакояў-10, печаў-5, ваконцаў-14, камінoў-2, страха саламяная. Вінакурня новая, сцены з дзікага каменю таўшчынёю 1 аршын, вышынёю 3 аршыны, даўжынёю 40 аршынаў, шырынёю 15 аршынаў, камінoў-2. Страха з дранкі з прыборам паўпаравым медным. Валоўнік драўляны даўжынёю 30 аршынаў, шырынёю 12 аршынаў, страха саламяная. Гумно новае з мураванымі слупамі, даўжынёю 110 аршынаў, шырынёю 25 аршынаў, страха саламяная. Хлеў драўляны, новы даўжынёю 70 аршынаў, шырынёю 25 аршынаў, страха саламяная. Хлявы ў квадрат 200 аршынаў, страха саламяная. Кузня з дзікага каменю, сцяна таўшчынёю 1 аршын 6 вяршкоў, вышынёю 3 аршыны, даўжынёю 10 аршынаў, шырынёю 5 аршынаў. Комін 1. Страха гонтавая. Амбар з дзікага каменю таўшчынёю 1 аршын 6 вяршкоў, у акружнасці 40 аршынаў, вышыня 4 аршыны, страха гонтавая. Дом для памяшкання садоўніка драўляны даўжынёю 16 аршынаў, шырынёю 8 аршынаў. Сад 3 дзесяціны, у большай палове засаджаны пладовымі дрэвамі."* (*НДГА ў Гародні. Ф. 1, воп. 10, с. 1591, арк. 26-28.)*

З прыведзенага інвентара відно, што ў 1835 г. у Малым Мажэйкаве не было ні аднаго цаглянага будынка. Жылы дом, флігель, валоўнік, дом садоўніка - драўляныя, вінакурня, кузня, амбар - з валуноў ("дзікага каменю"), гумно і хлявы напэўна драўляныя, ніяк не цагляныя.

Пасля смерці Рамуальда Казіміравіча Кастравіцкага - маршалка Лідскага павету ў 1827-30, 1839-44 гадах - фальварак Малы Мажэйкаў атрымала ў спадчыну яго дачка Казіміра. Яна выйшла замуж за **Рышарда Рэмера (Ромера)**, які каля 1860 г. прадаў маёнтак **Аляксандру Брахоцкаму** *(Slownik geogr. T. VI, Warszawa, 1885, s. 761)*. Афтаназы Раман сцвярджае, што Казіміра Кастравіцкая выйшла замуж за Аляксандра Брахоцкага *(Aftanazy Roman. Materialy do dziewrezidencii. T. II a. S. 476)*. Ці то цераз шлюб, ці цераз пакупку Дэнхейм-Брахоцкія гербу ***"Праўдзіц"***, род вядомы з часоў бітвы пад Грунвальдам, сталі ўладальнікамі Малога Мажэйкава.



***Герб роду Брахоцкіх "Праўдзіц".***
*(Як герб апошняга ўладальніка можа быць гербам (эмблемай) Мажэйкава, рэд.)*

Перад адменай прыгоннага права ў 1861 годзе Маламажэйкаўскаму маёнтку належала 5 вялікіх вёсак: Бешанкі, Гасцілаўцы, Аленкаў-

цы, Скрыбаўцы, Шпількі. Плошча маёнтка складала каля 3,5 тыс. га. Брахоцкім належаў таксама фальварак Морына. Перад паўстаннем 1863 г. Аляксандр Брахоцкі перапісаў свае землі на жонку і такім чынам выратаваў іх ад канфіскацыі *(A. Roman. Там жа).* Гэтае паведамленне прымушае думаць, што ён удзельнічаў у паўстанні. Як бы там ні было, але ў 1870 г. у Аляксандра Брахоцкага заставаліся Морын і Малы Мажэйкаў *(Спіс землеўладальнікаў Віленскай губерні. Вільня, 1872, с. 42).* Брахоцкія больш любілі жыць у Малым Мажэйкаве, хаця Морына размешчана ў больш жывапісным месцы. Зручнае размяшчэнне Малога Мажэйкава на паштовай дарозе Ліда-Гародня, блізкасць павятовага г. Ліды дазваляла развіваць, як гандаль прадуктамі і іх перапрацоўку, так і продаж будаўнічага лесу (пры маёнтку было некалькі буйных участкаў лесу).



***Подпіс Аляксандра Брахоцкага пад адным з дакументаў***

У 1864 г. у Малым Мажэйкаве была адкрыта першая на Лідчыне прыходская аднакласная школа ад Маламажэйкаўскай царквы Нараджэння Багародзіцы.

У прамежку паміж 1870 і 1885 гадамі Аляксандр Брахоцкі здзейсніў у маёнтку значныя будаўнічыя работы - былі пабудаваныя жылы дом, флігель і стайня (канюшня), разбіты пейзажны парк. На плане, здымка якога праводзілася ў 1885 г. для перабудовы млына арандатарам Беркам Іцкавічам *(НДГА ў Гародні. Ф. 13, воп. 2, с. 23 б, арк. 3.)* паказаны тры сажалкі, сад, парк і 30 будынкаў: млын, жылы дом, флігель, стайня, кузня, карчма пры дарозе, жылыя дамы і гас-




***План Малога Мажэйкава за 1885 г.***



*Маламажэйкаўская садзіба. Агульны выгляд. 90-я гады 20-га ст.*

падарчыя пабудовы сялян уздоўж паштовага тракту. На плане таксама паказаны дарогі, масты, цэнтральная алея, рандо-клумба, межы парка і асноўныя алеі.

Архітактурнае вырашэнне сядзібнага дома, канюшні і флігеля традыцыйнае і тыповае для другой паловы 19-га стагоддзя на тэрыторыі заходніх губерняў Расіі.

**Сядзібны дом.**

Бакавыя часткі раздзелены вертыкальна шырокімі паясамі боні, размешячанымі ў міжаконных плоскасцях і ў зешніх вуглах. Вялікія, простакутныя, васьмішыбавыя вокны дэкарыруюць сціплыя вальмы. Фасад завершаны слаба выражаным карнізам. Садовы бок сядзібы выглядае так сама, як і фасадная, але без порціка і тэрасы. Сядзібу накрывала гладкая вальмавая гонтавая страха з паўкруглымі слухавымі вокнамі.

У 1908-10 гадах Уладзіслаў Брахоцкі перабудаваў жылы дом. З правага боку была прыбудаваная драўляная крытая веранда. Заміж ранейшых слухавых акон былі ўстаўлены 4 квадратныя шасцішыбавыя акны, якія асвятлялі створаныя мансардавыя пакоі. Страху пакрылі бляхай. Было зменена таксама і нутраное размяшчэнне.

У 1939 г. на першым паверсе ў цэнтры знаходзіўся пpасторны мадэрнізаваны хол з размешчанай у яго правым вуглу вітой лесвіцай, якая вяла на другі паверх. На сценах хола віселі аленевыя рогі і воўчыя морды. У



*Панскі дом. Здымак 2002 г.*



*Вітая лесвіца. Здымак 2002 г.*



*Малы Мажэйкаў. План 1-га паверху. 1939 г.*



*Малы Мажэйкаў. План 2-га паверху (гарышча). 1939 г.*

правым баку дома размяшчаліся 4 пакоі: сталоўка, салон, салончык і гасцёўня. Найбольшай была сталоўка, якая займала ўсю шырыню дома. Пад салон быў адведзены вялікі квадратны фасадны вуглавы пакой, малы вуглавы задні пакой служыў салончыкам. Паміж салончыкам і сталоўкай размяшчалася невялікая гасцёўня. З хола напрасткі можна было прайсці ў ванны пакой. З боку саду размяшчаўся буфет. Левы бок дома меў пасярэдзіне калідор, які аддзяляў вуглавы кабінет і спальню, што прылягала да хола, ад трох пакояў службовага і гаспадарчага прызначэння, якія займалі левы бок дома. Усе пакоі мелі анфіладную сістэму дзвярэй.

Асветленасць дома была адносна сціплай. Хол, салон і салончык мелі паркетныя падлогі, усе астатнія пакоі мелі лакавыя дашчаныя падлогі. Сцены да 1910 г. былі пакрытыя шпалерамі, пазней памалёваныя клеевым малявідлам. Старыннай мэблі амаль не было. У вялікім салоне стаялі два мэблевыя гарнітуры: новы чырвонага дрэва, закругленых формаў, абабітых цёмна-чырвоным аксамітам і стары ў стылі Людовіка XVI. Былі таксама старынны сэкратэр, срэбныя пад-свечнікі і кандэлябры, некалькі старынных гадзіннікаў, якія ўжо не ішлі, з іх два, пакрытыя эмаллю. Было трохі гербавага срэбра, таксама цікавыя абрусы з эмблемамі караля Станіслава Аўгуста, падораных Таварыству сяброў навукі ў Вільні. Бібліятэка складалася з кніг, сабраных у міжваеннае дваццацігоддзе.

У адну лінію з жылым домам размяшчаўся будынак стайні ў класічным стылі з двума сіметрычна размешчанымі пад'ездамі, кожны з дзвюма парамі масіўных калонаў, якія нясуць трохкутныя франтоны з вокнамі. Будынак гэты,



*Стайня. Здымак 2002 г.*



*Кухня. Здымак 2002 г.*

дзеныя з тыльнага боку дома.

Флігель не перанёс істотных пераробак

Стайня пазней атрымала порцікі, у ёй былі зроблены нізкія сегментныя вокны.

У 1898 г. маёнтак перайшоў да сына Аляксандра Уладзіслава Брахоцкага (1870?-1931). У пачатку 20-га стагоддзя маёнтак Мажэйкаў Малы ахопліваў 1462 дзесяціны, у маёнтку жыло 36 жыхароў (16 мужчын, 20 жанчын). У. Брахоцкаму належала Выгода - былая карчма (4 жыхары, 1+3, 1 дзес.), фальваркі Дубенка (5 жыхароў, 2+3, 41 дзес.), Скрыбаўцы (12 жыхароў, 5+7, 74 дзес.) і ўрочышча Злябеддзе на р. Лебядзе (17 жыхароў, 7+10, 1 дзес.). Разам: 74 жыхары, 1579 дзесяцін.

У 1906 годзе пасля завяршэння будаўніцтва чыгункі Ліда-Ваўкавыск прылеглыя Скрыбаўцы сталі чыгуначнай станцыяй. Паштовы тракт страціў сваё значэнне, рух па ім прыкметна зменшыўся.

Перад 1914 г. плошча маёнтка заставалася ў межах 1,5 тыс. га, пасля 1-й сусветнай вайны яна яшчэ некалькі зменшылася. Паводле перапісу 30 верасня 1921 г. фальварак Малое Мажэйкава Лябёдскай гміны налічваў 8 жылых будынкаў і 108 жыхароў.

пакрыты высокай гонтавай страхой, пазней быў перароблены пад жылое памяшканне.

Адносна невялікая пабудова другой паловы 18 стагоддзя, якая стаяла паміж домам і стайняй, служыла кухняй.

Пры сядзібе быў разбіты парк плошчай 5-6 га. У парку было некалькі ліпавых алеяў, пасаджаных такім чынам, што галіны ліпаў стваралі аркавыя тунэлі вышынёй каля 2,5 м, і 3 сажалкі, якія папаўняліся з крыніцы, што біла струменем у адной з іх. Да парка прымыкалі сады, закла-

Вялікі мураваны лямус каля ўязной алеі быў пабудаваны ў пачатку XX ці ў 30-я годы XX стагоддзя з цэментных блокаў і цэглы. Блокі такога тыпу вырабляліся ў Ваўкавыску з 1902 па 1939 год. Страха была пакрыта цэментнай і керамічнай дахоўкай (чарапіцай).

У 1931 г. у валоданне маёнткам уступіў сын Уладзіслава Андрэй Брахоцкі. Ён нарадзіўся 2.03. 1895 г. у Малым Мажэйкаве. 7.06.1914 г. скончыў 1-ую Віленскую класічную гімназію, два гады быў прэзідэнтам вучнёўскага таварыства "Брацкая



*Новы мікрараён. Здымак 2002 г.*



*Адміністрацыйны будынак. Здымак 2002 г.*



*Спіртзавод. Здымак 2002 г.*

дапамога". Восенню 1914 г. паступіў на сельскагаспадарчы факультэт Рыжскага палітэхнічнага інстытута, а ў 1915 г. вучыўся ў Маскве, куды быў пераведзены інстытут. У траўні 1916 г. уступіў у расейскае войска, быў прыпісаны да 13 паветраплавальнай роты. Праз год стаў прапаршчыкам (малодшы лейтэнант). Праз год уступіў у афіцэрскі легіён 1-га польскага корпуса генерала Доўбар-Мусніцкага. У ліпені 1918 г. вярнуўся ў родныя месцы, дзе разам з іншымі афіцэрамі сфармаваў Шчучынскі аддзел польскай Самаабароны, затым у складзе 13 палка уланаў прайшоў дарогамі вайны ў польскім войску і ў частках Сярэдняй Літвы генерала Жалігоўскага. Служыў на пасадзе ад'ютанта камандзіра палка. Атрымаў званне паручніка (старшы лейтэнант). Узнагароджаны найвышэйшым польскім ваенным ордэнам - Крыжам Віртуці Мілітары і Крыжам Заслугі Сярэдняй Літвы. У 1921 г. пакінуў вайсковую службу. Давучваўся ў Варшаўскай Палітэхніцы, у 1927 годзе атрымаў дыплом інжынера-гідратэхніка. Наступныя чатыры гады працаваў у меліярацыі. Пасля смерці бацькі прыняў у спадчыну маёнтак.

Даволі шмат часу ўдзяляў грамадскай дзейнасці, падараваў Таварыству сяброў навукі ў Вільні частку фамільнага срэбра і старынных рэчаў маламажэйкаўскага двара. У 1936 годзе ў Вільні выдаў кнігу "Гісторыя самаабароны ў Шчучыне Наваградскім". У 1940-41 гг. сядзеў у турме ў Гародні пад чужым прозвішчам. Пасля вайны напісаў мемуары, якія захоўваюцца ў Польскай нацыянальнай бібліятэцы.

Пры Ішчолнскім касцёле пахавана Юзэфа з Сяклюцкіх Каcтравіцкая, памерла 24 кастрычніка 1880 г. ва ўзросце 60 гадоў.

На Ішчолнскіх могілках была капліца. Там былі пахаваныя Аляксандра, жонка Роха Брахоцкага (1819-68), Аліна з Мінейкаў Брахоцкая (памерла ў 1911 г. ва ўзросце 76 гадоў), Катажына з Балінскіх Брахоцкая (памерла ў 1929 г. ва ўзросце 63 гадоў), Уладзіслава, жонка Аляксандра Брахоцкага (1857 - 22.02. 1932 у М. Мажэйкаве), Сафія з граф. Маглоў (Mohlow) Брахоцкая (памерла 3 чэрвеня 1903 г. ва ўзросце 42 гадоў). Капліца разбурана. Цынкавыя труны разбітыя.

**Найбольш значныя падзеі.**

У 1940 г. на нацыялізаваных землях маёнтка быў арганізаваны саўгас "17 верасня", дырэктарам саўгаса быў прызначаны Мінкевіч.

У гады Вялікай Айчыннай вайны з Малога Мажэйкава загінула 9 жыхароў.

Пасля вайны саўгас быў адноўлены. Дырэктары саўгаса: Брайлоўскі, Воўкаў, Серадоў, Сафронаў, Цвяткоў, Ляціевіч, Кулакоў, Гушча, Сяргееў, Рахатка (з лютага 1985 г.).

У красавіку 1958 г. саўгасу перададзены спіртзавод, у 1964 г. пабудаваная бальніца, у 1972 г. у 161 двары жылі 502 жыхары. У 1985 г. інстытут "Гароднеграмадзянпраект" распрацаваў генеральны план забудовы М. Мажэйкава.



***Былы парк. Здымак 2002 г.***



***Сажалкі. Здымак 2002 г.***

У 1991 годзе дырэктар саўгаса "Малое Мажэйкава" Казімір Рахатка быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Удзельнічаў у абвяшчэнні незалежнасці Беларусі.

У 1996 г. Малое Мажэйкава - цэнтр аднайменнага саўгаса і Гасцілаўскага сельсавета - 256 двароў, 704 жыхары. Будынкі сельсавета і саўгаса, мехмайстэрні, гаспадарчы двор, збожжасховішча, аддзел сувязі, крама *(ЭГБ. Мінск. 1999. Т. 5, с. 60).*

У 1997 г. У М. Мажэйкаве 757 жыхароў, 287 двароў. Цэнтр аграфірмы "Мажэйкава". Спіртзавод, сярэдняя школа, дзетсад, дом культуры, бібліятэка, аддзяленне сувязі, крама. *(ЭГБ. Мінск. 1999 Т.5. с.60).*

На 1.01.2002 г. у Малым Мажэйкаве жыло 808 чалавек.



***Кіраўнік аграфірмы "Мажэйкава" Казімір Рахатка. Здымак 2004 г.***

У 2003 г. Малое Мажэйкава стала Мажэйкавым. З пабудоваў 19 стагоддзя захаваўся мураваны жылы дом (зараз у ім сельсавет), флігель (малочная медустанова), стайня. Парк месцамі захаваўся. Там у асноўным растуць ліпа дробналістая і ясень, ёсць явар (серабрыстая таполя) і іва, сустракаюцца дуб, ліпа звычайная, елка, вяз гладкі, клён, бэз, іва белая, яблыня, клён амерыканскі, арэшнік.

У 2004 годзе да аграфірмы "Мажэйкава" далучана сельгаспрадпрыемства "Тарнова". Назва новай гаспадаркі "Мажэйкава".

***Валеры Сліўкін.***

# АНТЫСАВЕЦКАЕ МОЛАДЗЕВАЕ ПАДПОЛЛЕ Ў ЛІДЗЕ Ў 50-х ГАДАХ 20-га СТАГОДДЗЯ

***З адкрыццём шырокага доступу да, раней засакрэчаных і таму недаступных для даследчыкаў, архіўных матэрыялаў з'явілася магчымасць даведацца аб невядомых дагэтуль старонках нашай гісторыі. Устанаўленне хоць нейкай дэмакратыі адагнала страх і дазволіла людзям расказаць праўду пра перажытае. Усё разам дало магчымасць пераадолець панаваўшую дасюльаднабаковасць ў вывучэнні гісторыі нашага народа. Пачэснае месца было вернута і вяртаецца тым, хто быў неабгрунтавана і беспадстаўна выкраслены з яе старонак таталітарнай уладай і залічаны ў лік ворагаў народа на доўгія гады.***

У пасляваенныя гады грамадска-палітычнае і культурнае жыццё ў Беларусі вызначалася панаваннем ў краіне таталітарнага рэжыму з усімі ўласцівымі яму рысамі і найперш – таталітарным кантролем за паўсядзённым жыццём чалавека. Але нягледзячы на гэта, 40-50-я гады з'яўляюцца ў значнай меры найбольш цікавымі і супярэчлівымі гадамі ў гісторыі Беларусі. Менавіта яны вызначылі падыходы камуністычнай партыі Беларусі да многіх падзеяў грамадска–палітычнага жыцця пасляваеннага часу, і гэтыя падыходы практычна не змяніліся амаль да забароны дзейнасці КПБ у жніўні 1991 г.

Пераможнае заканчэнне Вялікай Айчыннай вайны з нямецкімі захопнікамі ўнесла новыя тэндэнцыі ў палітычнае жыццё грамадства. Пасляваенныя гады характарызуюцца пратэстам некаторых слаёў грамадства супраць савецкай улады. У першую чаргу пратэст супраць панаваўшай улады выказвала моладзь заходняга рэгіёну Беларусі, якая самастойна спрабавала разабрацца ў супярэчлівых рэаліях і з'явах у жыцці краіны і грамадства. Аналізуючы гэты фенамен, які яшчэ патрабуе ўсебаковага і глыбокага даследвання, магчыма зазначыць, што ён быў не выпадковы.

На ўсходзе Беларусі таталітарны рэжым меў досыць доўгую гісторыю і "назапасіў досвед" правядзення рэпрэсій, пачынаючы з 20-х гадоў. Амаль усе, хто быў не згодны з палітычнымі і ідэалагічнымі рэалямі Савецкай улады, былі рэпрэсаваныя. На захадзе рэспублікі склалася зусім іншае становішча. Па-першае, мясцовае насельніцтва знаходзілася пад сталінскай дыктатурай нядоўга і "баяцца рэжым" яшчэ ў поўнай меры не навучылася. Па-другое, многія грамадзяне, якія не ўспрымалі Савецкую ўладу і тое, што ад яе імя рабілася – правядзенне прымусовай калектывізацыі, масавых дэпартацый насельніцтва заходніх абласцей, рэлігійны ўціск і г.д.-- уцалелі пасля ажыццяўлення сацыялістычных пераўтварэнняў 1939 – 1941 гг. і не жадалі мірыцца з гэтымі рэаліямі. Менавіта таму ў заходнім рэгіёне ў пасляваенны час і распачынаецца антыбальшавіцкі моладзевы супраціў, і звязаны ён перш за ўсё з выступленнямі моладзі супраць Савецкай ўлады. Зазначым, што гісторыя беларускага моладзёвага антысавецкага руху і барацьбы за нацыянальныя ідэі яшчэ ў поўнай меры не вывучана і не напісана. Адна з першых спроб даследвання гэтай праблемы – выпуск ў 1997 г. выдавецтвам "Наша Ніва" кнігі ўспамінаў пра дзейнасць Саюза беларускіх патрыётаў у 1945-1947 гг. "Гарт", артыкула "Да гісторыі стварэння мядзельска-смаргонскага вучнёўскага падполля".

Аднак, архіўныя матэрыялы сведчаць аб тым, што аналагічныя моладзевыя суполкі існавалі і ў іншых гарадах, ды раёнах захаду Беларусі. Гэтыя дакументы – маўклівыя сведкі аб невядомых старонках той барацьбы.

Сярод такіх сведкаў - дакументы Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь (НА РБ), якія распавядаюць пра стварэнне і непрацяглую дзейнасць **у горадзе Лідзе** моладзёвай антысавецкай арганізацыі.

**... 11 траўня 1951 г.** Упраўленне аховы Міністэрства бяспекі Брэст-Літоўскай чыгункі накіравала ў ЦК КП(б)Б пад грыфам "Зусім сакрэтна" спецпаведамленне **"Аб ліквідацыі антысавецкай моладзевай арганізацыі"**. Аналагічнае спецпаведамленне было накіравана і на імя першага сакратара Гарадзенскага абкама партыі С. Прытыцкага. У спецпаведамленні адзначалася, што ўпраўленнем аховы МДБ Брэст-Літоўскай чыгункі арыштаваны:

**Салдаценкаў Іван Пятровіч,** 1931 г. нараджэння, студэнт Гарадзенскай культпрасветнавучэльні, **Параваеў Віктар Фёдаравіч,** 1931 г. нараджэння, рускі, токар вагоннага дэпо, **Казлоўскі Фёдар Пятровіч,** 1932 г. нараджэння, паляк, вучань 9 класа 12 чыгуначнай школы станцыі Ліда, **Каштан Аркадзь Яўстафавіч,** 1931 г. нараджэння, беларус, бухгалтар Гарадзенскага сяльпо Жалудокскага раёна, **Логвін Аляк-**

**сей Міхайлавіч,** 1934 г. нараджэння, беларус, вучань 8 класа. Некалькі пазней быў арыштаваны яшчэ **Мазурок Сазонт Савіч,** 1933 г. нараджэння, вучань 7 класа СШ № 1 г. Ліды.

Былі затрыманы яшчэ некалькі чалавек, якіх праз некаторы час павыпускалі.

Арыштаваныя былі абвінавачаны ў тым, што *"В августе месяце 1950 г. объединившись создали подпольную молодежную антисоветскую организацыю, которая ставила своей целью и ближайшей задачей свергнуть Советскую власть".* Акрамя гэтага яны абвінавачваліся ў тым, што планавалі *"...распустить армию и заменить ее ополчением. Распустить колхозы и передать колхозную землю единоличникам".*

Аналізуючы вытрымкі з допытаў арыштаваных магчыма зазначыць, што патрабаванне аб перадачы зямлі аднаасобнікам мела пад сабой рэальныя падставы і адлюстроўвала тагачасную рэчаіснасць, існаваўшую ў заходнім рэгіёне Беларусі ў 1944-1955 г.г. Гэта рэчаіснасць была ў тым, што большасць сялянства гэтага рагіёну з'яўлялася аднаасобнікамі. Але адразу ж пасля вайны ў заходніх абласцях Беларусі распачалася калектывізацыя, якая праходзіла пераважна прымусовымі метадамі. Калі, на пачатак 1949 г. у заходніх абласцях рэспублікі налічвалася ўсяго 909 калгасаў, то на пачатак 1 студзеня 1951 г. гэтая лічба склала 6054 калгасы, якія аб'ядноўвалі 83,7% аднаасобных гаспадарак. Да канца 1952 г. у заходніх абласцях у калгасах налічвалася 540,3 тысяч: ці 95% сялянскіх гаспадарак.

У выніку правядзення прымусовай калектывізацыі сялянства заходніх абласцей Беларусі было гвалтоўна пазбаўлена зямлі, многія сем'і і заможныя сяляне былі рэпрэсаваны і высланы ў аддаленыя раёны Савецкага Саюза.

Асаблівую цікавасць уяўляе той факт, што І. Салдаценкаў, як кіраўнік арганізацыі, асноўную працу, улічваючы асаблівасці гэтай тэрыторыі і ў першую чаргу варожасць аднаасобнага сялянства да савецкай улады за правядзенне прымусовай калектывізацыі, дэпартацый насельніцтва, прапанаваў весці менавіта сярод сялянства. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца вытрымкі з пратакола допыту **Хадыкі**,(імя не пазначана ў пратаколах допытаў, хутчэй за ўсё гэта Хадыка Юра) які паказаў, што *"Солдатенков сказал, что в настоящее время необходимо ставить основной упор на работу среди крестьянских масс, обещать им уничтожение колхозов и создание мелких крестьянских наделов, фермерского типа".*

Як бачна, патрабаванне моладзевай арганізацыі аб перадачы зямлі аднаасобнікам адлюстроўвала панаваўшую у іх сем'ях спрадвечную мару аб сваёй уласнай зямлі і аднаасобным гаспадаранні на ёй.

Акрамя гэтага, сябры арганізацыі высоўвалі шэраг іншых палажэнняў. Найбольш значнымі з іх з'яўляліся наступныя: *"Объявить свободу партий, различных уклонов и направлений. Дать свободу различным религиозным сектам и группам. Передать легкую и пищевую промышленность в частные руки и отменить всевозможные налоги, взимаемые с населения. Разбить территорию государства на ряд полицейских округов, во главе которых поставить членов их организаций с широкими полицейскими полномочиями. Создать особые органы безопасности с целью тайного наблюдения за руководящими работниками. Дать полную возможность Украине и Белоруссии выйти из состава Советского Союза, а так же другим, желающим этого, республикам.*

*Создать террористическую группу, которая не входила бы в организацию, но подчинялась бы ей. Назначение этой группы – физическое уничтожение руководителей советского аппарата, а так же добыча денежных средств для организации путём грабежей".*

Пры аналізе архіўных дакументаў узнікае шэраг пытанняў – хто, як, калі, стварыў моладзевую арганізацыю. Адказы на гэтыя і іншыя пытанні знаходзяцца ў вытрымках з пратаколаў допытаў арыштаваных, хаця, безумоўна, нельга цалкам тым пратаколам верыць. Следчыя часта пісалі тое, што ім хацелася, ці на што была ўстаноўка, а не тое, што было на самай справе.

Аднак, згодна з пратаколам арыштаваны па гэтай справе кіраўнік арганізацыі І. Салдаценкаў на допыце паказаў, што *"создание антисоветской организации относится к августу 1950 г., первоначально ею руководил* ***Фомин Юрий****, который в данное время призван в Советскую Армию и находится в Кронштадте, а после его призыва, организацию возглавил я".*

На пытанне следчых, якім чынам сябры арганізацыі планавалі ажыццявіць свае планы і задачы, І. Салдаценкаў адказаў *"По замыслу членов нашей организации всё это должно было произойти путем захвата номенклатурных постов, как в партии, так и в организациях Советской власти, для чего наша организация должна стать более массовой и действовать конспиративно в подполье".*

Асноўная стаўка арганізатараў падпольнай арганізацыі рабілася на моладзь.

Пацверджаннем гэтых слоў з'яўляецца прызнанне, у тым, што *"в организацию надо привлекать в первую очередь молодежь, которой разъяснять, что все проводимые мероприятия Советского правительства являются авантюрой и обманом народа".*

Выконваючы гэтае патрабаванне сябры арганізацыі праводзілі працу па ўцягванні ў свае

шэрагі новых прыхільнікаў з ліку вучнёўскай і студэнцкай моладзі. На допытах А. Логвін паказаў, што *“выполняя указания Солдатенкова мною лично были вовлечены в антисоветскую организацию ученики 9 класса 2-й средней школы г. Лида* ***Сягло Фёдор****,* ***Рудяк Александр*** *и ученик 10 класса той же школы* ***Лапко Михаил****. Указанным лицам я дал задание проводить соответствующую работу по вовлечению новых членов в нашу организацию и аб исполнении докладывать мне”.*

Распавядае **Марыя Аляксандраўна Логвін**, жонка Аляксея Логвіна (***Логвін*** - прозвішча беларускае, таму жаночыя імёны не скланяюцца так жа як не скланяюцца прозвішчы Аўгусцін, Севярын і г. д.):

*“Логвін Аляксей Міхайлавіч, беларус, праваслаўны, нарадзіўся 26.02.1934 г. у в. Збляны Лідскага раёна. У 1939 г. Міхайла Логвін купіў хутар у Фалькавічах, і таму ў некаторых дакументах напісана, што А. М. Логвін нарадзіўся ў Фалькавічах.*

*У 1947 годзе Аляксей Логвін закончыў Фалькаўскую пачатковую школу.*

*У тым жа 1947 годзе А. Логвін быў адпраўлены на вучобу ў 5-ты клас Чыгуначнай школы г. Ліды. Пасяліўся на кватэры ў Хадыкі. У Хадыкі кватараваў і Салдаценкаў. Сын Хадыкі Юра таксама хадзіў у тую ж школу і ўваходзіў у арганізацыю”*

Як выцякае з архіўных матэрыялаў Аляксей Логвін, ураджэнец Лідчыны, вучань чыгуначнай школы № 52 (зараз СШ № 10) у жніўні 1950 г. (г. зн. у самым пачатку) уступіў у антысавецкую арганізацыю і з’яўляўся актыўным яе ўдзельнікам.


ПАСВЕДЧАННЕ

СВИДЕТЕЛЬСТВО

***Пасведчанне Аляксея Логвіна аб заканчэнні Фалькаўскай пачатковай школы***

Распавядае **Кацярына Астапаўна (Яўстафаўна) Лянцэвіч (Каштан)**, сястра Аркадзя Каштана:



***Кацярына і Сцяпан Лянцэвічы***

*“Я нарадзілася 15 красавіка 1927 года ў в. Збляны ў праваслаўнай сям’і. Яшчэ пры Польшчы скончыла 3 класы Зблянскай школы. Пасля прыходу Чырвонай Арміі мяне ізноў хацелі адправіць у 3-ці клас, але я, малая, уперлася: “Колькі можна ў той 3-ці клас хадзіць?”, - і дабілася, пайшла ў 4-ты. У 1944 годзе пайшла ў 1-ю рускую школу г. Ліды. Праз год, калі бацька пайшоў працаваць на чыгунку, перайшла ў 52-ю чыгуначную школу, якую скончыла ў 1948 годзе. У тым жа годзе паступіла ў Лідскую педнавучальню, якую скончыла праз год, у 1949 годзе. Была накіравана на працу ў Зблянскую школу. Неўзабаве выйшла замуж за суседа Сцяпана Лянцэвіча, 1924 г. н. У 1944 годзе Сцяпан добраахвотнікам пайшоў на фронт і там уступіў у партыю. Пазней я завочна скончыла БДУ. Паколькі імя майго бацькі Яўстафій аднавяскоўцы вымаўлялі з цяжкасцю, то яго звалі Астап, а мяне Кацярына Астапаўна, так звалі і дзеці ў школе, так завуць і зараз.*

*Брат, Каштан Аркадзь Яўстафавіч, нарадзіўся 2 лютага 1931 года ў в. Збляны. Закончыў Зблянскую школу і недзе ў 1945 ці 1946 годзе прыехаў у Ліду, у чыгуначную школу № 52.*

*Жылі мы ўсе разам: бацька, я і Аркадзь.*

*Праз некаторы час да нас пачаў заходзіць Салдаценкаў. Гэта быў вельмі начытаны хлопец, вельмі эмацыйны, але з надзвычай беднай сям'і. Часцяком яму не было чаго есці, і, здаралася, мы яго кармілі. Ён быў вельмі справядлівы, быў сакратаром камсамольскай арганізацыі. Дзейнасць сваёй арганізацыі хлопцы хавалі ад нас з бацькам, а я на іх увагі зусім не звяртала, яны былі шмат маладзейшыя. Адно ведаю, што ў арганізацыю ўваходзіў яшчэ* ***Лебедзеў****, зусім бедны хлопец, які, нават, і жыў пры школе, за што апальваў памяшканне. Але яго забралі ў войска, і Лебедзеў арышту, мабыць, пазбегнуў."*



***Аркадзь Каштан. 10.04.1948 г.***

Распавядае **Людміла Гербертаўна Мазурок (Бузік)**, жонка Сазонта Мазурка:

*"Я нарадзілася 12 красавіка 1933 года ў Лідзе. Мой бацька Герберт Карлавіч Бузік па нацыянальнасці быў эстонец, служыў у польскім войску ў Паўднёвым гарадку г. Ліды. У 1939 годзе трапіў у савецкі палон у Львове. Аказаўся ў арміі Андэрса, прайшоў увесь шлях праз Іран, Афганістан, Афрыку, апынуўся ў канцы вайны ў Англіі. Пасля вайны ён спісаўся з намі, і мы дамовіліся з'язджацца ў Польшчы. Аднак нам з маці, Верай Антонаўнай, выехаць не ўдалося. Адзін з палякаў, які займаўся нашым выездам сказаў: "Я гэтых кацапаў у Польшчу не павязу", - і сарваў выезд. Пакуль паўторна афармлялі дакументы, мяжа была закрытая. Бацька прыехаў такі ў Польшчу, але яго адгаварылі ехаць у Беларусь. Нічога акрамя Сібіры яму тут не свяціла. Так і жылі па розныя бакі мяжы. Я з мужам і дзецьмі шэсць разоў ездзіла да яго ў госці.*

*Муж мой Мазурок Сазонт Савіч нарадзіўся 7 верасня 1933 года ў праваслаўнай сям'і, але ў польскім горадзе Чанстахове. Уся іхняя сям'я жыла ў Чанстахове, мелі сваю краму.*



***Сазонт Мазурок. 17.07.1950 г.***

*Пасля вайны ў Польшчы пачаўся дзе тэрор, а дзе проста ўціск беларусаў. Пад такі ўціск трапілі і Мазуркі. Спецыяльна насупраць іхняй крамы была пабудаваная такая ж польская, і ўсе пачалі купляць толькі ў польскай краме. Жыць стала немагчыма. Трэба было выязджаць. У 1947 годзе выехалі ў Беларэчанск. З-за дрэннага клімату там захварэў і памёр Сава Мазурок. Марыя Елісееўна Мазурок з сынам Сазонтам і братам прыехала ў Менск, адтуль - у Ліду, купілі хату на Слабадзе на вул. Пархоменкі, 10. Сазонт хадзіў у чыгуначную школу, дзе і пазнаёміўся з будучымі сябрамі арганізацыі. За дрэнныя паводзіны ён быў выключаны з 52-й чыгуначнай школы і мусіў перайсці ў СШ № 1. Мы былі аднагодкі, але Сазонт вучыўся на год пазней за мяне, бо вельмі слаба ведаў расейскую мову. Я з сяброўкай і ён з сябрам гулялі ўчацвярых. Ён зрэдку казаў, што ён шчыры ленінец, але больш пра іхнюю арганізацыю я нічога не ведала.*

*Забралі яго проста са школы. Казалі, што выдаў нейкі Хадыка, які потым стаў афіцэрам. Прыпісвалі ім, што хацелі падкласці бомбу пад трыбуну на стадыёне. Канешне ж ніякай бомбы не было."*

Паводле пратаколаў допытаў сябры маладзёвай арганізацыі планавалі наладзіць кантакт з замежнымі нацыяналістычнымі арганізацыямі і святарствам. Прынамсі там напісана, што яны жадалі *"...при первой возможности связаться с белоэмигрантами, находящимися за границей и предложить им совместную работу, добиться от них помощи деньгами и литературой"*.

Згодна з тымі ж пратаколамі сябры арганізацыі не выключалі магчымасці вядзення барацьбы не толькі мірнымі шляхамі, але і збройнай барацьбы, аб чым прызнаўся І. Салдаценкаў паведаміўшы следчым, што *"членами нашей организации ставились на обсуждение вопросы приобретения оружия, о печатках, множительных аппаратах, шифрах связи и применения тайников, но конкретных решений по этим вопросам не принималось"*. Далей Салдаценкаў заявіў, што *"...приобретение оружия, печатных и множительных аппаратов, средств связи и шифра вызывалось необходимостью использования их в антисоветских целях, но только не на данном этапе нашей работы, а в будущем"*.

Аб намеры набыцця зброі сведчаць словы арыштаванага А. Логвіна, які на допыце паказаў, што *"Выполняя указания Солдатенкова я попытался приобрести за деньги оружие у своего знакомого Боярчика Алексея, жителя деревни Фальковичи Лидского района, Гродненской области, но купить пистолеты не успел, так как был арестован органами МГБ"*.

*- Глупства ўсё гэта,-* пасміхаецца **Аляксей Міхайлавіч**. *- Які тэрор? Мне следчы КДБ нават*

*пісталет прыпісаў. Відаць установку такую атрымаў. А было на самай справе так. Я сам ураджэнец вёскі Фалькавічы (рэальна нарадзіўся ў Зблянах), жыў у Лідзе на кватэры, вучыўся ў старэйшых класах сярэдняй школы, а сакратаром камсамольскай арганізацыі ў ёй у той час быў разумны малады чалавек Іван Салдаценкаў. Ён таксама кватараваў у адным доме са мной. Іван быў старэйшы за мяне, начытаны, поўны ідэй аб паляпшэнні нашага жыцця. А тое, што жыццё пасля вайны трэба было паправаляць, тут у нас мала хто ў той час сумняваўся, аднак маўчалі людзі. А мы маладыя ды гарачыя, з абвостраным пачуццём справядлівасці, загаварылі ў адкрытую пра відавочныя промахі і памылкі кіраўніцтва краіны. Стварылі свой альтэрнатыўны камсамолу* ***"Саюз за абнаўленне ленінскіх ідэй",*** *большай часткай тэарытызавалі, але не пакідалі без увагі прапаганду сваіх паглядаў. Якімі яны былі? Салдаценкаў выступаў за змену ўлады парламенцкім шляхам, іншыя, і я ў тым ліку, лічылі гэта немагчымым у тых умовах. Усяго цяпер не прыпомню, але вось некаторыя найбольш радыкальныя пункты нашай праграмы:*

*- скараціць велізарную армію, ажно да замены тэрытарыяльнымі войскамі;*

*- распусціць калгасы і перадаць зямлю тым талковым гаспадарам, якія будуць на ёй працаваць;*

*- адмяніць драконаўскія падаткі;*

*- даць магчымасць не на паперы, а на справе свабоднага выхаду Беларусі са складу СССР.*

*Я ўступіў у арганізацыю ў 16 гадоў. У ёй былі хлопцы старэйшыя за мяне, былі і маладзейшыя. Усяго да следства прыцягваліся дзесяткі чалавек з розных школ горада Ліды. Большасць з нашай школы, але былі хлопцы і з 1-й, і з 3-й школаў горада. Не трапіла пад суд 55 чалавек.*

Распавядае **Марыя Аляксандраўна Логвін**:

*- Ядро арганізацыі знайходзілася ў чыгуначнай школе. У 1950 г. Логвін перавёўся ў СШ №3 для пашырэння арганізацыі. Кіраваў арганізацыяй Салдаценкаў. Арганізацыя была добра законспіраваная. Правал адбыўся ў выніку няўдалай вярбоўкі ў арганізацыю сакратара камсамольскай арганізацыі школы (піянервважатай). Вярбоўку праводзіў сам Салдаценкаў. Пад падазрэнне першымі трапілі Логвін і Юра Хадыка.*

*Хадыка-бацька працаваў кладаўшчыком. НКУС узяў яго ў распрацоўку і пад уздзеяннем бацькі Юра расказаў усё, што ведаў і згадзіўся быць асведамляльнікам. Другім асведамляльнікам быў Бычак з Ольжава. Потым на судзе яны выступалі сведкамі.*

Гаворыць **Аляксей Логвін:**

*- Былі сексоты, канешне. Але была і другая асноўная прычына: Салдаценкаў з часам пачаў больш адкрыта выказвацца пра тое, што адбывалася ў краіне, а на той час камсамольскую арганізацыю школы ўзначаліла адданая сталінскім ідэалам дзяўчына. І яна павядаміла ў адпаведныя органы.*

Сябры моладзевай арганізацыі планавалі скарыстоўваць легальныя формы працы, шляхам "асцярожнай" крытыкі мерапрыемстваў афіцыйных уладаў, зрыў мерапрыемстваў, якія праводзіліся камсамольскімі арганізацыямі ў школах, тэхнікумах, вучэльнях, вярбоўка ў свае шэрагі новых прыхільнікаў. Красамоўным сведчаннем гэткіх падыходаў з'яўляюцца словы арыштаванага па гэтай справе Ф. Казлоўскага, які паказаў, што *"Солдатенков говорил мне и другим членам организации, что нужно вовлекать в нашу организацию, как можно больше людей и главным образом тех, кто проявляет недовольство Советской властью".*

Аднак гэтая дзейнасць была вельмі хутка перапынена.

Гаворыць **Аляксей Логвін**:

*- 29 красавіка ў першы дзень Вялікадня, нас арыштавалі. Мяне ўзялі на вуліцы Белагрудскай, 22 (вуліца Выдайкі). Памясцілі ў падвал цяперашняга вендыспансера, а пасля адправілі ў Баранавічы. Арыштоўваў чыгуначны КДБ. Праз паўгода следства – суд у Гародні, мой прыгавор – 10 гадоў спецлагераў. На той час я быў непаўналетнім, таму і такая "паблажка".*

*Не скажу, каб мяне білі, следчы трапіўся малады. Я яму падчас выклікаў на допыты рашаў задачы па арыфметыцы, хлопец недзе вучыўся. Да таго ж на той час рэпрэсіі пайшлі на спад.*

Распавядае **Марыя Аляксандраўна Логвін**:

*- Сядзеў у Баранавічах. У турме навучыўся гуляць у шахматы, ды так, што пазней стаў кандыдатам у майстры спорту па шахматах. Шахматы ў турме ляпілі з хлеба.*

Распавядае **Кацярына Астапаўна Лянцэвіч:**

*- Аркадзь на той час ужо скончыў школу. Скончыў бухгалтарскія курсы ў Моўчадзі і працаваў у Скідалі ад Жалудокскага сяльпо. Паспеў атрымаць першую зарплату, купіў сабе касцюм і прыехаў на вялікдзень у Зблян ы.*

*Ноччу прышлі трое ў цывільным. Адзін з аўтаматам хадзіў на панадворку. Двое рабілі ператрус. Забралі ўсе старыя рускія кніжкі з "яцямі", а таксама "Біблію". Забралі Аркадзя і павезлі ў Скідаль, дзе зрабілі ператрус у кватэры, на якой ён жыў."*

У адрозненне ад Логвіна А. Каштан гаварыў, што з яго здзекаваліся, дапытвалі з прымяненнем фізічнага ўздзеяння, душылі нейкай спецыяльнай кашуляй.

Архіўныя дакументы сведчаць аб тым, што *"Дальнейшее следствие по данному делу ведётся в направлении вскрытия возможных каналов связи арестованных участников антисоветской организации с националистическим антисоветским подпольем в г. Лида и Гродно, выявления всех участников антисоветской молодёжной организации и лиц, подвергавшихся антисоветской обработке, а так же в направлении выявления практической деятельности участников антисоветской организации".*

Не меншую цікавасць, чым дакладная запіска МДБ Брэст-Літоўскай чыгункі, уяўляе і дакладная запіска першага сакратара Гарадзенскага абкама партыі С. Прытыцкага, накіраваная першаму сакратару ЦК КП(б)Б М. Патолічаву аб выкрыцці ў Гарадзенскай вобласці антысавецкай моладзевай арганізацыі. У запісцы, накіраванай у Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі Беларусі 18 траўня 1951 г. адзначалася , што:

*"Из 5 человек, арестованных участников организации, 4 человека являлись членами ВЛКСМ, что свидетельствует об отсутствии надлежащей воспитательной работы, а также политической бдительности в рядах комсомола."* Далей С. Прытыцкі з факту існавання моладзевай падпольнай арганізацыі робіць шырокія высновы. Ён ў прыватнасці выказвае меркаванне, што *"...члены организации происходят из различных районов Гродненской области (Гродно, Лида, Желудок), что свидетельствует о разветвленности организации. Программа или план действий говорят о том, что за этой организацией скрывается более опытная и подлая вражеская рука, чем поименованные члены орагнизации".*

С. Прытыцкі дакладваў у ЦК КП(б)Б аб тэрміновых мерапрыемствах абкама партыі ў сувязі з выкрыццём антысавецкай арганізацыі. Ён паведамляў, што *"Мною лично, (гэта значыць С. Прытыцкім), в известность поставлен начальник Облуправления МГБ тов. Сотский, которому предложено заняться указанной организацией. Предложено обкому ЛКСМБ провести закрытое бюро обкома и участников антисоветской организации исключить из рядов ВЛКСМ; созвать совещание в обкоме партии первых секретарей райкомов комсомола, на котором обсудить вопрос о повышении партийно-политической бдительности в комсомоле; на бюро обкома решено в первых числах июня провести пленум обкома КП(б)Б, на котором обсудить вопрос о выполнении постановления 5 пленума ЦК КП (б) Б и второй вопрос о руководстве комсомолом".*

З нагоды узгадваня С. Прытыцкім аб 5 пленуме ЦК КП(б)Б, адзначым, што пленум, які адбыўся ў Менску 9-10 ліпеня 1950 г. разглядаў пытанні аб працы камсамольскіх арганізацый Беларусі. На ім было адзначана, што *"ЦК КП(б)Б считает, что в работе ЦК, обкомов, горкомов и райкомов ЛКСМБ, первичных комсомольских организаций имели место серьёзные недостатки".*

Якія ж недахопы ў дзейнасці камсамольскіх арганізацыяў адзачыў Цэнтральны камітэт Кампартыі Беларусі. Вышэйшае партыйнае кіраўніцтва лічыла, што

*"...во многих комсомольских организациях республики неудовлетворительно поставлено дело политического воспитания молодёжи. ЦК ЛКСМБ, многие обкомы, горкомы и райкомы партии не обеспечили высокого качества работы комсомольских политикол и кружков, допускают фактическое распадение кружков и политикол".* І далей *"ЦК ЛКСМБ, многие обкомы, горкомы и райкомы комсомола плохо выполняют постановление 9 съезда ВЛКСМ о работе камсомола в школе, не рассматривают работу в школе как важнейший участок своей деятельности. Руководящие комсомольские органы не вникают в работу школ, слабо направляют деятельность комсомольских организаций на борьбу за глубокие и прочные знания, за укрепление дисциплины".* І, напэўна, самае галоўнае. Пленум прапанаваў *"Повысить действенность, остроту ленинской пропаганды среди молодежи западных областей республики, разоблачая в лекциях и докладах враждебную и подрывную деятельность остатков кулацко-националистических элементов и католического духовенства."*

Па ўсёй бачнасці, рашэнні пленума былі абумоўлены і фактам барацьбы, якую вяла моладзь заходніх абласцей супраць Савецкай ўлады. Вышэйшае партыйнае кіраўніцтва рэспублікі, безумоўна, вымушана было прымаць спешныя захады, каб перапыніць такую дзейнасць моладзі.

З гэтай нагоды трэба адзначыць, што праца камсамольскіх арганізацый сапраўды была "не туды". Лідская антысавецкая падпольная моладзевая арганізацыя была створана праз месяц пасля гэтага пленуму, можна сказаць, "у святле яго рашэнняў".

Пошукі *"более опытной и подлой вражеской руки"*, на якую ўказваў С. Прытыцкі, былі для НКУС справай больш важнай, чым разгром па сутнасці дзіцячай арганізацыі. Для эфектнай справаздачы патрэбны быў рэзідэнт. Падарункам лёсу для чэкістаў быў **Астап (Яўстафій Якаўлевіч) Каштан**, 1901 г. н., бацька Аркадзя Каштана. Яго арыштавалі праз два тыдні пасля арышту сына. Хто ж такі Астап Каштан, чаму ўзяліся менавіта за яго?

Распавядае **Кацярына Астапаўна Лянцэвіч:**

*- Бацька быў унікальны чалавек, **бязмерна аддадзены беларускай справе**. Ён па сутнасці не меў ніякай адукацыі, але меў выключныя музычныя*



**Славуты Зблянскі хор, закладзены ў свой час Астапам Каштаном**

*здольнасці. Пры Польшчы бацька сем гадоў быў **рэгентам хору ў Зблянскай царкве**. Наогул, Збляны былі вельмі спеўнай вёскай. Былі сем'і, дзе спявалі ўсе да апошняга чалавека. Тая ж маці Аляксея Логвіна спявала так, што любая оперная спявачка пазайздросціць магла.*

*Акрамя царкоўных спеваў Астап Каштан займаўся і свецкай дзейнасцю. Ён узначальваў зблянскае "Кулка млодзежы" (дазволеныя польскімі ўладамі моладзевыя гурткі). Зблянскае "Кулка ..." вяло шырокую беларускую асветную дзейнасць- ставілі драматычныя пастаноўкі: "Прымакі", "Чорт і баба" ды інш. Ездзілі ў Вільню да Рыгора Шырмы, прывозілі зборнікі беларускіх песень. У школе не дапускалі ксендза да выкладання рэлігіі, патрабавалі, каб гэта рабіў бацюшка.*

*У 1939 Астапа Каштана забралі па мабілізацыі ў польскае войска. Ваяваў ён за Польшчу некалькі гадзін. Вайна пачалася 1-га верасня. 1-га ж верасня Астап Каштан і трапіў у нямецкі палон.*

*У палоне было не мёд. Выручалі музычныя здольнасці. "Музыка мой лёс, яна мяне карміла, паіла, ад расстрэлу ратавала", - гаварыў Астап Каштан. Акрамя таго, што ён граў і спяваў, ён быў яшчэ і скрыпічны майстар. Першую самаробную скрыпку ён зрабіў у 14 гадоў. Меў у сваёй біяграфіі Астап Каштан і эпізод, пра які прасіў сваіх сямейнікаў маўчаць да самай яго смерці. Эпізо-дам гэтым быў рамонт скрыпкі Паганіні. Дзе, для каго? Пра гэта ўжо мы не даведаемся.*

*У канцэнтрацыйных лагерах немцы сабралі ўвесь свет. Каб вязні менш думалі пра ўцёкі ды іншы супраціў, немцы дазволілі і, нават, заахвочвалі стварэнне гурткоў мастацкай самадзейнасці. Першымі адгукнуліся на нямецкі пачын украінцы. Яны сабралі свой гурт, а потым сталкаваліся з немцамі, што няблага было б, каб да іх далучыліся іншыя нацыянальнасці. Аднойчы ўкраінцы з'явіліся ў беларускі барак і пачалі пытацца, ці ведаюць беларусы свае песні, сваіх пісьменнікаў і паэтаў. Але беларусы маўчалі. "Ды яны ж цёмныя, нічога не ведаюць, нічога не ўмеюць. Не дарэмна іх палякі быдлам абзываюць. Быдла і ёсць." "Як вы можаце абражаць цэлы народ? - абурыўся Каштан. - Я адзін пераспяваю ўвесь ваш гурт, пры гэтым буду спяваць толькі ўкраінскія песні." Пераспяваў ці не, але пасля гэтага ён часта выступаў разам з украінцамі на канцэртах, за што вязняў кармілі, здаралася нават, у рэстаранах".*

Выбавіўся Астап Каштан з палону ў 1942 годзе.

Пасля вызвалення Ліды ад немцаў пайшоў працаваць у горад на чыгунку.

Таму лепшай кандыдатуры на "рэзідэнта" ў НКУС быць не магло: любіць беларускае -**бела-**



**Астап Каштан з сынам Аркадзем і дочкамі Кацярынай і Марыяй**

**рускі нацдэм**, быў рэгентам царкоўнага хору - **клерыкал**, быў у палоне - **завярбованы**, кім? - не важна.

Астапа Каштана не проста дапытвалі, каталі з усёй жорсткасцю, падвешвалі за ногі да столі, залівалі ў ноздры ваду і г. д.

Распавядае **Кацярына Астапаўна Лянцэвіч:**

*"Хлопцы даведаліся, што "шыюць" бацьку Аркадзя, і дружна запатрабавалі вочнай стаўкі. На вочнай стаўцы ўсе дружна заявілі, што гэты "малапісьменны" селянін ніяк не мог быць іхнім кіраўніком.*

*Калі бацьку забіралі, ён сказаў мне, што забяруць і мяне, каб рыхтавала сухары, і цёплыя рэчы. Аднак мяне не забралі. Недалёка ад нас жыў камуніст Кастусь Мяшкевіч, малапісьменны бядняк. Яму даручылі сачыць за мной. Дзеці Мяшкевіча вучыліся ў мяне, часта прыходзілі дадому для дадатковых заняткаў. Я іх трошкі падкормлівала. Заглядваў сяды-тады і Мяшкевіч, нібыта па дзяцей. Але, мабыць, нічога дрэннага не дакладваў, бо мяне не зачапілі. Затое "дасталі" мужа. Выклікалі на партыйны сход.*

*- Ты ведаеш за што засудзілі твайго швагра?*

*- Вы судзілі, вы і ведайце.*

*- Кладзі партыйны білет.*

*- Не вы мне яго давалі.*

*- Ты звязаўся з сям'ёй ворагаў народа."*

Партыйны білет забралі. Праўда, потым вярнулі, але нічога не забыліся. Праз некаторы ў Сцяпана Лянцэвіча, які працаваў бухгалтарам, знайшлі недастачу і ўпаялі тры гады, за якія ён тую недастачу адрабіў. Паколькі савецкі зняволены ніяк не мог у турме зарабіць больш 50 рублёў у месяц, а за 36 месяцаў Лянцэвіч сваю растрату адрабіў, то была яна не больш 2 тысяч, але мусіў тры гады парыцца за калючым дротам, хаця на свабодзе адрабіў бы тую растрату нашмат хутчэй.

Неўзабаве пасля вочнай стаўкі Астапа Каштана адпусцілі. Але ён не спадзяваўся на тое, што яго пакінуць у спакоі. Сабраўся і выехаў у Марыупаль (Жданаў). Пражыў там недзе да 1980-га года, але не вытрымаў, вярнуўся, апошнія 10 гадоў жыў у Зблянах. Тут і памёр.

Без памяці любіў усё беларускае. У адзін з прыездаў убачыў беларускі гімн з нотамі, ажно заплакаў, схапіў гітару і тут жа сыграў гімн на гітары.

Праз паўгода следства было скончана. Вельмі гучнай справы не атрымалася, і яе перадалі ў суд. Пра суд у Гародні распавядае **Кацярына Астапаўна Лянцэвіч:**

*"Позву на суд нам не прысылалі, але прыслалі Логвінам, мабыць таму, што Логвін быў непаўналетнім. Нам перадалі, калі і дзе будзе суд, і мы паехалі. У Гародні аказалася, што суд "па справе Салдаценкава" (так афіцыйна называўся гэты працэс) закрыты, і нас у залу судовага паседжання не пусцілі. Мы стаялі ў калідоры. За бутэльку самагонкі вартавы міліцыянт дазволіў нам па чарзе падглядваць у замочную шчыліну і слухаць пад дзвярыма.*

*Мая чарга глядзець у шчыліну прыпала на момант, калі выступаў Салдаценкаў.*

*- Чаму вы судзіце нас на закрытым паседжанні? Чаму вы баіцеся сказаць усяму народу, у чым нашая віна? Якія мы здраднікі, калі мы хочам, каб людзям жылося лепей? Гэта вы здраднікі. Вы здрадзілі ленінскім ідэям. Вы адабралі зямлю ў сялянаў. Вы давялі краіну да голаду.*

*Салдаценкаў схапіў табурэтку і запусціў яе ў пракурора.*

*На гэтым судовае паседжанне было скончана. Дасуджвала хлопцаў ужо асобая нарада, так званая "тройка". Як казаў пасля адвакат, у Гародні павінны былі даць Салдаценкаву 12 гадоў, іншым паўналетнім па 8 гадоў, непаўналетнім па 6 гадоў. "Тройка вырашыла ўжо па іншаму. **Салдаценкаў, Параваеў, Казлоўскі і Каштан** атрымалі па **25 гадоў**. **Логвін і Мазурок**, як непаўналетнія атрымалі па **10 гадоў**."*

У прыватнасці дакументальна пацверджана, што А. Логвін быў асуджаны 23-24.10.1951 г. па артыкулу 63-1, 76 КК БССР.

Гаворыць **Аляксей Логвін:**

*- Пасля прыгавору трапіў у Мардоўскі лагер у Поцьму. Неяк нядаўна па расійскім тэлебачанні яго паказвалі, цяпер у ім сядзяць прыгавораныя да пажыццёвага зняволення. Пазней я быў пераведзены ў Варкуту, працаваў там на шахтах, затым - Джэзказган. Спецлагеры – гэта лагеры, дзе ўтрымоўваліся выключна "палітычныя" вязні, іх нават у спецвагонах дастаўлялі да месца, відаць каб крамола да асуджаных па іншых артыкулах не перадавалася.*

*Можна было атрымаць або напісаць два лісты ў год. Працаваў на лесапавале, у Омску на падземных работах, дзёўб вечную мерзлату... Затым была амністыя. Наогул, пасля смерці Берыі сядзець стала лягчэй, асаблівага голаду не было, а ў канцы пачалі, нават, грошы за работу плаціць. Толькі вось мясцовае насельніцтва лічыла нас фашыстамі, пры сустрэчы людзі адварочваліся, разлічваць на дапамогу з іх боку ў той час не даводзілася. Якія ж мы былі фашысты, калі думалі пра лепшую долю для свайго народу. Разам са мной сядзелі простыя сяляне, "заходнікі", былі і "лясныя браты", былі відныя людзі мастацтва: оперны спявак з Балгарыі Фёдар Громаў, тэнар ленінградскага тэатра Пячнеўскі. Па першым часе ахова лютавала. Пры малейшай заварушцы страляла з вышак з кулямётаў наўпрост па бараках. Кулі*


[redacted] 1-ВЖ

СПРАВКА

Лида

Правы бок даведкі аб вызваленні Аляксея Логвіна



Левы бок даведкі аб вызваленні Аляксея Логвіна

*прашывалі іх наскрозь. Потым выносілі тых, у каго яны патрапілі.*

У Омску ў Логвіна надарыўся апендыцыт і абсцэс пад печанню. Ляжаў у лазарэце. Аперацыю рабілі хірургі Красільнікаў і Сінельнікаў. Стан быў вельмі цяжкі, але як пачуў, што памёр Сталін, адбыўся прыліў сілаў, і хлопец пайшоў на папраўку. Было яму тады 18 гадоў.

З 10 гадоў Аляксей Логвін адсядзеў 3 гады і 7 месяцаў. Быў вызвалены 20 снежня 1954 года па амністыі.



**Здымак адразу пасля вызвалення з лагера ў 1954 годзе. Злева А. Логвін.**

*- Мне дзяржава ў асобе вайсковага трыбуналу мае думкі даравала,* - казаў Аляксей Міхайлавіч.

У 1979 годзе Аляксей Логвін быў цалкам рэабілітаваны з фармулёўкай ***аб адсутнасці ў дзеяннях складу злачынства.***

Прыехаў дадому, не паспеў агледзецца забралі ў Данбас. Прабыў у Данбасе 3 гады. У пачатку 60-х Аляксей Логвін жаніўся з Марыяй Аляксандраўнай Ненартовіч з вёскі Каршакі Дзятлаўскага раёна. Нарадзілася двое сыноў: Юра і Коля. Паралельна А. Логвін паступіў у Палітэхнічны інстытут, працаваў на будоўлі. Прарабам у яго быў будучы старшыня Лідскага гарвыканкаму У. Логаш. Па стану здароўя перайшоў на працу ў гандаль. У 1965 годзе трапіў пад кампанію па барацьбе з



**Аляксей Логвін у пас. Гарняцкі (Данбас), 14.08.1956 г.**



*Аляксей Логвін (злева) к Данбасе*



*Прэзідэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла з Агатай Логвін, унучкай Аляксея Логвіна*



*Адмова ў памілаванні Аляксею Логвіну на падставе мінулай судзімасці*



*Злева направа Юра Логвін, Агата Логвін, Івонка Сурвіла, Марыя Логвін з Нінай*

хабарнікамі. Зноў быў асуджаны на 10 гадоў. Гэтую дзесятку адсядзеў у Оршы ад званка да званка.

Пасля вызвалення працаваў у Лідзе. Захапляўся шахматамі. Як было сказана, стаў кандыдатам у майстры спорту.

Жонка, Марыя Аляксандраўна, жыве ў Лідзе.

Сын, Мікалай Логвін, жыве ў Клайпедзе, працуе ў страхавой кампаніі. Мае трое дзяцей.

Сын, Юра Логвін, жыве ў Атаве (Канада), мае дачку.



*Юра Логвін у беларускай супольцы ў Атаве*

Памёр Аляксей Логвін 12 студзеня 2004 г.





*Пахаванне Аляксея Логвіна*

Распавядае **Кацярына Астапаўна Лянцэвіч:**

*Сядзеў Аркадзь у Варкуце. Працаваў на шахце. Умовы былі надзвычай цяжкія. Вязні пастаянна знайходзіліся паміж жыццём і смерцю. У Варкуце трымалі разам палітычных і крымінальнікаў. Гэта яшчэ больш ускладняла жыццё. Праз некаторы час Аркадзь пачаў слабець, перастаў выконваць норму. Пачалі горш карміць. Стаў слабець яшчо больш. Неўзабаве аказаўся ў разрадзе лагерных дахадзяг. Жыць заставалася мо колькі тыдняў. Але яшчэ было на жыццё.*



***Першы злева Аркадзь Каштан, у цэнтры яго выратавальнік Аляксандр Барташэвіч***

*З новым этапам у лагер прыгналі Аляксандра Барташэвіча з Парэчча, што пад Гародняй. Ён таксама быў палітычным. Забралі з нейкага гарадзенскага інстытута проста з лекцыі. Гэта быў здаравенны хлопец за 1,80 метра ростам, шырачэзны ў плячах. Яму сказалі пра Аркадзя, якога крымінальнікі да таго ж паспелі ўжо і ў карты прайграць.*

*Барташэвіч уладзіў справу, пачаў адпойваць Аркадзя вадой з цукрам і так падняў на ногі, фактычна выратаваў ад непазбежнай смерці."*

Сазонт Мазурок сядзеў у Джэзказгане. Распавядае **Людміла Гербертаўна Мазурок:**

*"Далі яму дзесяць гадоў. Лістоў мне ён не пісаў. Яму можна было напісаць мо адзін ліст у год, і ён пісаў маці. Сядзеў ён "па малалетцы". Адразу, як малалетка, адмовіўся працаваць. Білі моцна, на карку ажно нарасты засталіся ад пабояў, але працаваць не прымусілі. Ганарыўся потым: "Я на іх не працаваў." Маці яго ўсюды пісала, скардзілася. Яна была адзінокая, а тады закон быў, каб ад адзінокіх апошняе дзіця не забіраць. Выпусцілі яго недзе гады праз тры, але праз некаторы час забралі ў войска. Служыў у Камышлове на Урале. Маці ізноў пачала пісаць, скардзіцца, і неўзабаве Сазонт вярнуўся. Скончыў 9 і 10 клас вячэрняй школы і курсы геадэзістаў. Так і працаваў геадэзістам у Лідскім БТІ, пазней на іншым месцы.*

*Мы пажаніліся пасля яго прыходу з войска. Маем дзвюх дачок: Свету і Лену, трое ўнукаў. Абедзве дачкі жывуць у Лідзе."*



***Сазонт Мазурок у Джэзказгане, 1954 г.***



***Аляксей Логвін і Сазонт Мазурок пасля вызвалення з лагераў***



***Сазонт Мазурок у Камышлове, 1956 г.***



***Сазонт Савіч Мазурок з жонкай Людмілай Гербертаўнай і дочкамі Светай і Ленай***

Памёр Сазонт Мазурок 14 сакавіка 1990 года, не дажыўшы 4 гады да пенсіі. Быў рэабілітаваны недзе за 3-4 гады да смерці.

Казлоўскі сядзеў у Комі. Пасля вызвалення таксама трапіў у Данбас.



***Аляксей Логвін і Фёдар Казлоўскі ў Данбасе, 1956 г.***

Распавядае **Кацярына Астапаўна Лянцэвіч:**

*"Пасля вызвалення недзе ў 1955-ым ці 1956 годзе Аркадзь вярнуўся ў Збляны. Але кляймо ворага народа жыць не давала і тут. Нікуды не бралі на працу. Не бралі, нават, прыцэпшчыкам на трактар. Паспрабаваў паступіць вучыцца на трактарыста, не ўзялі. І гэта з поўнай сярэдняй адукацыяй.Але ж ён быў дома. Спачатку дазволілі граць у клубе, пасля і афармілі ад калгаса музыкай пры клубе. Дырэктар Зблянскай школы на свае страх і рызыку дазволіў Аркадзю весці спевы і музыку ў школе. Гадзіны яго пісалі на мяне."*

Аркадзь завочна паступіў у Гарадзенскую музнавучальню. Калгас купіў яму баян. Самому купіць не было за што. Потым баян ужо асабіста яму падаравалі за выступ на нейкім конкурсе.

Скончыўшы курсы калгасных баяністаў вёў спевы і музыку ў Жалудку, Ходараўцах і Парэччы. Яго сябар па курсах, які аказаўся на працы ў аддзеле культуры Свіслацкага райвыканкаму, запрасіў Аркадзя на вакантную пасаду дырэктара музычнай школы ў Поразава, куды ён з ахвотай і паехаў. Стала спакайней і для жонкі Кацярыны Аляксандраўны і для дзяцей.

Але мінулае не адпускала. Недзе ў годзе 1989 годзе яно вярнулася ў выглядзе дваіх у цывільным, якія ізноў сказалі збірацца і павезлі ў Гародню.

Распавядае **Кацярына Астапаўна Лянцэвіч:**

*"Завялі, здаецца, у КДБ. Вядуць па калідоры. Аркадзь пытае: "Рукі за спіну?" - "Пакуль не трэба." Завялі ў кабінет і зачыталі паперу, паводле якой ён цалкам рэабілітаваны, і Савецкая ўлада просіць у яго прабачэння.*

*Выйшаў адтуль ён сам. Сам даехаў да Поразава. Дадому ўжо прывялі. Інсульт. Цяжкая форма. Год не памятаў сябе.*

*Савецкая ласка аказалася страшней за савецкую кару.*

*Праз год свядомасць вярнулася, але не дзейнічала левая рука. Не мог больш граць на баяне. Да пенсіі ў музычнай школе яго датрымалі. Пакуль быў здаровы, будаваў сабе дом у Зблянах, але дзеці ўладкаваліся ў Ваўкавыску: сын Алег працуе на заводзе, дачка Вольга скончыла інстытут па гандлёвай спецыяльнасці і працуе на базе. Чацвёра ўнукаў. Дом у Зблянах прадаў. Купіў хатку ў Ваўкавыску. З дапамогай дзяцей давёў да ладу. Там, у Ваўкавыс-*



***Аркадзь Каштан з вучнямі і настаўнікамі Зблянскай школы***

*ку і памёр 12.07.2003 года. У Ваўкавыску і пахаваны."*

**Салдаценкаў** пасля вызвалення працаваў інжынерам у Калінінградзе. Рэабілітаваны 8.05.1979 г.

**Казлоўскі Фёдар** жыў у Баранавічах. Памёр.

Нічога не вядома пра **Параваева**.

Сябры арганізацыі, якія пазбеглі суда жывуць яшчэ і сёння ў Бердаўцы, у Бярозаўцы.

Не бліскуча склаўся лёс і ў тых, хто выступаў у якасці сведак і пазбег суда. Савецкая ўлада за "заслугі" ў даносах на сваіх паплечнікаў дала магчымасць Юрыю Хадыку і Бычаку пастуціць у вайсковыя навучальні.

Апавядае **Марыя Аляксандраўна Логвін**:

*- Хадыка і Бычак закончылі вайсковыя навучальні. Хадыка быў жанаты на буфетчыцы. Узяў на выхаванне чужых дзяцей: дзяўчынку і хлопчыка. Прыходзіў, прасіў прабачэння. Каяўся. Казаў: "Лепш бы я з вамі тады сеў".*

*Бычак спіўся. Прыехаў сюды. Жонка адправіла ўслед кантэйнер з адным шынялём. Хадзіў пабіраўся.*

Незадоўга да смерці **Аляксей Логвін** гаварыў:

*- Калі вы чакаеце ад мяне словаў шкадавання за памылкі маладосці, то дарэмна. Тое, што не ўдалося вывучыцца мне, зрабілі мае дзеці, і так здорава ў іх гэта атрымалася, што мне застаецца толькі радавацца. Многае з таго, пра што мы марылі паўстагоддзя назад, сёння ўжо стала рэальнасцю. Так што, выходзіць, не такія ўжо мы былі наіўныя, не такія дурныя. Я ўдзячны жыццю за магчымасць сёння аспрэчваць ці згаджацца з выказваннямі тога ж Салжаніцына, таму што я знаёмы не па кнігах і газетах з тым, пра што гаворыць выдатны пісьменнік. І, наогул, калі будзеце пісаць артыкул, я не хацеў бы выглядаць у ім гэтакай ахвярай.*

Аналіз архіўных матэрыялаў, іншых крыніц дае падставы сцвярджаць, як ужо адзначалася, што гісторыя беларускага моладзевага супраціву існаваўшаму рэжыму, барацьба за нацыянальныя ідэі ў пасляваенны час ў поўным аб'ёме не вывучана і не напісана. Бясспрэчна адно, разам з афіцыйнымі камсамольскімі арганізацыямі паралельна ствараліся і існавалі падпольныя антысавецкія моладзевыя арганізацыі. Аналіз тых нешматлікіх звестак аб іх дзейнасці паказвае, што яны ствараліся пераважна стыхійна, асобна адна ад другой ў розных населеных месцах захаду Беларусі. Але падсумоўваючы ўжо назапашаны гісторыкамі матэрыял магчліва адзначыць, што ўзнікненне моладзевых падпольных антысавецкіх арганізацый ў Слоніме, Наваградку, Паставах, Глыбокім, Мядзелі, Смаргоні і, як распавядалася вышэй, у Лідзе – гэта не выпадковая з'ява, а звёны аднаго ланцужка – шырокамаштабнага моладзевага супраціву на захадзе Беларусі, які не перарос у адкрытыя выступленні, але і не знік з памяці і свядомасці.

Аналізуючы дзейнасць маладзёвых арганізацый неабходна зазначыць, што адметнай рысай моладзевага антысавецкага супраціву з'яўлялася выключна мірная форма супраціву. Наўпраставай узброенай пагрозы існаму рэжыму моладзь не ўяўляла. Але найбольшая пагроза, і гэта добра асэнсоўвала ўлада, заключалася ў тым, што вучні, студэнцкая моладзь думала інакш, дзейнічала інакш, верыла ў іншыя ідэалы, чым астатнія людзі. Вось гэта і было самым страшным і небяспечным для рэжыму таму, што забараніць моладзі думаць таталітарная ўлада хацела, але не ўмела. Менавіта па-гэтаму яна так жорстка і бязлітасна распраўлялася з удзельнікамі ўсіх моладзевых арганізацый.

У адрозненні ад лёсаў былых камсамольскіх герояў савецкага часу, у гонар якіх узводзіліся помнікі, адкрываліся мемарыяльныя шыльды, называліся вуліцы і калгасы, лёсам удзельнікаў падпольных моладзевых арганізацый сталася забыццё. Іх імёны, прозвішчы, дзейнасць на доўгія гады былі выкрэслены з памяці. Але ж гэта, неад'емная частка нашай нацыянальнай гісторыі, і тое, што маладзёвы антысавецкі супраціў вывучаецца, аналізуецца, узгадваецца, мо ёсць пакуль яшчэ сціплы помнік іх дзейнасці. І будзем спадзявацца, што найлепшым помнікам моладзеваму супраціву будзе вывучэнне і напісанне сапраўднай гісторыі гэтай з'явы, якая зойме належнае месца ў найноўшай гісторыі незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

***Нам удалося даволі падрабязна прасачыць жыццёвы шлях траіх удзельнікаў падпольнай моладзевай арганізацыі ў Лідзе.***

***Калі нам удасца знайсці звесткі пра іншых падпольшчыкаў, тых, каго судзілі, і тых, хто суда пазбег, мы вернемся да гэтай тэмы.***

*Матэрыялы сабраў*
*і падрыхтаваў да друку*
*Станіслаў Суднік.*

**Літаратура:**

**Вольга Вялікая.** Дзейнасць падпольнай моладзевай антысавецкай арганізацыі ў г. Лідзе. Наша слова № 14 (399) 7 красавіка 1999 г., Наша слова № 15 (400) 14 красавіка 1999 г.

**А. Соленков.** Перчатка в лицо великому Сталину. Лідская газета, 13 красавіка 2002 г.

***Мікола Дзікевіч***

# ДЗ І Т Р Ы К І

## згукі заснуўшай цывілізацыі

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

У жыцці вёскі год 1944 быў пераломным. Да яго сяльчане назапашвалі багацце, гаспадары сталелі. Набіраліся розуму. Будаваліся, багацелі душою. Зараз малодшых забралі ў войска, іншыя пайшлі працаваць на чыгунку, на фабрыкі і заводы. Праўдамі і няпраўдамі атрымлівалі пашпарты, "Здабывалі" гарадскую прапіску, заставаліся там жыць.

Я аднавіў схему хутароў на пачатак лета 1944 года. З таго часу хутаране пераязджаюць у гарады. За сабой перавозяць хаты.

Ніжэй называю прозвішча, імя і імя па бацьку, калі гэта магчыма. Гаспадароў, усяго жыхароў з іх мужчын і жанчын, якія жылі ў той час у хаце:

1.Буйніцкі Вікенці Іосіфавіч: 4 (2+2).
2.Чылек Канстанцін Іванавіч: 5 (3+2).
3. Буйніцкі Рыгор Міхайлавіч: 7 (3+4).
4. Хрышчановіч Іосіф Іосіфавіч: 7 (5+2).
5. Кухарскі Нікадзім Іосіфавіч: 2 (1+1).
6. Кухарскі Уладзімір Іосіфавіч: 4 (2+2).
7. Кухарскі Міхаіл Іосіфавіч: 4 (2+2).
8. Казлоўскі Франц Адольфавіч: 4 (2+2).
9. Грынь Канстанцін Кандратавіч: 4 (2+2).
10. Грынь Пётр Кандратавіч: 4 (2+2).
11. Хучкевіч Антон Іосіфавіч: 5 (2+3).
12. Урбановіч Балясаў: 6 (4+2).
13. Шулейка Аляксандр: 4 (3+1).
14. Лукашэвіч Уладзімір Якаўлевіч: 4 (2+2).
15. Лумінскі Канстанцін Міхайлавіч: 4 (1+3).




***Схема дзітрыкаўскіх хутароў***

16. Мулінскі Аляксандр Міхайлавіч: 6 (3+3).
17. Буйніцкі Уладзімір Кандратавіч: 6 (4+2).
18. Буйніцкі Мікалай Мікалаевіч: 4 (3+1).
19. Кухарскі Уладзімір Іванавіч: 3 (2+1).
20. Кухарскі Міхаіл Іванавіч: 4 (2+2).
21. Лукашэвіч Канстанцін Якаўлевіч: 4 (2+2).
22. Хрышчановіч Канстанцін Іосіфавіч: 2 (1+1).
23. Хрышчановіч Леакадзія Алякс-ўна: 2 (0+2).
24. Буйніцкі Пётр Іванавіч: 4 (2+2).
25. Буйніцкі Якуб Іванавіч: 4 (3+1).
26. Лукашэвіч Іосіф Іванавіч: 6 (4+2).
27. Сівіцкая Мальвіна Іванаўна: 4 (3+1).
28. Урбановіч Уладзімір Іванавіч: 6 (5+1).
29. Урбановіч Антон Іванавіч: 2 (1+1).
30. Буйніцкая Анісія Іванаўна: 1 (0+1).
31. Буйніцкі Міхаіл Гаўрылавіч: 3 (1+2).
32. Буйніцкі Іван Міхайлавіч: 2 (2+0).
33. Урбан Мікалай Аляксандравіч: 1 (1+0).
34. Чыжык Міхаіл Міхайлавіч: 3 (1+2).
35. Чыжык Іван Міхайлавіч: 5 (2+3).
36. Урбановіч Саніслаў: 5 (2+3).
37. Федзюкевіч Вікенці Міхайлавіч: 4 (1+3).
38. Буйніцкі Браніслаў Іванавіч: 3 (1+2).
39. Буйніцкі Канстанцін Іванавіч: 4 (3+1).
40. Урбановіч Карл Ігнацевіч: 9 (6+3).
41. Пыляк Міхаіл: 6 (2+4).
42. Дзікевіч Ганна Міхайлаўна: 6 (3+3).
43. Буйніцкі Іван Міхайлавіч: 2 (1+1).
44. Мулінскі Аляксандр Алякс-віч: 6 (3+3).
45. Сівіцкі Сцяпан Іванавіч: 4 (1+3).
46. Федзюкевіч Канстанцін Канст-віч: 4 (2+2).
47. Лукашэвіч Ясь: 4 (1+3).
48. Лукашэвіч Марыя: 2 (0+2).
49. Макарэвіч Адам: - -
50. Мулінскі Іосіф Сцяпанавіч: 4 (1+3).
51. Лукашэвіч Вікенці Якаўлевіч: 4 (2+2).
52. Мулінскі Сцяпан: 7 (3+4).
53. Мулінскі Аляксей Іванавіч: 4 (2+2).

Пад нумарам 49 значыцца хутар Макарэвіча Адама. Пра яго сына Федзю я пісаў раней. Былі ў яго браты Мікалай і Лёня. Колю, калеку з дзяцінства, забілі "белыя". Зімою сям'я жыла на хутары ў вёсцы Навасады, а летам бацька пераганяў жывёлу ў нашую вёску. Тут быў пабудаваны хлеў, пры ім – кухня з печчу. Вакол хлява быў лапік зямлі. Кароў даглядалі па чарзе. Вясной і восенню Федзя жыў тут і хадзіў са мною ў Ганчарскую школу.

Пры пераходзе на хутары адзінаццаць гастадарак раздзяліліся: дзе брат з братам, дзе бацька выдзяліў нейкую долю зямлі для старэйшага сына. У вёсцы ўтварыліся 53 гаспадаркі.

Падлік жыхароў за 1944 год паказвае, што іх у вёсцы стала не на многа менш Тут дапускаю некаторую памылку на пяць чалавек больш або менш. З канца 1937 года пайшло амаль шэсць з паловай гадоў. Зразумела, што павінна быць значнае павелічэнне насельніцтва Аднак ваенныя ліхалецці пакінулі сваю адзнаку. Асабліва паменшылася мужчын – на 12, жанчын стала больш – на 9.

У апошні час высветліў, што ў першыя дні акупацыі Мулінскі Фёдар Сцяпанавіч, 1920 года нараджэння (працаваў на чыгунцы) 29 чэрвеня 1941 года быў схоплены ў палон немцамі па дарозе дамоў. Сядзеў у Лідскай турме. Памёр у Германіі. Там і пахаваны. Тады Мулінскі Іван Іванавіч (працаваў на гаспадарцы) таксама быў узяты ў палон. Прапаў без вестак. Падобная доля напаткала Лукашэвіча Уладзіміра, Сівіцкага Уладзіміра (Багеся) і яго братоў Канстанціна і Аляксандра.

Вясной 1943 года на хутары вёскі Жомайдзі ў хаце немцамі быў забіты Хартановіч Валерык. Тады немцы ў хаце знайшлі вінтоўку. У той дзень з нашай вёскі немцы вывездлі ў Германію Буйніцкага Ігара Міхайлавіча (звалі яго Гірыкам) за сувязь з партызанамі. У няволі пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай і ў 1945 годзе вярнуўся на яе радзіму на Украіне.

## Шосты перыяд: ліпень 1944 года – 1950 год. Перамога над фашызмам і надзеі на лепшае.

Пасля трох дзён безупыннага адступлення немцаў па шашы Ліда-Беліца наступіла зацішша. Некалькі дзён на захад напрасткі групкамі па два-чатыры ішлі немцы. Есці яны не прасілі, хутары абыходзілі. Ноччу на нашай і суседняй сенажацях расфармавалася ўласаўская частка. Мужчыны пакінулі з вазамі сваіх жонак і дзяцей. Пазней паводле расказаў удзельнікаў гэтых падзей мы даведаліся, што яны здаліся прадстаўнікам Чырвонай Арміі. Мужчыны былі прымусова прызваны ў часткі Уласава. Адправілі іх у штрафныя роты. Многія пасля ранення вярнуліся ў нашыя мясціны, пачалі працаваць на чыгунцы, у калгасах. Іх дзеці жывуць і працуюць зараз у нашым раёне. Частка мужчын, демабілізаваўшыся, з сям'ямі, паехала на сваю радзіму ці другое месца.

Потым стала вядома, што частка была заўважана савецкімі лётчыкамі. Ноччу ўласаўцы падпалілі некалькі хатаў у вёсцы Агароднікі, пры пад'ездзе да жамайскіх могілак, самалёты абстралялі іх і скінулі дзве бомбы, пра што я пісаў раней. Дарога на захад была перакрыта. Баранавічы вызвалены Чырвонай Арміяй, Ліда – таксама. У Беліцы адбыўся першы бой выведнікаў з немцамі. Уласаўцы засталіся ў "мяшку". Разбройваліся яны амаль побач з тым месцам, дзе затрымалася нямецкая частка ў пачатку вайны. Косячы, пасучы каровы аднавяскоўцы знаходзілі нямецкія металічныя стужкі ад кулямётаў: патро-

ны для карабінаў і рознае дамашняе начынне.

У канцы ліпеня аб'явіліся на вёсцы старшыня селькама, упаўнаважаны ад міліцыі. Працаўнікі селькама наспех складалі гаспадарчыя кнігі. Згодна з дакументамі, з паведамленняў гаспадароў (не абыходзілася і без "актывістаў" вёскі) заносілася ў кнігі колькасць асоб у сям'і, зямлі, сенажаці, пабудоў і жывёлы. У канцы чэрвеня гаспадары атрымалі паведамленні – абавязацельствы аб здачы збожжа і бульбы ў дзяржаву. Нормы былі высокімі. Збожжа ссыпалі ў склад, абсталяваны ў былой яўрэйскай гасцініцы ў вёсцы Сялец. Бульбу буртавалі каля станцыі Нёман.

Пазней стала зразумелым, чаму частку бульбы адпраўлялі ў мяшках. Пайшла яна на патрэбы горада Ліды. Мяшкі ў гаспадыняў былі вялікімі (насыпалі да 100 кілаграмаў бульбы), новыя і моцныя. Бульбу адвезлі, а вось мяшкоў не стала. Засталіся старыя і рваныя. Увесь год гаравалі жанчыны, пакуль не наткалі новага матэрыялу.

Пачалося бальшавіцкае дзяленне на бедных і багатых. Кумаўство, застоллі садзейнічалі павелічэнню паставак у дзяржаву для "багатых", калі іх тады можна было так назваць. У нас і іншых гаспадароў парвалі першыя абавязацельствы і прымусілі здаваць другую норму, пры чым вызваліўшы сваіх сяброў і "бедных". Дзесьці ў пачатку зімы гаспадары атрымалі павесткі на аплату грашовых падаткаў.

Гаспадарчая праца прадаўжалася. Нягледзячы на адыход мужчын у Ліду, на чыгунку, у армію – поле зааралі і пасеялі зімовыя культуры. Восенню 1944 года ў Чырвоную Армію прызвалі Кухарскага Нікадзіма Іосіфавіча, Федзюкевіча Канстанціна Канстанцінавіча. Мулінскага Канстанціна Міхайлавіча, Мулінскага Аляксандра Міхайлавіча. Буйніцкага Рыгора Міхайлавіча. Вярнуліся з вайны яны здаровымі, толькі Мулінскага Костуся паранілі ў далонь.

Лукашэвіч Аляксандр Іосіфавіч нарадзіўся ў 1908 годзе, працаваў на гаспадарцы, прызываўся ў 1944 годзе, шараговец. Загінуў у 1945 годзе ў Германіі.

Лукашэвіч Віктар Іосіфавіч нарадзіўся ў 1923 годзе, працаваў на гаспадарцы, прызываўся у 1944 годзе, шараговец. Загінуў у 1945 годзе ў Германіі.

Такі аповяд пачуў ад Федзюкевіча Косці: *"У жніво атрымаў павестку з'явіцца ў Лідскі ваенкамат. З маршавай ротай каля дзвюх тысяч прызыўнікоў рушылі ў кірунку Баранавіч. У вёсцы Ганчары адпрасіўся дамоў, назапасіў харчоў, пераначаваў і раненька сустрэўся з ротай у вёсцы Агароднікі, дзе яны адпачывалі чыгунка не дзейнічала і мы за сем дзён зайшлі ў Баранавічы. Далей цягніком да станцыі Жабінка. У лесе, у былых нямецкіх зямлянках вучылі мінамётнай справе да кастрычніцкіх святаў. Там адсвяткаваў іх. Пасля перакінулі пад Варшаву, з баямі бралі Радом. У берлінскай аперацыі наша частка рухалася лявей Бярліна ў абыход, каб перарэзаць адступленне на поўдзень фашысцкіх ваякаў. Ваяваў салдатам, а дэмабілізаваўся сяржантам з Усходняй Прусіі. Працуючы пазней на чыгунцы не раз бачыў маршавыя роты, калі пераходзілі па часовай дашчанай кладцы на старым узарваным мосце".*

А вось што пісала раённая газета: *"Камандзір разліку станкавага кулямёта Нікадзім Кухарскі мужна і смела ваяваў пры ліквідацыі Клейсінскага гарнізона. Побач з ім страляў кулямёт наводчыка Уладзіміра Карабача з Барвіч".*

Геройскі змагаліся супраць агульнага ворага Урбановіч Антон Карлавіч, Урбановіч Вацлаў Уладзіміравіч, Буйніцкі Філіп Міхайлавіч у складзе Войска Польскага. Усе яны працавалі на гаспадарцы і прызываліся ў 1944 годзе. Шараговец Урбановіч Антон 1925 года нараджэння загінуў у траўні 1945 года ў Германіі. Урбановіч Вацлаў і Буйніцкі Філя засталіся ў Польшчы. Не высветлена, пры якіх абставінах у Польшчы застаўся Буйніцкі Павел Міхайлавч.

У другой палавіне ліпеня 1944 года я пачаў працаваць рамонтным рабочым на чыгунцы ў брыгадзе Стальманука Міхаіла Філіпавіча. Жыў ён у супраўшчанскай будцы ў вялікай сям'і. Закончыў Ганчарскую польскую сямігадовую школу. З малых гадоў разам з бацькам працаваў на чыгунцы. Добра ведаў сваю справу. Чалавек лагодны, дабразычлівы. Іграў на гармоніку. Яго звалі на вечарыны, вяселлі, хрысціны. Ніколі не адмаўляў і весяліў людзей. Перад выхадам на пенсію рамантаваў вузкакалейную чыгунку ад станцыі Нёман да шклозавода "Нёман", некалькі гадоў працаваў у камунальнай гаспадарцы г.п. Бярозаўка, затым у Нёманскай школе.

У брыгадзе было дзесьці да пяцідзесяці чалавек. Нас малодшых адправілі на пашырэнне чыгункі па савецкіх стандартах ад станцыі Нёман да Ліды. Працавалі амаль увесь светлавы дзень, спалі па суседству ў вёсках на сенавале, па чарзе хадзілі па харчаванне. Віды працы чаргавалі, каб часткова адпачыць, набрацца сіл на больш цяжкую. Адны выцягвалі каштылі: другія адсоўвалі рэйкі на папярэдняе месца, рыхтавалі калочкі і забівалі ў старыя і новыя адтуліны ад каштылёў, падганялі падкладкі, выконвалі самую адказную працу. Забівалі каштылі. Старэйшыя працаўнікі ішлі з шаблонам і канчаткова рыхтавалі рэйку адносна другой, якая заставалася на месцы.

Пасля пашырэння чыгункі да Ліды нас перакінулі на будаўніцтва драўлянага чыгуначнага маста ніжэй па рацэ Нёман побач з жалезным, з дзвюма ўзарванымі апорамі. Часова, па накладзенаму дашчанаму насцілу, хадзілі чыгуначнікі і рухаліся пяхотныя часткі і маршавыя роты.

Насілкамі, тачкамі, ваганеткамі і вазамі ішла адсыпка да новага маста. Асноўныя работы

па падрыхтоўцы слупоў і перакрыцця рыхтавалі салдаты мостабудоўнічага цягніка. З боку Баранавіч выгрузілі вялікі цягнік сібірскага лесу. З раніцы да позняй ночы з перапынкам на абед часалі бярвенні, насаджвалі на іх наканечнікі. Наклаўшы "каптуры", капрам забівалі сваі да магчымага паглыблення, зразалі гарызантальна на адным узроўні. На іх клалі накрыж, чэсаныя з двух бакоў, шырокія бярвенні, а на іх ставілі новыя слупы, затым рабілі перакрыцце.

Усю канструкцыю замацоўвалі жалезнымі штырамі рознай даўжыні і таўшчыні. На ўстоі паклалі жалезныя бэлькі, на іх шпалы і рэйкі.

Закончыўшы адсыпку пад'езду да маста, мы прадоўжылі працаваць на сваім адрэзку чыгункі на раз'ездзе Ганчары. У канцы жніўня мост быў пабудаваны. Наступіў дзень выпрабавання на трываласць. Дзесяць паравозаў на зусім малой хуткасці пасунуліся на мост. Усіх ахапіла трывога. Пачуўся трэск. І так туды-назад некалькі разоў. Калі маставая лабараторыя прыступіла да зняцця паказчыкаў, стала вядома, што месцамі мост даў асадку да дваццаці сантыметраў. Дзень пайшоў на падняцце шпал, рыхтоўку, паўторнае замацаванне рэяк.

З гэтага дня бесперапынна назіраўся рух цягнікоў з вайсковай тэхнікай і людзьмі. Цягнікі па мосце ішлі павольна. Вада каля ўстояў вымывала пясок. Давялося дзесяткі вагонаў скальных каменняў (не круглых) скінуць у рэчку, што захавала мост ад падмыву.

Вераснёўскім днём на раз'езд Ганчары прыехаў касір выдаваць нам першы заробак. Адначасова ішла падпіска ў фонд абароны. Тады ўбачылі салдат Арміі Людовай. Цягнік доўга стаяў. Іграў духавы аркестр, салдаты ля кустоў, на насыпе абедалі. У гутарцы даведаліся, што частка прымала ўдзел у баях пад Леніна.

Хаця іх добра пабілі, выгляд быў бравы, начышчаныя, памытыя і ў добрым настроі.

Мы пачалі працаваць па восем-дзесяць гадзін у суткі, у нядзелю адпачывалі. У адзін з вечароў пры падыходзе цягніка з танкамі пад ухіл на стрэлцы з боку станцыі Нёман адбылася аварыя. Астрак стрэлкі недастаткова прытуліўся да рэйкі. Паравоз і два вагоны з танкамі рухаліся проста, а два другія – на бакавую каляю. Нічога не перавярнулася: паравоз зарыўся ў зямлю на паўметра, стаўшы наўскасяк каляі і сагнуўшы адну рэйку ў дугу, танкі засталіся на платформах. Цягнік тармазіў – павінен быў затрымацца. Танкісты спалі ў двух вагонах пасярэдзіне цягніка.

Па адпрацаванай сістэме дзесьці а чацвёртай раніцы мне перадалі, каб тэрмінова з'явіўся на чыгунку. Такіх кірункаў было чатыры на суседнія вёскі і хутары, каб маглі хутка з'явіцца на працу. Хлопцы ўжо рабілі каляю ў абыход паравоза і раніцай цягнікі пайшлі. Мне давялося тры дні працаваць на пад'ёме паравоза. Уручную падвялі рэйкі пад колы паравоза, ручнымі дамкратамі раўнялі шпалы і рэйкі, пад паравозам забівалі каштылі. Другі паравоз паціху выцягнуў аварыйную машыну на асноўныя рэйкі.

Па расшыранай каляі пачаў курсаваць рабочы цягнік з пяці-шасці двухвосных таварных вагонаў з драўлянымі стойкамі. Скрыпучы цягнік павольна рухаўся з Ліды да станцыі Нёман і другі – з Баранавіч да рэчкі. Адкрыўшы рух цягнікоў па мосце, чыгуначнікі назвалі яго прыгарадным. У вагонах працавалі праваднікі, гарэлі свечкі, зімою абагравалі "буржуйкамі". З зімы 1944-1945 года раніцай цягнік ішоў у Ліду, а затым – варочаўся ў Наваельню, вечарам паўтаралася. Расклад руху складаўся так, каб рабочыя чыгункі маглі паспець на працу на восем гадзін раніцай і вечарам. Чыгуначнікі, якія абслугоўвалі дарогу, у асноўным працавалі па дванаццаць гадзін.

Вясною 1945 года таварныя вагоны замянілі нямецкімі трафейнымі. Мелі яны цікавую канструкцыю. Па баках было (не помню добра) па чацвёра дзвярэй і лаўка з канца ў канец вагона, вышэй на сцяне – поручні. Падчас руху цягніка пасажыры свабодна хадзілі, трымаючыся за поручні.

У адзін з вераснёўскіх дзён рабочым цягніком прыехаў на станцыю Нёман будучы настаўнік беларускай мовы Голуб. (Там я працаваў па камандзіроўцы.) Ён прывёз аб'яву аб арганізацыі ў Лідзе педагагічнай навучальні. Навучэнцы трэцяга курса атрымоўвалі бронь. З 1 кастрычніка, атрымаўшы разлік на чыгунцы, я стаў студэнтам трэцяга курса. Павялічылі тэрмін навучання і колькасць урокаў у тыдзень, на колькі маглі скарацілі праграму. Вучыліся ў двухпавярховым будынку, што супраць цяперашняй першай школы. Там знаходзіўся наш інтарнат. У тым будынку ў 1939-40 навучальным годзе размяшчалася другая школа. У канцы траўня 1945 года будынак дзе зараз педнавучальня быў вызвалены вайскоўцамі і перададзены нам. Перавялі туды і інтарнат.

З 1 жніўня 1944 года пачаў працаваць РАНА. Першы месяц загадваў ім Савонь Віктар Іванавіч, а з 1 верасня ўжо працаваў дырэктарам Сялецкай (пазней назвалі яе Нёманскай) сямігадовай школы. Не вярнулася на сваё папярэдняе месца ў вёску Дзітрыкаўская пачатковая школа, як я пісаў, будынак яе спалілі "чырвоныя" партызаны.

Назначаны загадчыкам Дзітрыкаўскай пачатковай школы Буйніцкі Канстанцін Іванавіч і настаўніца Шуціла (Кудла, у дальнейшым у дужках прозвішча ў замужжы) Зоя Іванаўна арганізавалі яе ў хаце Ненартовіча ў вёсцы Жучкі. У школу хадзілі дзеці з вёсак Жучкі, Барвічы, Дзітрыкі і Жомайдзі.

Аповяд пра нашу школу вярнуў успаміны пра вучобу ў педнавучальні. Доўгія сталы і лаўкі былі спісаны на нямецкай мове. Паставілі іх не

папярок класа, а тарцамі да дошкі з разлікам, каб больш змясцілася навучэнцаў, сеўшы з двух бакоў. Падручнікаў практычна не было. Вучыліся, чытаючы па чарзе два-тры падручнікі на курс. Канспекты з'яўляліся нашым выратаваннем. Паглядзелі бы на нашы сшыткі, сапраўды сшытыя са старых нямецкіх улётак, нейкіх квітанцый, шпалераў! У іх канспектавалі педагогіку, гісторыю, геаграфію і іншыя прадметы. У купленых сшытках пісалі на мове, матэматыцы і малявалі.

Запомніў прозвішчы такіх выкладчыкаў: Фралоў (дырэктар) – выкладаў гісторыю, Кардаша (завуч)- выкладаў педагогіку і псіхалогію, Голуб – беларускую мову, Патапенка – матэматыку і Лілея Праскачыла – сакратар педнавучальні.

Была цёплая бязвоблачная раніца 9 траўня 1945 года. Цвілі сады, пахла мядовым водарам. Пачуліся разрозненыя стрэлы то ў адным, то ў другім канцы горада, затым чэргамі, і ўсё гэта злілося ў рознагалосую страляніну. Хлопцы адчынілі акно. З вуліцы несліся крыкі: "Перамога! Перамога!"...

Заняткі ў школах і педнавучальні праходзілі з парушэннем раскладу. Горад лікаваў, радаваўся канцу цяжкай вайны. Дамоў прыехаў вечарам: аднавяскоўцы паверылі, прачытаўшы газету "Уперад". На вёсцы не было радыёпрыёмнікаў.

Апошні год вайны вёска працавала напружана. Мужчын стала менш: прызвалі ў армію, пайшлі працаваць на чыгунку, на прадпрыемствы ў Сяльцы, Бярозаўцы і Лідзе. Стала не да святаў. Кожны дзень аддаваўся гаспадарцы: малацьба зімою, сяўба вясною. Усе, хто мог, прыязджалі пасля працы, штосьці рабілі. Я таксама вясной араў, сеяў і баранаваў. Мама прасіла родзічаў, суседзяў аб дапамозе. Старэйшага брата Ціхана ў трэці раз мабілізавалі ў армію ваяваць з немцамі-фашыстамі. А працаваць патрэбна было! Хочаш не хочаш, аддавай грошы на заём развіцця і ў фонд абароны.

Як не цяжка было, але гаспадары падчас вайны палепшылі матэрыяльныя ўмовы, хаты і падворкі займелі прывабны выгляд: агарадзіліся, сады давалі ўраджай. У светлай палавіне хаты амаль ва ўсіх з'явіліся драўляныя падлогі, радзей на кухні, у сенях і каморы. Паўсюдна гналі самагонку і жытоўку з жытняй мукі! Самагонку прадавалі, мянялі на соль, цукар, дрожджы, адзенне. У чым толькі не хадзілі ў той час! На рынку куплялі керзавыя вайсковыя боты і камашы, афіцэрскія хромавыя боты, салдацкую бялізну, гімнасцёркі і галіфэ: шынялі перашывалі ў бравэркі, паўпаліты. Складаней было з верхнім нямецкім абмундзіраваннем. Ніхто не хацеў "красавацца" ў іх светла-зялёным адзенні. Даводзілася распорваць і фарбаваць у цёмны колер. Шылі з іх бравэркі, галіфэ і порткі. Хто не хацеў бразгаць кавaнымі нямецкімі ботамі ці камашамі, той зрываў цвікі.

Час ад часу на хутарах галасілі родзічы, якія атрымалі вестку пра загінуўшага сына ці бацьку. Цяжка перажывалі, балюча было ў апошнія дні вайны атрымоўваць жалобныя весткі. Не абыходзілася без мясцовых здарэнняў. Сівіцкі Федзя ў пачатку 1945 года выпадкова выстраліў у сябе. Зыход смяротны. Нёс ён тады варту Лідскага камбіната харчовых вырабаў.

Для мяне наступіў адказны перыяд дзяржаўных экзаменаў. Педнавучальня канчаткова перабралася ў цяперашні будынак. Тут часова размясціўся наш інтарнат. Вялікія светлыя класы, прасторыня калідоры. Усё гэта радавала і весяліла. Мы з новымі намаганнямі вучыліся і працавалі. Здаўшы дзяржаўныя экзамены: адпачыўшы некалькі тыдняў, паехалі працаваць у школах. Лідскі РАНА паслаў мяне ў Цыбарскую пачатковую школу з 1 жніўня 1945 года. Правёў там перапіс вучняў, падрыхтоўку памяшканняў, а з 1 верасня настаўнічаў у Дзітрыкаўскай пачатковай школе, што знаходзілася ў вёсцы Жучкі. Загадвала ёю Шуціла (Кудла) Зоя Іванаўна, мая настаўніца ў Ганчарскай сямігадовай школе па беларускай мове падчас вайны. Буйніцкі Канстанцін Іванавіч працаваў у Ганчарах.

Буквары з цяжкасцю атрымалі праз паўтара месяцы. Новых і захаваўшыхся з папярэдняга навучальнага года хапала па аднаму на дваіх – траіх вучняў. Дзеці вучыліся з вялікім жаданнем і амаль да Новага года, як і патрэбна было згодна з праграмай, валодалі тэхнікай чытаня. Пісаў, што добрую дапамогу аказала нам раённая газета "Уперад" Закупіўшы некалькі разоў патрэбную колькасць асобнікаў, даваў для дамашняга практыкавання ў тэхніцы чытання тыя або іншыя больш лёгкія і зразумелыя артыкулы. На сходах прасіў бацькоў, каб яны далучаліся да гэтай працы і сумесна з дзецьмі чыталі больш цяжкі матэрыял. Буквары і падручнікі куплялі па разнарадцы ў крамах райспажыўсаюза. Прылады для вучобы - таксама, але ў мясцовых крамах.

З вялікай цяжкасцю майстравалі мэблю ў класах. Пра парты ніхто не гутарыў: быў бы доўгі стол, а пры ім лаўкі, збітыя з прынесеных бацькамі дошак, паструганыя зверху. Тут мацавалі ў ямках чарніліцы і ручкі. Чарніла вылівалася, мазала парты, падлогу, адзенне, што выклікала нараканні дзяцей і бацькоў.

За такімі сталамі сядзела тры – чатыры вучні. Нязручна было выйсці да дошкі, і гэта займала шмат часу. Дошкі, хоць і былі пафарбаваныя на чорна, але праз паўтара месяцы выглядалі амаль белымі.

Перафарбоўвалі. Крэйда з пяском хутка зноў вярталі іх у той самы стан. Раніцай гарэлі дзве дзесяцілінейныя нафтавыя лямпы. У такіх

умовах адны вучні гарбаціліся, другія чуць не стаялі за сталом падчас пісьма. Сталы рухаліся, вучні хваляваліся і злаваліся.

Помню першы пасляваенны заробак. Складаў ён 525 рублёў без вылічэнняў, а пуд мукі – 500 руб. Бясплатна ў месяц выдавалі два літры нафты. Яда і асвятленне для напісання канспектаў і праверкі сшыткаў! На кастрычніцкія святы і на Новы 1946 год за грошы бацькоў вучням выдалі ў краме цукеркі і сухарыкі.

Добра памятаю, што з таго класа Кухарскі Вячаслаў Уладзіміравіч з нашай вёскі закончыў сельскагаспадарчую вышэйшую ўстанову, працаваў аграномам у кагасе "Запаветы Ільіча" і перад выхадам на пенсію – дырэктарам горпаліва.

Савонь з вёскі Барвічы закончыла настаўніцкі інстытут, працавала і жыве ў вёсцы Табала.

Нядоўга я вучыў дзяцей разумнаму і светламу будачаму, бо ў студзені 1946 года мяне паклікалі ў Чырвоную Армію. Нечакана ў першыя дні зімовых канікул атрымаў выклік у Лідскі гаррайваенкамат. Там аб'явілі, каб ехаў у Гародню на перасыльны пункт. Напэўна будзе цікава, як у той час пасылалі туды: без "п'янага" застолля, без музыкаў і суправаджэння перад ад'ездам у ваенкамат.

Выпісалі патрэбныя паперы на атрыманне чыгуначнага білета, і я адзін даехаў да Гародні. Перасыльны пункт мясціўся супраць старога вакзала на круглай клумбе ў былым нямецкім шчытавым памяшканні. Там сустрэў хлопцаў з-за Беліцы, якія таксама самастойна прыехалі на некалькі дзён раней: Гур'ян Міхаіл Міхайлавіч (вёска Панямонцы), Камянецкі Мікалай Аляксандравіч (в. Красная) і Лянцэвч Якаў Піліпавіч (в. Красная). Праслужылі яны па шэсць-сем гадоў. Шмат у той час дэмабілізавалася салдат старэйшага ўзросту, не хапала мужчын-прызыўнікоў.

Амаль месяц пражылі на "перасылцы". На сярэдзіне яе стаяла "галандка". Жыхары мяняліся. Дошкі з ложкаў знікалі і ішлі на ацяпленне. Ноччу нас пасылалі па вугаль пад чыгуначнае дэпо. Спалі на двух дошках без матрацаў і падушак, у адзенні. Холад, мокрыя камашы не дапамагалі адпачынку. Пасля ночы можна было застацца без абутку, бо лепшы прадавалі на рынку.

Каго толькі не было там! Чырвонаармейцы, дэмабілізаваныя і адстаўшыя ад цягніка, яны не мелі дакументаў і чакалі далейшай адпраўкі. Афіцэры, яны жылі ў невялікім пакойчыку побач з намі. Вечарамі выпівалі і спявалі, не без дзяўчат. Мы былі без прыгляду. Толькі раніцай начальнік пункта, капітан, перад нашым featзнакаляровым шыхтам, заклаўшы рукі за спіну ў рукавы залёнага з англійскага сукна шыняля, хадзіў туды-сюды і чытаў "натацыю" на такім блатным жаргоне, якога не чуў да таго часу. Лаянка, пагрозы сыпаліся, "як з рога". Затым пасля снядання да абеда пасылалі нас на розныя работы. Некалькі разоў і я хадзіў у горад і за раку Нёман пілаваць і калоць афіцэрам дровы. Жонкі іх прасілі, каб закончылі работу, кармілі нас, і мы працавалі да вячэры. Частка хлопцаў дзяжурыла ў памяшканні, наводзіла парадак, даглядала печку, вакол пункта чысціла ад снегу, збірала і выносілі смецце.

Некалькі разоў наведаў дваюрадную сястру па вуліцы Карла Маркса. Вечарам завітаў у інтарнат педагагічнага інстытута да сяброў па педнавучальні.

Як зайдросціў "белай" зайздрасцю Анацкаму Васілю Васілевічу, Падагелю Арсеню Іларыевічу. Дрэвіну Георгію Уладзіміравічу і Таўкуну Міхаілу Рыгоравічу – хлопцы здабывалі веды. Прайшоўся ў абодвых кірунках па віуліцах і ўспомніў вечар 21 чэрвеня 1941 года – майго перадваеннага падарожжа ў вёску Гожа.

У сталовую мы хадзілі свабодна ў вызначаны час. Прайсці праз вакзал, каляі, падняцца наверх на другі бок вуліцы і зайсці ў будынак падобны на перасыльны пункт. Кармілі там добра. Мы гэта часта ўспаміналі потым у Лунінцы.

Хлопцы з суседніх раёнаў у суботу і нядзелю ездзілі дахаты. У гэтыя дні нас ніхто не правяраў, капітана не бачылі. Пасля такіх ад'ездаў, некаторыя хлопцы не вярталіся. Кантроль за намі ўзмацнілі, але да лепшага не прывяло.

Асабліва запомнілася паездка ў Марцінканцы па дровы. Штосьці пад аповесць "Як гартавалася сталь". Вечарам, выбраўшы з шыхту чалавек дваццаць у добрым адзенні і абутку, загадалі нам рана пасля снедання прыгарадным цягніком ехаць да Марцінканцаў. Адтуль вёрст пятнаццаць-вузкакалейкай у лес да месца нарыхтоўкі дроў. Машыніст пустыя вагоны пакінуў, падчапіў гружаныя і падаўся да станцыі. Паабяцаў, што пасля абеду прыедзе па нас.

Надыходзіў вечар ехаць не было чым, мароз павялічыўся да 20 гр, сухі паёк за абед мы з'елі. Сяржант, які суправаджаў нас, парашыў чакаць цягнік да цямна. Расклалі вялікае вогнішча. У яго кідалі мятровыя палены. Дровы сухія – гарэлі добра. Вакол вогнішча паклалі раўнейшыя кавалкі. Можна было сесці ці трохі прылегчы. Усю ноч прасядзелі, драмалі, пакуль не замярзаў адзін бок, паварочваліся, адаграваліся і так па-новаму.

Раніцай сяржант мяне і хлопца, які даведаўся ад лесніка пра сваю цётку, што жыла за некалькі кіламетраў у вёсцы побач з чыгункай, адправіў туды па харчы. Вёсачка невялікая, хатаў дваццаць. Пабудаваная на пясчанай дарозе-вуліцы ў беспарадку на ўзгорках і блізкіх хутарах каля вузенькай рэчкі.

Цётка жыла на другім канцы вёскі далей ад чыгункі. Пачалі заходзіць у хаты. У нас доўга

пыталі, мы адказвалі. Здаралася , не рады былі нашаму наведванню, але плечакі паволі напаўняліся: хлебам, салам і хатняй каўбасой. Хаты звонку непрывабныя абыходзілі.

Зайшоўшы ў даволі чыстую з драўлянай падлогай хату, убачылі чалавек пятнаццаць гадоў дваццаці пяці – трыццаці. Садзелі яны на двух доўгіх лавах. Хлопцы у дабротным новым адзенні і абутку. Адзін з іх у бравэрцы, перашытай з польскага шыняля. Другі ў паліто з такога ж сукна. Большасць перавязаны папругамі, а некалькі з дапаможнымі папругамі цераз плячо. Нам прапанавалі прайсці і сесці каля стала. Не, хлеба і сала нам тут не будзе! Пачалі падрабязна пытаць хто мы, адкуль, што робім тут, чаго зайшлі і ўсё такое. Не па сабе сталася. Абышлося без "падарункаў", і мы выйшлі з хаты. Хутчэй завіталі да цёткі. Накарміла расольнікам і печаным салам з яйкамі. Прымусіла распрануцца і разуцца, залезці на вялікую гарачую печ пасушыцца, падрамаць.

У гутарцы цётка асцярожна падказала аб нядобрых людзях, пабачаных намі ў вёсцы. Пазней у Гародні нам стала вядома, што ў тых мясцінах хаваліся рэшткі Арміі Краёвай. Чым закончылася бы наша "вандроўка" па харчы, калі б з намі пайшоў сам сяржант. Быў ён з аўтаматам ППШ. У апошні час передумаў і застаўся ў лесе.

Хлопцы падсілкаваліся, ім пацяплела і людзі павесялелі. Ваду замяніў снег і лёд. Пасля абеду машыніст апраўдваўся: паламалася "кукушка" (так назывілі паравозік): не змог у тэрмін забраць нас. Прыехалі ў Марцінканцы вечарам: прыгарадны адышоў. Да раніцы прабылі ў халодным і цёмным вакзале. Раніцай у неацепленым цягніку прыехалі ў Гародню. Назаўтра хлопцы загрузілі дровы ў вялікія вагоны. У Гародні вагоны разгружаў увесь перасыльны пункт.

Наступіў дзень ад'езду ў вайсковую частку. Вечарам размясцілі нас у пасажырскім вагоне. Каму не хапіла месца, забраўся на верхнюю багажную лаўку. "Купец" не сказаў, куды едзем. Да Лунінца дабіраліся амаль суткі. Вагон доўга штурхалі на станцыі ў Гародні. У Мастах, Ваўкавыску і Баранавічах то адчэплівалі, то прычэплівалі да пасажырскіх ці таварных цягнікоў. У дарозе харчаваліся сухім пайком. Вячэралі ў Лунінцы.

Начальнік Асобай 267 артылерыйскай брыгады маёр Запарожац вёў гутарку з кожным прызыўнікам і накіроўваў у асноўным у вучэбны аўтамабільны батальён. Прагледзеўшы маю службовую справу, учыніў мне экзамен па рускай мове. Загадаў напісаць: "Приказ по 267 отдельной артиллерийской бригаде..." Прачытаў і сказаў: "Усё добра, нават у слове "артиллерия" два "л". Будзеш працаваць у нашым штабе". Я штосьці пярэчыў і прасіў адправіць вучыцца на шафёра. У адказ пачуў: "У арміі загадваюць. Мы лічым, што ў штабе патрэбны пісьменныя су-працоўнікі, і тут ты прынясеш больш карысці". Пазней я пераканаўся, як цяжка было пацаваць з недастаткова падрыхтаванымі афіцэрамі шта-ба. Загады і матэрыялы падрыхтаваныя маёрам Запарожцам не патрабавалі далейшай апрацоўкі і складаліся зразумела і пісьменна. За ўвесь перыяд працы з ім, я не чуў ад яго ні аднаго абражальнага слова. Афіцэры і салдаты яго паважалі і любілі. Потым стала вядома: закончыў ён на-стаўніцкі інстытут.

Роўным яму быў капітан Віхроў. Закончыў таксама настаўніцкі інстытут, доўга працаваў у школе. Будучы начальнікам адзела кадраў, выконваў вялікі аб'ём працы. Стаў маім непасрэдным начальнікам. Афіцэр інтэлігентны, у сапраўднасці ведаў сваю справу. Тады ішла суцэльная дэмалілізацыя, разфармаванне частак, утвораных падчас вайны. Працы хапала і працавалі нават вечарамі. Некалькі разоў ездзілі ў Гародню ў штаб арміі і рабілі выпіскі з загадаў, каб прыспешыць дэмабілізацыю афіцэраў, хто па тых або іншых прычынах падыходзіў пад звальненне ў запас.

Выдалі мне даведку, згодна з якой меў дазвол хадзіць па горадзе цэлыя суткі. Вольнымі вечарамі хадзіў у гарадскі кінатэатр, нядзелямі – на рынак. На рынку і ў магазінах купляў патрэбныя рэчы таварышам з каменданцкага звязу. З капітанам Віхровым наведаў прадстаўленне тэлепата Меснера. Сапраўды, палавіна залы паднялася на сядзенні, бо ім падалося, што пацякла вада. Другая палавіна – засталася на месцы.

Цяжка жылося афіцэрам, асабліва сямейным. Мой капітан выклікаў жонку і чатырох дзяцей з эвакуацыі. Да іх прыезду Віхроў са мной прывёў у адпаведныя ўмовы пакінуты маленькі драўляны домік амаль побач са штабам. Адрамантавалі печы, нарыхтавалі дроў. Як радавалася дамашняму жыццю і як дзівілася яго жонка багаццю харчоў на рынку.

А мы салдаты дзівіліся дзяўчатам – паляшучкам, што наведвалі рынак з суседніх вёсак. У сакавіку-красавіку былі добрыя маразы, а яны ў акуратна зробленых лапцях і накручаных да калень белых анучах, замацаваных ільнянымі вяроўкамі да голых калень. Чырвоныя ад марозу, хадзілі па рынку, харашыліся, уступалі ў размовы з салдатамі. Мы з гумарам і ветлівасцю адказвалі, заглядалі ў белыя палатняныя торбы, вышытыя зверху і замацаваныя на плячы вяроўкай. Нагадвалі цяперашнія жаночыя сумачкі. Прыязджалі паляшукі на рынак чайкамі. Прывязвалі іх ля берага Прыпяці дзесяткамі. Тут жа на беразе ракі на лодках ішоў бойкі гандаль вялікімі рэчамі: збожжам, парасятамі, цялятамі і авечкамі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**Увыдавецтве “Неўскі прасцяг”,**
**г. Санкт-Пецярбург выйшла кніга**
**Яўгена Міраловіча**
**“Найноўшая гісторыя Беларусі”**
**Наклад 3000 асобнікаў.**
**244 ст.**




**Увыдавецтве Праграмнай рады тыднёвіка**
**“Ніва”, г. Беластокy выйшла кніга**
**“Пакаленне вайны”**
**300 ст.**




**Увыдавецтве “Энцыклапедыкс”,**
**г. Менск выйшла кніга**
**Захара Шыбекі**
**“Нарыс гісторыі Беларусі.**
**1795-2002”.**
**Наклад 2500 асобнікаў.**
**500 ст.**




**Увыдавецтве “Беларусь”,**
**г. Менск выйшла кніга**
**М.В. Доўнар-Запольскага**
**“История Белоруссии”.**
**Наклад 3500 асобнікаў.**
**680 ст.**




**Увыдавецтве “Беларусь”,**
**г. Менск выйшў**
**энцыклапедычны даведнік**
**“Беларуская міфалогія”.**
**Наклад 3000 асобнікаў.**
**592 ст.**




**Увыдавецтве “GAWIA”,**
**г. Познань выйшла кніга**
**Казіміра Нехвядовіча**
**“Moje Sobotniki”**



***Тадэвуш Касцюшка.*** Шпіятр. Невядомы аўтар. Захоўваецца ў прыватнай калекцыі Уладзіміра Леванцэвіча ў г. Лідзе.